ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 9 № 9






МЕНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1934



# ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

**Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.**

ЧАСОПІС

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і соўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад намі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце парторганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1934 год

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| 24 нумары ў год | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | Кошт аднаго нумара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | — | 3 | — | — | 50 | 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 9
15-га МАЯ 1934 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:

Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21 044.





**Н. Ф. ГІКАЛО**

Сакратар ЦК КП(б)Б

# Даб'ёмся высокага ўраджаю.

Беларусь скончыла сяўбу 23 мая, гэтым самым яна вышла ў шарэнгу перадавых абласцей і краёў. К 25 МАЯ РЭСПУБЛІКА ПЕРАВЫКАНАЛА ДАДАТКОВЫ ПЛАН СЯЎБЫ ЗЕРНАВЫХ У 65 ТЫСЯЧ ГЕКТАРАЎ І ЗАКОНЧЫЛА СЯЎБУ ЛЁНУ.

У 1932 годзе веснавая сяўба цягнулася да паловы чэрвеня, і ўсё-ж план сяўбы не быў выканан. У 1933 годзе сяўба цягнулася да 20 чэрвеня. Параўноўваючы даныя сяўбы гэтага года з папярэднімі двума гадамі, выразна бачыш, што найшырэйшыя масы калгаснікаў чэсна, па-гаспадарску адносяцца цяпер да калгаснай працы. Партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі ў гэтым годзе лепш працавалі, лепш кіравалі калгаснай вытворчасцю, навучыліся больш глыбока і ў той-жа час больш канкрэтна падыходзіць да кожнага пытання.

Характэрнай асаблівасцю сёлетняй веснавой сяўбы з'яўляецца яе роўнамернасць. Амаль адначасова ўсе раёны к 20 мая закончылі сяўбу, адставала толькі некалькі раёнаў.

Асабліва важнай акалічнасцю мы лічым тое, што аднаасобнікі ў гэтым годзе следавалі па тэмпах сяўбы за калгасамі. Гэтаму спрыяла ўказанне ЦК ВКП(б) у пачатку красавіка на нездавальняючае становішча работы з аднаасобнікамі ў некаторых раёнах Беларусі (Магілёў, Гомель, Жлобін). ЦК КП(б)Б падняў на ногі ўсю партарганізацыю і дабіўся рашучага палепшання работы з аднаасобнікам.

У час сяўбы па ўсёй Беларусі мы мелі значны прыліў аднаасобнікаў у калгасы. У некаторых раёнах, напрыклад у Рагачоўскім, амаль падвоіўся процант калектывізацыі.

Неабходна адзначыць сціслыя тэрміны сяўбы такіх культур, як лён і авёс. План пасеву лёну к 15 мая 1934 года быў выканан на 94 проц., тады як у 1933 годзе 15 мая план быў выканан толькі на 30 проц. Сяўба яравых зернавых 15 мая 1934 года закончана з перавышэннем на 5,5 проц., а ў 1933 годзе на тое-ж чысло было выканана 51,8 проц. плана.

Веснавая сяўба 1934 года знамянуе сабой пералом у вёсцы Савецкай Беларусі, паказаўшай нябачаныя раней тэмпы і якасць сяўбы. Сяўба 1934 года прайшла, па-першае, пад знакам масавага сацыялістычнага спаборніцтва, у якое былі ўцягнуты раёны, сельсоветы, калгасы, брыгады і радавыя калгаснікі. Сяўба 1934 года прайшла, па-другое, пад знакам разгорнутай барацьбы за якасць сяўбы. Барацьба за якасць стала здабыткам мас. У камісіях па якасці прымалі ўдзел дзесяткі тысяч людзей. У гэтым факце ярчэй за ўсё адлюстроўваюцца новыя адносіны сялянскіх мас да калектывізацыі і калектыўнай працы, да рэзультатаў сваёй працы. Радавы калгаснік ужо зразумеў,

што калгас—яго родная справа. Таму так бязлітасна і сурова змагаецца калгасная маса з бракаробамі.

Але, канстатуючы буйнейшыя поспехі, мы ні на хвіліну не забываем аб значных недахопах, якія яшчэ ёсць у нашай рабоце. Мы маглі і павінны былі скончыць сяўбу раней, чым 23 мая. Нас затрымлівалі перш за ўсё соўгасы. У радзе раёнаў яшчэ дрэнна быў арганізован аднаасобнік. У 8—10 адстаючых раёнах была ўскрыта дрэнная падрыхтаванасць да сяўбы. Як агульная з'ява, мы мелі дрэнныя адносіны да каня, а месцамі затрудненні з кармамі. Ва многіх калгасах коні перад сяўбой былі ў нездавальняючым стане. Не было ў нас даволі цвёрдага кантролю за захаваннем насення, у рэзультаце чаго ў радзе калгасаў насенне было разбазарана або папсавана. І ўжо ў працэсе самой сяўбы прыходзілася адшукваць добраякаснае насенне.

Вопыт мінулых гадоў паказаў, што самым слабым участкам нашай работы з'яўляецца лён. З года ў год мы лён недасявалі. Сама сяўба лёну праводзілася дрэнна. Планы ільназагатовак не выконваліся. Таму першая задача, якую мы сабе ставім,—гэта ўнікнуць памылкі мінулых гадоў, дабіцца ў гэтым годзе рашучага палепшання апрацоўкі і догляду лёну. Мы ўжо пачалі першую праполку лёну. Перадавы ільнаводчы Сенненскі раён ужо закончыў першую праполку. Мы строга прасочым за тым, каб лён быў прапалат не менш 2-х раз.

Мы маем зараз добрыя ўсходы яравых, абяцаючыя высокі ўраджай. Віды на ўраджай азімых таксама здавальняючыя. Гэта—рэзультат высокай якасці і сціслых тэрмінаў сяўбы. Але ўсё-такі высокі ўраджай трэба яшчэ заваяваць. Таму мы побач з праполкай лёну дабіваемся праполкі ўсіх зернавых. Прыклад перадавых раёнаў (Барысаў, Слуцак і інш.) паказвае, што гэту задачу безумоўна можна выканаць.

Другая задача, якую мы павінны вырашыць,—гэта быстрае правядзенне папаравай кампаніі. У гэтай галіне мы ўжо маем пэўныя поспехі, чаго нельга сказаць аб падняцці цаліны. ЦК комуністычнай партыі Беларусі прыходзіцца рашуча ламаць настроі бяспечнасці і благадушнасці, якія ёсць адносна цаліны ў радзе раёнаў.

Сур'ёзнай гаспадарча-палітычнай кампаніяй з'яўляецца і своечасовае правядзенне сенакосу. Нельга дапускаць паўтарэння памылак мінулага. Не павінна быць ні аднаго гектара няскошанага і няўбранага сена. Закончыць сенаўборачную кампанію поўнасцю да ўборкі зернавых—такі наш лозунг.

Перыяд паміж сяўбой і ўборкай павінен быць выкарыстан для кароткатэрміновай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі калгасных кадраў, адначасова са смелым вылучэннем лепшых ударнікаў і ўдарніц на пасты брыгадзіраў, старшынь калгасаў.

Кожны калгас, соўгас павінны неадкладна арганізаваць сапраўдную ахову і абарону ўраджаю. Трэба мець на ўвазе, што класавы вораг—кулак, белагвардзеец—і ў гэтым годзе будзе яшчэ прабаваць шкодзіць соцыялістычнай гаспадарцы, соцыялістычнай уласнасці.

Калгаснікі і аднаасобнікі Беларусі, савецкія, партыйныя органы ўпэўнена ўступаюць у перыяд падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі, упэўнена рыхтуюцца да выканання абавязацельстваў перад дзяржавай па зернапастаўках, бульбапастаўках і ільназагатоўках. Яны гараць жаданнем дабіцца ва ўборцы яшчэ большых поспехаў, чым у

час сяўбы. І яны даб'юцца гэтага. Зарукай гэтаму служыць той велізарны вытворчы і палітычны ўздым шырокіх працоўных мас вёскі, калгаснікаў і аднаасобнікаў, які праяўляўся ўжо вясною.

Калгаснікі Беларусі ў рэзультаце веснавой сяўбы 1934 года моцна сталі на шлях заможнага культурнага жыцця.

Стаўка беларускіх буржуазных нацыяналістаў, рабіўшых спробы ў саюзе і па загаду замежных імперыялістаў адарваць Совецкую Беларусь ад СССР, імкнуўшыхся накіраваць сельскую гаспадарку Беларусі па шляху сталыпінскіх хутароў,—гэта стаўка канчаткова біта. Працоўнае сялянства Совецкай Беларусі сваёй самаадданай барацьбой на палях веснавой сяўбы 1934 года ярка прадэманстравала сваю бязмежную адданасць справе рабочага класа, партыі, справе Леніна—Сталіна, так сама як яно прадэманстравала гэта 14 год назад на палях Беларусі ў барацьбе за совецкую ўладу супроць белапольскіх акупантаў.

«ПРАВДА».

**Злоткін**

# Аб перабудове партыйнай работы ў прамысловасці[1])

Рэалізацыя рашэнняў XVII партз'езда немагчыма, калі ў адпаведнасці з імі не будзе забяспечана перабудова работы нашых партыйных арганізацый.

Успомнім толькі паасобныя, найбольш яркія моманты прынятага з'ездам другога пяцігадовага плана, і перад намі ва ўсю веліч паўстануць агромныя задачы, складанасць і труднасць іх вырашэння. Таварышам, занятым у прамысловасці, яны добра вядомы са штодзеннай практычнай работы. Нашы прадпрыемствы, абсталяваныя новымі механізмамі, будуць і ў далейшым безупынна ўдасканальвацца і к 1937 г. механізуюцца на 50—60 проц. за кошт новых складаных машын. Варта ўдумацца ў гэта, каб уявіць сабе, якія патрэбны рабочыя, якія партыйныя і комсамольскія сілы, арганізатары, кіруючыя кадры для гэтых нанова механізаваных, складаных прадпрыемстваў, для поўнага выкарыстання ўсіх унутраных магчымасцей вытворчасці, асабліва, калі ўлічыць, што большасць нашых рабочых прывыкла да старой тэхнікі.

А хіба не такі малюнак і ў сельскай гаспадарцы? Асвойваючы на сяўбе нашы трактары, мы яшчэ недастаткова эфектыўна іх выкарыстоўваем, а часта і ламаем. А што-ж будзе праз тры гады, калі 80 проц. асноўных сельгасработ—і ворыўных, і праполачных і ўборачных—механізуюцца? Мы яшчэ надта адстаем ад пастаўленых XVII з'ездам партыі патрабаванняў, часам недастаткова ўлічваючы і ўсведамляючы іх у барацьбе за той узровень прадукцыйнасці працы, якасць прадукцыі і зніжэнне сабекошту, якога патрабуе другі пяцігадовы план. Мы павінны дабіцца, каб кожны рабочы, на якім-бы рабочым месцы ні стаяў, быў тэхнічна ўзброен, меў поўную магчымасць ісці ў нагу са шпаркім ростам тэхнікі, каб кожны рабочы моцна ўсвядоміў палітыку нашай партыі, неабходнасць барацьбы за кожную дробязь на вытворчасці, за перабудову зарплаты, тэхнічных норм, за дыферэнцыяванае снабжэнне.

Рабочы, які нядаўна прышоў з вёскі, па сваіх навыках, па сваёй прыродзе не прывык яшчэ да той інтэнсіўнай працы, якой патрабуе ад яго тэхнічная ўзброенасць прадпрыемства, а часта нават і супрацiўляецца ёй. Тым часам любы канвеерны варштат прад'яўляе нам патрабаванні на чалавека новага тыпу. Трэба перапрацаваць псіхалогію селяніна, які прывык улетку працаваць ад зары да зары, а зімой ляжаць на печы, трэба дабіцца ад яго арганізаванасці ў рабоце, каб

---

[1]) Перапрацаваная стэнаграма даклада на нарадзе аб перабудове партыйнай работы прамысловых прадпрыемстваў.

ён сачыў за кожным момантам вытворчага працэса, за кожным рухам машыны.

Найвялікшае значэнне ў рэалізацыі гаспадарчых задач другой пяцігодкі мае перабудова партработы. Трэба забяспечыць партыйны ўплыў на кожным участку вытворчага працэса, на кожнага рабочага паасобку. Без партыйнага ўплыву, без сур'ёзнай, глыбока-вытворчай, партыйна-палітычнай, тэхнічнай і арганізацыйнай работы з кожным рабочым, на кожным звяне вытворчасці мы нічога не дасягнем. Кожны член, кандыдат партыі, кожны спачуваючы, комсамолец, стары рабочы-вытворца павінен стаць свядомым будаўніком, актыўным арганізатарам вытворчасці.

Пастаўленыя партыяй задачы мы здолеем выканаць толькі тады, калі кожны партыец будзе палітычным важаком на пэўным вытворчым участку, калі любое, нават самае дробнае звяно вытворчага ланцуга будзе знаходзіцца пад нашым сістэматычным партыйным наглядам. Ленінскае разуменне суадносін звяна і ланцуга ў нас часам недапушчальна скажаюць. Замест таго, каб па-ленінску ўхапіцца за асноўнае, рашаючае звяно і цягнуць увесь ланцуг уперад, бяруцца толькі за адно звяно, а пра ланцуг забываюць. І здараецца так, што сяўбу выцягваюць, а жывёлагадоўля адстае, на адно прадпрыемства навальваюцца, а пра ўсю прамысловасць няма клопату. Тым часам класавы вораг не дрэмле. Спусціш з вока толькі адзін які-небудзь участак, як ён туды пралазіць для шкодніцкай справы. Непаладкі на адным участку адбіваюцца на ўсім прадпрыемстве. Гэта пацвярджаецца здарэннем на сілавой станцыі Добрушскай фабрыкі, дзе не захоўвалі рэжыму водаачысткі: уся фабрыка стала, а з ёю і 3500 рабочых.

Усёй сур'ёзнасці перабудовы партработы многія таварышы яшчэ не ўсвядомілі. У іншага часам спытаеш аб тэхніцы партыйнай работы, аб змесце яе, аб тым, як яе трэба праводзіць, папросіш расказаць, як падрыхтоўваў пытанні, як ставіў іх, што ўдачна, а што няўдачна пастаўлена,—і часта адказу не атрымаеш, нават недаўменне выклічаш:—хіба гэта датычыць промфінплана, уплывае на яго выкананне? Вядома, што выкананне промфінплана—мэта, а партыйная работа—сродак, але нельга забываць, што без перабудовы партыйнай работы **сістэматычнае** выкананне промфінплана немагчыма. Яно будзе працякаць вельмі няроўнамерна: калі ў адзін месяц вы атрымаеце 105 проц., але не замацуеце іх, то на другі месяц будзе 60 проц. Толькі добра пастаўленая сістэматычная партыйная, масава-палітычная работа, нястомная барацьба за аўладанне тэхнікай ліквідуе тую штурмаўшчыну, якую мы бачым на многіх нашых прадпрыемствах.

Вось факт з Добрушскай фабрыкай. У мінулым годзе брыгада Жэброўскага правяла там глыбокую партыйную работу, сур'ёзную перабудову ў сістэме кіраўніцтва, арганізацыі працы і нават зарплаты. Але варта было брыгадзе Жэброўскага выехаць, як сістэма кіраўніцтва вярнулася да функцыяналкі, арганізацыя працы да абязлічкі, зарплата стымулявала дрэнную якасць, нізкую прадукцыйнасць, брак, перавыдатак матар'ялаў, і ад партыйнай работы нічога не засталося.

Прыехала новая брыгада—Чэрвякова, і фабрыка больш-менш справілася з красавіковым планам. Але бяда ў тым, што праробленае брыгадамі не замацоўвалася пасля іх ад'езду, не станавілася арганічнай часткай работы завода. За першыя 10 дзён мая месяца фабрыка не толькі не выконвае план, але стаіць перад пагрозай спынення, вываду са строю новай сілавой станцыі. Пачынаюць шукаць шкодніцтва, думаючы, што гэта стралося за 2—3 дні. Такія тэорыі ства-

рае ў прыватнасці начальнік сілавой станцыі, каб самому апраўдацца. Але аказваецца, што справа цягнецца ўжо 16 месяцаў.

Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што без сур'ёзнай перабудовы партыйна-масавай работы не выканаем сваіх задач. Вы будзеце і сябе і людзей дзёргаць, ад гаркома, ад райкома патрабаваць усё новых і новых і біць нядрэнных комуністаў. Мы тады толькі крычым і судзім чалавека, калі ён зусім заграз у твані, у балоце, і неўдамёк падумаць нам, што трэба выхаваць комуніста, своечасова сігналізаваць аб дрэннай рабоце, здолець выправіць яго недахопы. І вось крычым, што кадраў мала, давай людзей аднекуль зверху, а потым іх збіваем больш, як выхоўваем.

Вось чаму перабудова партработы з кожным комуністам—асноўная і рашаючая задача.

Структура нашых партарганізацый часта не адпавядае патрабаванням XVII партз'езда. Праўда, за апошні час, пасля раду праведзеных нарад, выпадкі скажэнняў у перабудове партыйных арганізацый зменшыліся, але ўсё яшчэ пануе шаблон. Возьмем к прыкладу Віцебск—там мы бачым галоўным чынам цэхавых парторгаў, г. зн. тое, што было ў Менску на першым этапе. У радзе арганізацый пераважаюць зменныя парторгі. У барысаўскай, напр., выбыла сярэдняе звяно, а ў віцебскай нізавое. Кожны ўясніў сабе толькі штонебудзь адно з усяго комплекса, прычым не адмовіўся ад шаблона, шматступеннасці, шматзвеннасці. А тым часам шаблон шкодзіць справе. Усё залежыць ад умоў работы прадпрыемства: калі на адным пазменныя парторгі, то на другім могуць быць іменна вызваленыя цэхпарторгі.

Тав. Чэрніенка гаварыў, што калі на фабрыцы вялікая праслойка комуністаў (25 проц.), то можна стварыць партыйную групу з парторгам на кожным вытворчым участку. Але задача не толькі ў гэтым. Трэба дабіцца, каб і на прадпрыемствах з нязначнай партпраслойкай кожны комуніст, комсамолец, беспартыйны рабочы актывіст уплываў на рабочых не толькі ў барацьбе за інтэнсіўнасць працы, за кваліфікацыю, за вывучэнне варштата, але і за ўсведамленне палітыкі нашай партыі, за выхаванне ўпэўненасці ў яе правільнасці.

Нельга выязджаць на адных чорных і чырвоных спісках, светавых люстэрках. Усё гэта нядрэнныя формы работы. Але калі вы запішаце рабочага на чорную дошку, а ён не будзе ўпэўнен у тым, што яму неабходна ўцягнуцца ў барацьбу за пяцігодку,—то гэтым пытанне яшчэ не вырашаецца.

Перабудова абавязвае палепшыць метады пераконвання кожнага рабочага.

Ітак, самае важнае ў структуры арганізацыі—партыйны ўплыў на кожным вытворчым працэсе. Гавораць—няма комуністаў, або ёсць, ды слабыя. Усе сілы і сродкі ў нашых руках, мы маем усе магчымасці са слабога комуніста зрабіць вытворчага палітычнага важака.

Тав. Чэрніенка і іншыя ўказвалі на такія факты, што некаторыя комуністы за тыдзень-два сталі раптам перадавымі, актыўнымі работнікамі. Сакрэт, аказваецца, у іншых метадах, у дапамозе маладым комуністам, у правільнай арганізацыі і расстаноўцы партыйных сіл. Больш падрыхтаваныя павінны вучыць і выхоўваць слабейшых іменна на практычнай рабоце. Трэба памятаць словы т. Кагановіча, што бальшэвікі-арганізатары выхоўваюцца не ў школах, але больш за ўсё і галоўным чынам на практычнай рабоце.

Цікавы факт давялося наглядаць на швейнай фабрыцы ў Бабруй-

ску. У адной са зменных груп працуе парторгам маладая работніца, т. Альперовіч. Ёй толькі 22 гады. Працуючы 8 год на вытворчасці, яна здолела, не кідаючы работы, скончыць рабфак. Альперовіч добра ведае кожнага комуніста сваёй фабрыкі, але партыйнай работы з імі не вядзе, не прымацоўвае да групы беспартыйных, не дапамагае ў кіраўніцтве. Альперовіч сама расце, але, падмяняючы сабою другіх комуністаў, не дае магчымасці расці ім. І калі бывае патрэба вылучыць каго ў якасці парторга, то нельга знайсці чалавека.

Часта таварышы заяўляюць, што 10 год працуюць у парткоме, чаму-б ім не пайсці і на вучобу. А калі ў іх спытаеш, каго выхавалі на сваё месца, то аказваецца—нікога.

У некаторых узнікае пытанне: **ці можна мець групу**, калі ёсць кандыдат і два комсамольцы? Хіба справа ў назве. Асноўнае-ж ядро комуністы і комсамольцы. Але парторг павінен добра ведаць кожнага рабочага, кожнага комуніста і комсамольца, каб правільна расставіць іх на вытворчасці. Калі 80 проц. работніц Магілеўскай шоўкавай фабрыкі нядаўна прыйшлі з вёскі, і сярод іх няма комуністаў і комсамольцаў, то вы знойдзеце ўсё-ж старую іванаўскую работніцу, маскоўскую тэкстыльшчыцу—выкарыстайце іх. Выходзячы з гэтага, трэба спачатку будаваць нізавое звяно, потым сярэдняе і нарэшце ўжо—партком або партгрупа.

Нажаль, трэба сказаць, што ў рэзультаце блытаніны ў структуры партарганізацыі, неканкрэтнага, недыферэнцыяванага падыходу мы маем агромнае супраціўленне пераводу сакратара і парторга на вытворчасць. Хіба можам мы выхоўваць свае кадры, калі часам не выконваем статут партыі, калі на аплату сакратара, парторга стараемся знайсці дзе-небудзь грошы, думаючы, што ніхто, моў, гэтага не прымеціць, што гэта дробязь. Гэтым самым мы ашукваем партыю.

Мы павінны на кожным прадпрыемстве перагледзець структуру партыйнай работы і паставіць яе так, каб яна дапамагала выкананню промфінплана. Тады не будзе гутарак, што гаспадарнік не разумее задач перабудовы, бо ён сам стане адчуваць палёгку ў рабоце, усвядоміць, што перабудова партработы дапамагае яму выконваць промфінплан.

Упор у перабудове—барацьба за якасць на ўсіх участках работы.

Нас павінны цікавіць не толькі арганізуючы момант, своечасовая здача тэхэкзамена. Наша мэта—дабіцца і добрай якасці ў вучобе. Адзін таварыш сказаў тут, што на адным заводзе ён выявіў як тэхвучоба са здачай экзаменаў ператвараецца на справе ў лішнюю трату часу, выключна ў звыштэрміновую работу, а не вучобу. Я ўпэўнен, што і ў іншых месцах не абышлося без скажэнняў—або ўдар у практыцызм, або захапленне габінетнай работай: закрыецца і вучыць алгебру, геаметрыю, тэхналогію працэса, зусім адарваўшыся ад вытворчасці. Магчыма і тое і другое. Зусім-жа невыпадкова нашумелі з прапрацоўкай рашэнняў XVII з'езда—завялі палітвудачкі, палітбаі і т. д. А хто гэта ускрыў? Хіба не зразумела, што палітвудачкі—скажэнне, што такім метадам не засвойваюцца рашэнні з'езда? Чаму-ж ні адна арганізацыя гэтага не прымеціла? Ды таму, што ў сваіх дакладах, справаздачах мы гаворым толькі пра колькасць здаўшых экзамен, а як ідзе вучоба, якая якасць—гэтага не ўказваем.

Гоняцца за выдатнікамі, але робяць гэта так дрэнна, што яны па сутнасці не засвойваюць рашэнняў XVII з'езда. Усю тэхвучобу зводзяць да таго, каб хутчэй круцілася кола, не клапоцячыся аб неабходнай якасці тэхвучобы. Я не хачу сказаць, што ў нас з тэхвучобай

усюды дрэнна, але зместам трэба падзаняцца. Трэба цікавіцца тым, што тэхвучобу стымулявала, чым удалося да яе прыцягнуць. Тэарэтычна і практычна прапрацаваць на партднях пытанне аб матар'яльных стымулах прыцягвання да вучобы, каб рабочы пайшоў на тэхвучобу сам, а не толькі па волі чорнай дошкі.

Тое-ж самае можна сказаць аб партасвеце: са зместам і якасцю з рук вон дрэнна. Рашаючае значэнне ў пастаноўцы партвучобы адыгрывае прапагандыст, але якой якасці ад яго чакаць, калі не прапрацаваць з ім усіх матар'ялаў, не падрыхтаваць да кожнага занятку, не даць кіраўніка? Не выпадкова тав. Постышэў сказаў на Харкаўскім абкоме, што ні адзін прапагандыст не можа як след правесці ні аднаго занятку ў партшколе, калі яго загадзя як след не падрыхтаваць.

У нас вельмі мала прапагандыстаў, якія працуюць непасрэдна на вытворчасці. Мы ўсё яшчэ не дабіліся, як таго патрабаваў т. Постышэў у сваім выступленні аб марксісцка-ленінскім выхаванні, каб кожны тэарэтычна падрыхтаваны комуніст працаваў на практычнай прапагандысцкай рабоце, каб кожны оргработнік быў і прапагандыстам.

На партыйнай вучобе ў нас такія-ж крайнасці, як і на тэхнічнай. Бягучыя рашэнні партыі прапрацоўваюць па падручніку, а карэнных, фундаментальных, тэарэтычна абгрунтаваных ведаў не даюць, ці наадварот—па сутнасці не спалучаюць тэорыі з практыкай. Віцебск падаў добры прыклад падрыхтоўкі да партдня. Пытанне аб тэхнічных нормах зарплаты загадзя абгаварылі ў сеці партыйнай вучобы, скарыстаўшы ў прапрацоўцы чацвертую главу з «Дзяржавы і рэволюцыі», адпаведныя рашэнні партыі, 6 умоў, што дало добрыя практычныя рэзультаты.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе вельмі выпукла і ярка гаварыў аб сувязі тэорыі і практыкі. Але мы яшчэ мала займаемся зместам канкрэтнай перабудовы партасветы. Мы часта чуем сухія лічбы аб тым, колькі чалавек навучалася, колькі вучыцца зараз, колькі партыйных школ было раней, колькі цяпер. Аднак якасць вучобы, выпадкі абстрактнасці, адарванасць яе ад жыцця выкрываюцца мала.

Нарэшце аб дапамозе парторгу і кожнаму комуністу ў аўладанні палітычна-вытворчымі навыкамі. Вельмі характэрна выступленне партгрупы менскай ф-кі «Окцябр». Яна аб'явіла байкот пасяджэнчай мітусні, стаяла за практычнасць і канкрэтнасць, а таму на працягу месяца не збіралася. Другі таварыш сказаў, што цэхавыя партсходы збіралі тры разы ў месяц, а партгрупу, якая са змены ў змену змагаецца за вытворчы працэс, за выкананне промфінплана, дзе людзі сутыкаюцца паміж сабою, дзе кіпіць усё палітычнае і вытворчае жыццё—раз у месяц. У выніку партыйна-выхаваўчая работа аказалася ў загоне. Так гаварыць аб перабудове, гэта ўсёроўна, што разам з вадою выплеснуць і дзіця.

Гэтыя выступленні пацвярджаюць лішні раз, што мы не займаемся яшчэ канкрэтнай партыйна-масавай работай, не можам зараз сказаць як лепш, колькі раз, па якіх пытаннях збіраць партгрупу, па якіх пытаннях зменную, ці трэба ставіць вытворчыя пытанні на зменнай партгрупе. Тав. Канопік гаварыў нам аб вытворчых настроях, аб ударніцтве, аб прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда, аб наведванні гурткоў. Але ці сказаў ён аб тым, што хвалявала рабочых, аб чым яны гаварылі: нібы толькі аб снабжэнні, аб зарплаце? А хіба не было пытанняў аб Кітаі? З вопыту чыткі газет мы ведаем, што большая доля пытанняў прыпадае на тэмы аб Кітаі, Японіі, Германіі, аб страта-



сферы. Чаму тав. Канопік не мог сказаць, ці былі такія пытанні? Відаць не абышлося без скажэнняў, не завастрылі палітычных пытанняў.

Характэрна, што ўсе выступаўшыя, за выключэннем таварышоў з віцебскай фабрыкі, гаварылі толькі аб 8-мі гадзінах рабочага на вытворчасці, аб 20-ці мінутах да пачатку работы, аб поўгадзіне, якую яны праводзяць у час абедзенага перапынку і, у крайнім выпадку, аб адной-двух гадзінах тэхвучобы. Але рабочы, акрамя гэтых 8 гадзін, жыве яшчэ 16 і мае выхадныя дні. Вольны час рабочага мы вельмі дрэнна выкарыстоўваем для масавай работы.

Трэба адзначыць і станоўчы вопыт у рабоце фабрыкі імя Клары Цэткін—арганізацыю выходнага дня з музыкай і ўсякага роду гульнямі прыстасоўна да густу дарослых і моладзі, работніц фабрыкі і хатніх гаспадынь, а побач з гэтым правядзенне палітмасавай работы. Ці мае такія магчымасці кожнае прадпрыемства? Безумоўна, мае. Але, на жаль, не скарыстоўвае рацыянальныя формы адпачынку. Большую частку часу рабочы застаецца без нашага ўплыву, без нашай апрацоўкі, і таму, бывае, адмаўляецца, напр., ад падпіскі на пазыку, мы-ж не ведаем як да яго падыйсці, чаму ён не хоча падпісацца. А зацікаўцеся бытам гэтага рабочага, пайдзіце да яго на дом. Аказваецца, ён карову мае, казу, скупляе на рынку па 10 руб. сторублёвыя аблігацыі. Стане ясна, чаму ён адмаўляецца ад пазыкі. Такі рабочы—камень па дарозе палітмасавай работы на заводзе, а выкрыць яго мы не можам, бо ён сам і сям'я па-за нашым уплывам і вокам ў нерабочы час.

Характэрна, што на фабрыцы Добруш склікаць сход у цэху цяжка, а на даму адносна лягчэй. Бывае крыўдзяцца нават, калі не запросяць.

Працуе там пяць год стары рабочы **Зюзькоў**—бацька нашага Зюзькова. Сын—член партыі, якога мы ведаем, і яшчэ 3—4 сыны і дочкі—усе яны комуністы, усе на адказнай рабоце: прафесары, інжынеры, камандзіры, вучоныя. А старога Зюзькова мы не выкарыстоўваем, як актыў у нашай масавай рабоце.

Абслугоўванне рабочага па-за прадпрыемствам, культурна-масавая работа—справа вялікая. Добрушская фабрыка знаходзіцца ў найлепшых кліматычных умовах, якім можа пазайздросціць любы санаторы Беларусі, у Менску няма такога клуба, як у Добрушы. Але ці могуць яны пахваліцца культурна-масавай работай? Ёсць аркестр, каля 15 год іграюць адны і тыя-ж музыканты і за гэты час нікога з моладзі не навучылі, хоць і можна было стварыць ужо 4—5 аркестраў. Але не баліць фабкому галава па гэтым. Або лодкі. Гаварылі—грошы патрэбны, бо за 10 лодак гомельскі Осводо просіць 11 тыс. руб. Аказваецца, у горсовеце, у камгасе, у парку культуры і адпачынку мёртвым грузам ляжыць 200 лодак.

Вялікую ўвагу трэба ўдзяліць вопыту абслугоўвання і вучобы інструктароў у Менску, Бабруйску і часткова ў Віцебску. Сельскі інструктар, прасядзеўшы восем дзён у раёне, дзевяты адводзіць вучобе. Займаецца 4 гадзіны. Знаёміцца з тэарэтычнымі пытаннямі, вывучае ленінізм, гісторыю партыі. У Бабруйскім райкоме створан спецыяльны габінет для інструктара, дзе збіраецца ўвесь патрэбны яму матар'ял і газеты. На спецыяльнай дошцы ўказваецца, што трэба прачытаць інструктару ў «Правде» і ў іншых газетах і часопісах. Афармляюць габінет інструктара работнікі парттабінета. Інструктар мае таксама магчымасць прачытаць усе рашэнні Бюро ЦК і падобны матар'ял. Такім чынам, у распараджэнні інструктара ўсё неабходнае, каб не адстаць ад жыцця і быць моцным у рабоце.

Але не ўсе сакратары райкомаў разумеюць, што інструктару патрэбна над сабою працаваць, што інакш ён не падніме цца вышэй нізавога звяна і па сутнасці не зможа справіцца са сваёй работай.

На прадпрыемстве інструктар павінен выбраць адзін з цэхаў і папрацаваць там дні 3—4, выпраўляючы гаспадарчыя недахопы на аснове арганізацыйнай канкрэтнай партыйнай работы, насычанай палітычным і вытворчым зместам. Але як дабіцца, каб інструктар не ператварыўся ў хадатая за гаспадарніка. Бывае часам так, што гаспадарнік просіць інструктара націснуць на які-небудзь участак, інструктар націскае і дырэктар задаволен. Інструктар павінен весці партыйную работу, а не ператварацца ў страхоўшчыка, у хадатая гаспадарніка.

Выяўляючы гаспадарчыя недахопы, партарганізацыя павінна дазнацца прычыну, знайсці яе корань і знішчыць начыстую, каб не паўтаралася на іншых прадпрыемствах.

Прапрацаваўшы ў адным цэху і прадпрыемстве, інструктар не парывае сувязі з астатнімі пярвічнымі партарганізацыямі; збірае на гэтым прадпрыемстве ўсіх сакратароў і парторгаў для перадачы канкрэтнага вопыту партработы.

Ці павінен інструктар займацца спагнаннямі і выключэннямі, якія выносяцца пярвічнымі партарганізацыямі? Безумоўна павінен. Першы час будзе цяжка. Але пры правільным падыходзе створыцца абстаноўка, калі выключэнні можна звесці да мінімума. Тав. Гершон гаварыў, што па менскай арганізацыі партспагнанні і выключэнні зараз мінімальны. А чаму ў Веткаўскай арганізацыі 50 проц. партыйцаў са спагнаннямі? Таму, што партарганізацыя не прымае выхаваўчых мер уздзеяння. У нас ужо так водзіцца, што пры наяўнасці прыступку адразу запісваюць вымову, праяўляючы фармалізм, бяздушнасць. Інструктар павінен заняцца гэтымі пытаннямі, бо яны сігналізуюць аб фактычных недахопах работы партарганізацыі, і правільна іх вырашыць, тады спагнанні і выключэнні звядуцца да мінімума, што вызначае перабудову.

Аб прыёме спачуваючых. Гэта пытанне можа паўстаць толькі ў рэзультаце сапраўднай перабудовы партыйнай работы, у рэзультаце арганічнай работы з беспартыйным рабочым актывам, бо інакш яно ператворыцца ў кампанію з паўтарэннем памылак, якія мы мелі да чысткі партыі. Нельга забываць пры гэтым, што спачуваючыя арганізуюцца ў пярвічных партарганізацыях. Каб не здарылася часам так, што прыём спачуваючых будзе фарсіраван там, дзе няма комуністаў, абы толькі запоўніць звяно. Гэтага трэба баяцца. Спачуваючыя могуць прымацца толькі там, дзе ёсць партарганізацыя, дзе забяспечан партыйны ўплыў і кіраўніцтва.

Тут не спыніліся на адным злободзенным пытанні—на размеркаванні функцый паміж сакратаром і яго намеснікам. Намеснік сакратара райкома па-ранейшаму займаецца галоўным чынам інструктарамі і партыйна-масавай работай.

Нарэшце, аб бюро гаркома і райкома. У нас ёсць тэндэнцыя вырашаць усё апытаннем, а бюро збіраць раз у 3 тыдні, ставіць толькі 2—3 пытанні. Справа аднак у тым, што важна правільна ўлічыць, якія з пытанняў абгаварыць на бюро, а якія правесці апытаннем. У Бабруйску давялося мне бачыць, як на паседжанні бюро 17 пытанняў былі вырашаны за 2½ гадзіны, бо ўсе члены бюро былі ў курсе кожнага пытання, добра ведалі матар'ялы і хутка ўносілі канкрэтныя прапановы.

Сакратар парткома і наменснік павінны добра выясніць свае функцыі. Сакратар парткома павінен, як і кожны парторг, сам займацца арганізацыяй партвучобы, кіраваць ёю.

У заключэнне трэба падкрэсліць, што паасобныя крупіцы станоўчага вопыту партработы мы яшчэ мала ведаем і дрэнна вывучаем. Трэба ўзяць нашу перабудову пад агонь большэвіцкай самакрытыкі.

Не выпадкова ЦК ВКП(б) і МК, заслухаўшы рад партыйных арганізацый, прызналі іх перабудову нездавальняючай. Тав. Кагановіч на адным з апошніх бюро МК правільна адзначыў, што нашы сакратары райкомаў ведаюць вытворчасць, цэх, часам і рабочага ведаюць, інжынера, ведаюць карову, каня, ведаюць севазварот, глебу, насенне, ведаюць працадні, а самае труднае, самае шматграннае—тэхніку, змест партыйнай работы—не ведаюць. Густу не маюць яшчэ ў гэтай рабоце. Не ўсвядомілі веліч, значэнне яе. Рашэнні XVII з'езда прадугледжваюць скарачэнне штатаў партыйнага апарата. Такім чынам вызваліцца вялікая частка комуністаў для непасрэднай работы на вытворчасці. Інструктар не павінен усё пераносіць на сваіх плячах, бо тады ніякіх штатаў не хапіла-б. Яго справа—займацца партыйнай работай, унікаючы ў яе змест, у дэталі.

Гэта ўжо чацвертая нарада пасля бабруйскай, магілеўскай і мазырскай. Мы выбралі такія раёны, дзе партыйная работа была дрэнна наладжана. Вынікі сяўбы паказваюць, што ў гэтых раёнах яна дрэнна праходзіла іменна ў сувязі з дрэннай перабудоваю партыйнай работы. Магілеў-жа, Бабруйск, якія раней адставалі, перабудаваўшыся, працуюць нядрэнна.

Мы сабралі прамысловых інструктароў, каб пераглядзець кожнае звяно зверху да нізу і мець яснае ўяўленне аб нашых недахопах, якія тармозяць сапраўдную перабудову партыйнай работы.

Па гэтаму тыпу намячаецца сабраць рад іншых нарад. 3-га чэрвеня адбудзецца сход інструктароў гаркома па кааперацыйных установах.

Важна дабіцца, каб таварышы больш пісалі ў «Большэвік Беларусі», дзе шырока асвятляюцца ўсе пытанні перабудовы. З выступленняў відаць, што некаторыя таварышы не чыталі адпаведных артыкулаў у «Большэвіку Беларусі», бо там якраз ёсць адказы на тыя пытанні, якія, мяркуючы па выступленнях, няясны для раду нізавых партыйных работнікаў.

**В. Кірылаў**

**Нач. палітаддзела**
**Оршанскага чыг. раёна**

# За большэвіцкую перабудову транспарта

Оршанскае аддзяленне эксплаатацыі па свайму тэхнічнаму абсталяванню і аб'ёму работы з'яўляецца адным з буйнейшых не толькі ў Беларусі, але і ў Совецкім саюзе. Яно абслугоўвае рад прамысловых і сельскагаспадарчых раёнаў СССР і БССР. Праз абменныя пункты аддзялення ў Оршы і Менску штосутачна праходзяць сотні парожніх вагонаў, якія жывяць дарогі поўдня, сотні гружаных вагонаў, якія накіроўваюцца ў Ленінград, Маскву, Менск і інш. прамысловыя цэнтры.

Оршанскі чыгуначны раён, не гледзячы на некаторыя зрухі ў рабоце, яшчэ не стаіць на ўзроўні тых задач, што прад'яўляюцца яму ростам соцыялістычнай гаспадаркі Беларусі, разгортваннем таваразвароту паміж горадам і вёскай.

Адсутнасць штодзеннай большэвіцкай барацьбы за чоткае планаванне перавозак, парушэнне дзяржаўнай дысцыпліны і іншыя недахопы, адзначаныя ў апошніх пастановах СНК і ЦК аб транспарце ад 9 і 23 сакавіка, характэрны і для оршанскага аддзялення эксплаатацыі.

Указанне СНК і ЦК аб тым, што «**палітаддзелы і партыйныя арганізацыі не здолелі арганізаваць ударнікаў комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных актывістаў на актыўную барацьбу са зрываючымі** дысцыпліну **і выкананне плана перавозак....**»—поўнасцю адносіцца да палітаддзела і партыйнай арганізацыі Оршанскага чыгуначнага раёна.

Аб тым, што сапраўды ў оршанскім чыгуначным аддзяленні няма яшчэ рашучага пералому ў рабоце, сведчыць такі факт: з пагружаных у студзені 5786 і ў лютым 5223 вагонаў **каля 50 проц. складалі пазапланавыя перавозкі і грузы другачарговага значэння.**

Палітаддзел сваёй асноўнай задачай паставіў павышэнне палітычнай боездольнасці партыйнай арганізацыі на вузлах і асабліва лінейных станцыях, мабілізацыю комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных ударнікаў на большэвіцкае выкананне пастаноў СНК і ЦК ад 9 і 23 сакавіка, на практычную рэалізацыю ўказання тав. Сталіна аб тым, што «**задача рашучага палепшання транспарта з'яўляецца той чарговай і актуальнейшай задачай, без вырашэння якой мы не можам рухацца ўперад».**

Якія-ж мерапрыемствы правёў палітаддзел для палітычнага забяспечання вытворчых аперацый?

Палітаддзел арганізацыйна перабудаваў партарганізацыю ў адпа-

веднасці з рашэннямі XVII з'езда партыі, пачаўшы тэту работу з паасобнымі членамі і кандыдатамі партыі і памятаючы, што **«член партыі павінен стаяць у цэнтры работы парт арганізацыі»** **(Кагановіч).**

Усе работнікі палітаддзела і раённы актыў былі мабілізаваны для гэтай справы, вывучалі і гутарылі з кожным комуністам. Гэта дало нам, побач з матар'яламі чысткі, багатыя фактычныя даныя аб твары партарганізацыі, на аснове якіх палітаддзел будуе сваю як масава-палітычную работу, так і марксісцка-ленінскае выхаванне партыйных радоў.

Праверка паказала, што палітычны ўзровень значнай часткі членаў і кандыдатаў партыі нізкі, партыйная асвета ў раёне пастаўлена дрэнна (дэпо—Орша, Менск, станцыя Орша, ст. Барысаў і інш.).

Ліквідаваны лішнія звенні, рад нізавых партарганізацый падначален непасрэдна палітаддзелу. Пры перавыбарах у асноўным забяспечан падбор сакратароў парткомаў і парторгаў.

Неабходна адзначыць надзвычай вузкую партпраслойку на вытворчасці. Так, напр., па вагоннаму ўчастку Орша на 859 рабочых і служачых 40 комуністаў, ст. Орша-цэнтральная—на 144 рабочых і служачых 17 комуністаў і т. д. Не гледзячы на гэта, партарганізацыі не разгарнулі работы як з беспартыйным актывам, так і з перападзеранымі ў спачуваючыя.

Па вопыту Чырвонай арміі, пасля папярэдняй масавай работы палітаддзел увёў абавязковую палітгадзіну ў паравозным дэпо і на вагона-рамонтным заводзе імя Мяснікова. Паліткіраўніцтва НКПС і палітаддзел дарогі зусім правільна ўказваюць нам на памылкі ў правядзенні палітгадзіны: недыферэнцыяваны падыход да паасобных груп рабочых, слабы ўлік іх запросаў, некаторае адміністраванне ў вучобе і т. д.

Не гледзячы аднак на рад адмоўных бакоў і памылак, якія палітаддзел выпраўляе, палітгадзіна мае безумоўна свае станоўчыя бакі: садзейнічае ўмацаванню дысцыпліны, выкананню вытворчых вымернікаў, павышае палітведы рабочых.

Тав Кагановіч на XVII з'ездзе сказаў аб рабоце чыг. транспарта: **«Трэба згуртаваць масы, апірацца на лепшых людзей—ударнікаў транспарта, і перамога будзе забяспечана».**

Гэта ўказанне палітаддзел няўхільна праводзіць у жыццё, выхоўваючы дзесяткі рабочых, якія па-ўдарнаму б'юцца за ўзорную работу соцыялістычнага транспарта.

Машыністы **Міронаў і Янкулеў**—лепшыя ў Оршанскім аддзяленні МББ чыг.; змазчык **Сенькоўскі** не ведае адцэпак і аварый; **Позняк**—майстар вагона-зборачнага цэха завода імя Мяснікова—герой 1-й пяцігодкі; дыспетчары **Рыжоў, Крыштапэвіч; Пекарскі**—брыгадзір узорнага комсамольска-маладзёжнага поезда Менск—Днепрапетроўск; брыгада кровельшчыкаў завода імя Мяснікова тав. **Падабеда**, пуцейская брыгада **Балашова** і многія іншыя—ізотавы сваёй справы. На іх вопыце палітаддзел вучыць, як трэба працаваць.

Оршанскае аддзяленне мае дзесяткі кандуктароў, якія вывучылі і прымяняюць метад грозненскага дыспетчара тав. Кутафіна, дабіваючыся гэтым самым эканоміі часу і палепшання звароту вагонаў (Кузменкоў, Стахно, Рахубо, Кунцэвіч, Башуро, Холадаў, Шкуратаў, Буранок і інш.).

**«Комуністы-чыгуначнікі павінны быць узорам чыгуначнай большэвіцкай дысцыпліны на транспарце. На справе, аднак, многія комуністы з'яўляюцца менш дысцыплінаванымі, чым беспартыйныя работ-**

**нікі чыгуначнага транспарта, а некаторыя з іх даходзяць у сваёй недысцыплінаванасці да таго, што іх цяжка адрозніць ад очкаўціра-целей, дэзарганізатараў і шкоднікаў»** (з пастановы СНК і ЦК ад 23 сакавіка).

Гэта—суровая, але разам з тым зусім правільная ацэнка работы многіх комуністаў на транспарце.

Можна адзначыць падобнага роду «комуністаў» і з оршанскага чыгуначнага аддзялення:

Быўшы нам. нач. раёна па камерцыйнай частцы **Карпушчэнка** займаўся раскрадваннем ботаў, касцюмаў, мануфактуры і т. д., прызначаных для снабжэння рабочых-грузчыкаў.

**Сідараў**—быўшы нач. ст. Койданава—сістэматычна парушаў план перавозак, прадстаўляў вагоны за ўзяткі.

**Мігуноў**—нач ст. Орша-заходняя—перадаверыў планаванне перавозак пабочным асобам, зусім не кантралюючы выкананне плана, змазваў рад бясчынстваў на станцыі (раскрадванне дакументаў строгай справаздачнасці, здрэнні і т. д.).

Усё гэта—рэзультат слабай партыйна-масавай работы, асабліва на лінейных станцыях.

Метады партыйна-масавай работы не адпавядаюць яшчэ асаблівасцям і спецыфічным умовам чыгуначнага транспарта—раскіданасць, раз'язная служба, зменнае дзяжурства і т. д.; не прыстасаваны так, каб поўнасцю ахапіць палітычным уплывам усе групы рабочых.

Факты сямейственасці і заціску самакрытыкі мелі, напр., месца ў оршанскім паравозным дэпо. Насценгазета выступіла з рэзкай большэвіцкай крытыкай недахопаў, але сустрэла супраціўленне з боку паасобных кіруючых работнікаў, у тым ліку і сакратара парткома. Справа дайшла да таго, што на сігналы газеты зусім не рэагавалі і нават забаранялі ёй крытыкаваць паасобных людзей.

**Тэрытарыяльныя партарганізацыі павінны аказаць вялікую дапамогу транспартным партарганізацыям у перабудове партыйна-масавай работы, у перанясенні лепшых узораў работы на транспарт.**

Клопат аб палепшанні бытавых умоў ударнікаў—неад'емная частка работы палітаддзела. Тут мы дабіліся ў бягучым годзе рэальных рэзультатаў.

Развіццё індывідуальнага і калектыўнага гародніцтва, стварэнне ўласнай харчовай базы адыгрываюць агромнае значэнне ў палепшанні бытавых умоў рабочых. У рэзультаце дапамогі, аказанай ЦК КП(б)Б і паасобнымі тэрытарыяльнымі арганізацыямі, 6354 сям'і чыгуначнікаў атрымалі ў гэтым годзе гароды і засеялі 901 га пры заданні 650 га.

Трансгасамі «Большэвік» і імя Фабрыцыуса засеяна (акрамя зямель пад позніяя культуры) 805 га.

Сіламі чыгуначнікаў пасаджана пладовых дрэў 4300 шт., дэкаратыўных—4964 шт.

Як-жа выконваецца пастанова СНК і ЦК аб палепшанні работы транспарта?

Спачатку кіраўніцтва аддзялення не зразумела значэння ўказанняў СНК і ЦК, да перабудовы работы падышло фармальна, дапусціўшы пры гэтым рад скрыўленняў (прызначэнне інжынера-эканаміста начальнікам канторы, а канторшчыкаў інжынерамі і тэхнікамі). Умяшаўся палітаддзел—і ўсё гэта было выпраўлена.

Аднак, рад фактаў гаворыць аб тым, што і дагэтуль не выконваюцца важнейшыя ўказанні СНК і ЦК, у прыватнасці—несвоечасова

даюцца станцыям планы і пяцідзенныя нарады-заказы, штодзенна не кантралюецца выкананне плана па чарговасці і катэгорыях грузаў, не выконваецца маршрутызацыя і т. д.

Пацвярджаецца гэта здарэннямі і аварыямі—паказчык расхлябанасці і разгільдзяйства (сакавік—17 важных, 46 менш важных, красавік—адпаведна—7 і 42, 1-я дэкада мая—5 і 7).

Для лепшага абароту і зніжэння непрадукцыйнасці прастою вагона па ініцыятыве палітаддзела ўводзіцца на ўсіх станцыях так званая ўзбуйненая пагрузка. Напрыклад, кліенту па плану прадастаўлена 10 вагонаў прызначэннем у Смаленск, ён грузіць іх не па асобных днях, як гэта рабілася раней, а адразу ўсе 10 вагонаў у адзін пэўны, установулены па плану дзень.

Гэта набліжае да максімальнай маршрутызацыі, дае магчымасць своечасова жывіць станцыі пагрузкі парожняком і выгадна для чыг. транспарта, бо забяспечвае выкананне дзяржаўнага плана.

Рашаючы рычаг перавозак—станцыя.

Да пастановы СНК і ЦК станцыя была фактычна закінутым, забытым участкам. Прытупленне рэволюцыйнай пільнасці спрыяла таму, што сюды пралязалі класавыя ворагі, займаліся антыдзяржаўнымі справамі, падрывалі план перавозак.

Красамоўны факты, ускрытыя палітаддзелам на ст. Фаніпаль, Талачын, Орша-Ўсходняя і інш. Група чужакоў і разлажыўшыхся элементаў (Вішнёў, Пражка, Сергель, Фрыдлянскі і інш.), стаўшы на чале станцыі, за ўзяткі прадастаўляла пазапланава вагоны, п'янствавала, разлагала працоўную дысцыпліну.

Пастановай партыі і ўрада начальніку станцыі прадастаўлены шырокія правы. Ён цяпер поўнаправўны камандзір і цалкам адказвае за выкананне дзяржаўнага плана перавозак.

Работа станцый і аддзялення ў цэлым значна залежыць і ад кліентуры, якая ў такой-жа меры адказна за выкананне дзяржаўнага плана нагрузкі, як і чыгуначны транспарт.

Тым часам многія прадпрыемствы безадказна адносяцца да выкарыстання транспартных сродкаў. Толькі гэтым можна тлумачыць той факт, што за красавік месяц кліентура адмовілася ад пагрузкі 1211 вагонаў, за 1-ю дэкаду мая—ад 265 вагонаў, перамяніла станцыі для пагрузкі на 158 вагонаў.

Такія кліенты як Белпродгародніна, Эльвод, «Комунарка», «Саюзшклофарфарзбыт» і інш. за парушэнні плана аддадзены пад суд.

Масавае адмаўленне кліентуры ад пагрузак, змена станцый адпраўлення і прызначэння ўказваюць і на тое, што плануючыя органы кліентуры не ведаюць вытворчых магчымасцей сваіх нізавых гаспадарчых адзінак.

Якія-ж вытворчыя паказчыкі мае аддзяленне да і пасля пастановы СНК і ЦК?

**Рэгуліровачны загад.** Сакавік: заданне—27.893 вагоны, выканана 29.532 вагоны, красавік—адпаведна—29.900 і 33.216.

**Зварот вагона.** Заданне 1,0 г., выканана: сакавік—0,94 г., красавік—0,87 г.

**Прастой вагонаў.** 1-ы аддзел пры заданні 6 гадз. выканаў: сакавік—6,1 г., красавік—5 гадз.; 2-і аддзел: сакавік—задана 19 гадз., выканана 19,1 г.; красавік—адпаведна—18,5 гадз. і 18,2 гадз.

**Камерцыйная хуткасць.** Сакавік: задана 17,7 клм., выканана 16,3 клм.; красавік—адпаведна—18 клм. і 17,1 клм.

Гэтыя даныя характарызуюць некаторы зрух у рабоце аддзялення, **але безумоўна недастатковы.** Яны сведчаць аб тым, што мы маем усе магчымасці працаваць значна лепш.

Не малую дапамогу павінны аказаць нам тэрытарыяльныя партыйныя і совецкія арганізацыі.

Палітаддзел пры вялікай дапамозе, аказанай ЦК КП(б)Б, дабіўся некаторых рэзультатаў.

Рад тэрытарыяльных арганізацый (Менскі гарком і горсовет, лепельскі і барысаўскі райкомы, заводы «Комунар», «Большэвік», імя Молатава) уключыўся ў актыўную дапамогу транспарту, узяўшы канкрэтныя абавязацельствы, чаго не зрабілі многія тэрытарыяльныя арганізацыі зоны дзейнасці оршанскага аддзялення эксплаатацыі.

Трэба практычна ажыццявіць лозунг: **«Справа транспарта—справа ўсёй краіны».**

Чыгуначнікі оршанскага аддзялення ўключыліся ва ўсесаюзнае спаборніцтва станцый. На аснове большэвіцкага выканання пастаноў партыі і ўрада аб транспарце, раўняючыся па лепшых ударніках, авалодваючы тэхнікай сваёй справы, умацоўваючы жалезную працоўную дысцыпліну,—заваяваць першынства ў спаборніцтве, ператварыць оршанскае аддзяленне ва ўзорны ўчастак БССР і СССР—такава задача. Выканаць яе—справа чэсці кожнага ўдарніка, комуніста і комсамольца.





Малінін С. Н.
Рывіна Б. Д.

# Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы тарфянай прамысловасці ў другой пяцігодцы[1])

(па машынафармовачнаму способу здабывання)

XVII партыйная канферэнцыя ў дырэктывах к складанню 2-й пяцігодкі ўказала, што важнейшым элементам тэхнічнай рэкаострукцыі народнай гаспадаркі з'яўляецца стварэнне навейшай энергетычнай базы, якая апіраецца на самае шырокае выкарыстанне мясцовых відаў паліва—торфу, сланцоў і т. д.

Ва ўмовах БССР тарфяная прамысловасць з'яўляецца вядучай. Гэта яе вядучая роля ў 2-й пяцігодцы яшчэ больш узрастае. Тэмпы і якасць работы торфапрамысловасці вызначаюць энергетычную базу, неабходную для паспяховага росту народнай гаспадаркі БССР.

Тым часам работа торфапрамысловасці БССР за гады першай пяцігодкі і ў першым годзе другой пяцігодкі была нездавальняючай, аб чым сведчаць сістэматычнае, з года ў год, недавыкананне промфінплана. Паводле даных планавага аддзела Белторфа, у 1931 г. Белторф выканаў сваю вытворчую праграму ў сярэднім па ўсіх відах здабычы на 51 проц., у 1932 г.—на 52,5 проц., і ў 1933 г.—на 68,9 проц. У прыватнасці, па віду здабычы, які да гэтага часу з'яўляецца асноўным для Белторфа—па машынафармовачнаму торфу—мы наглядаем наступны малюнак (даныя планавага аддзела Белторфа):

| | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|
| Выкананне праграмы ў проц. . . . . . . | 68,1 | 62,6 | 91,7 |
| Выкананне плана па прадукцыйнасці працы ў проц. (за 8 гадз. раб. дзень) . . . | 65,0 | 77,3 | 85,9 |

Гэтыя даныя дазваляюць з пэўнай бясспрэчнасцю зрабіць вывад, што адною з рашаючых прычын невыканання вытворчай праграмы было сістэматычнае невыкананне плана па прадукцыйнасці працы.

У перыяд другой пяцігодкі—пяцігодкі «асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзнага павышэння прадукцыйнасці працы, сур'ёз-



[1]) Артыкул друкуецца ў парадку абгаварэння.

нага скарачэння сабекошту» **(Сталін)**—галоўнейшай задачай усёй нашай прамысловасці з'яўляецца барацьба за якасныя паказчыкі.

Да самых апошніх год ва ўмовах БССР машынафармовачны торф у выкананні праграмы Белторфа складаў у 1931 г.—75,7 проц., у 1932 г.—76,2 проц., а ў 1933 г.—нават 90 проц., г. зн. з'яўляўся пануючым.

Аднак трэба падкрэсліць, што на працягу 2-ой пяцігодкі адбудзецца карэнная тэхнічная рэканструкцыя торфапрамысловасці БССР. Працаёмкі, тэхнічна адсталы машынафармовачны спосаб к канцу 2-ой пяцігодкі будзе адцеснен на задні план больш механізаванымі і прадукцыйнымі спосабамі здабывання: гідраторфам, багерным і фрэзерным спосабам. Удзельная вага машынафармовачнага торфу будзе рашуча зніжана.

Але ўсё-ж і тады абсалютная колькасць торфу, якая будзе здабывацца гэтым спосабам, застанецца значнай. У першыя-ж гады другой пяцігодкі машынафармовачны спосаб здабычы будзе займаць яшчэ вельмі значнае месца (у 1934 г. 62,8 проц. да агульнай праграмы).

Таму аналіз фактараў, за лік якіх можа быць узнята прадукцыйнасць працы па машынафармовачнаму торфу, ёсць неабходная і актуальная задача, тым больш, што на працягу першай пяцігодкі, хоць і меўся непарыўны рост прадукцыйнасці, аднак ён значна адставаў ад намечанага плана (гл. табліцу на стар. 18).

Але ў той-жа час некаторыя перадавыя заводы БССР, як напрыклад, «Закрашынскі мох», «Чырвоная Беларусь», выканалі ў паасобныя гады план па прадукцыйнасці на 95-98 проц.

Яшчэ больш яркі малюнак выканання плана па прадукцыйнасці працы даюць паасобныя лепшыя ўдарныя брыгады (гл. табліцу на стар. 23).

Усё гэта з поўнай відавочнасцю сведчыць аб тым, што план па прадукцыйнасці, намечаны на мінулыя гады, быў у поўнай меры рэальны. Невыкананне яго абумоўлівалася зусім недастатковым выкарыстаннем усіх тых шматлікіх вытворчых магчымасцей, якія мела ў сваім распараджэнні і мае тарфяная прамысловасць.

Соцыялістычная прырода нашай гаспадаркі мае агромныя перавагі перад гаспадаркай капіталістычнай, высоўваючы цэлы рад новых магчымасцей і крыніц безупыннага росту прадукцыйнасці, на якія ў сваім дакладзе на XVI з'ездзе ўказаў тав. Сталін.

У адносінах здабычы машынафармовачнага торфу абмяжуемся аналізам магчымасці росту прадукцыйнасці за лік: механізацыі, павелічэння каэфіцыента выкарыстання механізмаў і ўшчыльнення рабочага дня рабочых, увядзення рэзультатыўных форм аплаты працы, росту соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, уплыву абгаражвання залежаў шляхам іх лепшага асушэння. У меншай ступені з-за адсутнасці адпаведных даных мы можам закрануць той уплыў, які акажуць на прадукцыйнасць такія важнейшыя фактары, як павышэнне кваліфікацыі торфарабочых, змяншэнне цякучасці, зніжэнне нявыхадаў, магчымасць падоўжання сезона (з пункту ўплыву на сезонную выпрацоўку) і т. п.

## Механізацыя і рацыяналізацыя агрэгата

Усе маючыяся ў карыстанні элеватарныя машыны ў другую пяцігодку павінны быць рэканструяваны шляхам увядзення:

а) каленчатага і папярочнага элеватара,
б) пенькатаскалкі,



в) стандартнага прэса,
г) транспарцёра,
д) аўтаматычнага секача і падкладных дошак [1])

Ва ўмовах БССР, з агульнага ліку 56 элеватарных машын, якія знаходзяцца зараз у эксплаатацыі, на заводах Белторфа захавалася толькі 9 нерэканструяваных. Увядзенне на гэтых машынах стандартных прэсаў транспарцёраў, каленчатых элеватараў і карчавальнікаў павінна даць скарачэнне рабочай сілы на 15 проц., з адначасовым павелічэннем прадукцыйнасці машын на 20 проц. [2]). Пры гэтай умове прадукцыйнасць працы аднаго тарфяніка павінна ўзрасці на 41 проц. (г. зн. прадукцыйнасць будзе роўна $\frac{120 \times 100}{85}$). Калі-ж улічыць, што ўдзельная вага машын старой канструкцыі роўна па Белторфу 16 проц., то можна лічыць, што па трэсту прадукцыйнасць аднаго тарфяніка па здабычы машынафармовачнага торфу ўзрасце на 6,6 проц. [3]).

Пры ўмове ўвядзення на ўсіх машынах аўтаматычнага секача і падкладных дошак (канструкцыі якіх выпрацоўваюцца Інсторфам), лік рабочых у брыгадзе скароціцца на 4 (ці нават на 5) чалавек, зменшыўшы склад брыгады з 27 да 23 чал. Гэта дасць прырост прадукцыйнасці на 17,4 проц. $\frac{(27-23) \cdot 100}{23}$.

Такім чынам, мерапрыемствы па далейшай механізацыі паасобных працэсаў здабычы машынафармовачнага торфу могуць даць прырост прадукцыйнасці працы на 24 проц.

## Павелічэнне каэфіцыента выкарыстання машыны.

Гэты фактар павышэння прадукцыйнасці працы ў тарфяной прамысловасці мае асабліва вялікае значэнне. Выкарыстанне механізмаў на торфазаводах пастаўлена ў сучасны момант надзвычай дрэнна, аб чым сведчаць даныя аб сярэднім па Белторфу процанце чыстага часу работы элеватарных машын; у сярэднім на змену: у 1931 г.—70,3 проц., у 1932 г.—71,6 проц., у 1933 г.—70,6.

Высокі процант прастояў у першую чаргу тлумачыцца надзвычай нізкай кваліфікацыяй рабочых і малодшага адміністрацыйна-тэхнічнага персанала (начальнік змены, агрэгата), адсутнасцю сапраўднай і сістэматычнай барацьбы за асваенне тэхнікі, недаацэнкай значэння правільнай арганізацыі працы ў брыгадзе і штодзённага тэхнічнага нагляду за станам агрэгатаў (планава-папераджальны рамонт і інш.).

У другой пяцігодцы выкарыстанне механізмаў павінна быць значна палепшана.

Тав. Куйбышэў у сваім дакладзе на XVII партканферэнцыі падкрэсліў:

«Задача рэканструкцыі не вычэрпваецца новым будаўніцтвам.

---

1) Асноўныя палажэнні рэканструкцыі тарфяной прамысловасці ў другой пяцігодцы", распрацаваныя Інсторфам, час. „Тарфяная справа" № 8—9 за 1932 г.

2) М. Рубінштэйн. „Механізацыя працаёмкіх работ"—стар. 67. і Бакекін—„Механізацыя працаёмкіх работ тарфяной гаспадаркі Іванаўскай обл. на пяцігодку 1933 г.—1937 г.", стар. 12, а таксама „Інструкцыя для малодшых тэхнікаў Саюзторфа",—стар. 8. указанні аб штаце брыгад пры транспарцёрнай і ваганетачнай установцы.

3) На торфзаводах сістэмы НКЛП. мясцовай прамысловасці, Белбумтрэста проц. нерэканструяваных машын значна вышэй, чым у Белторфе, і складае 31,1 проц. Такім чынам гэта крыніца росту прадукцыйнасці па ўсіх элеватарных машынах БССР будзе мець яшчэ большае значэнне, чым у сістэме Белторфа.

Трэба лепш выкарыстоўваць існуючыя домны, існуючыя мартэны, існуючыя пракатныя цэхі».

Гэта дырэктыва поўнасцю павінна быць аднесена і да абсталявання тарфянай прамысловасці.

За лік чаго-ж можа быць забяспечана лепшае выкарыстанне элеватарных машын? У першую чаргу павінен быць значна скарочан затрачваемы на перасоўку час, які ў сярэднім па Белторфу складаў у 1933 г. у змену 1 гадз. 20 мінут. У гэтых адносінах паказальны матар'ялы лепшых брыгад[1]) розных торфазаводаў СССР (Шатура—торфабрыгада Перадзева і Кірушына, Утораўскія торфарапрацоўкі—брыгада Клімачова), здольных правільнай арганізацыяй працы і расстаноўкаю рабочых скараціць час на перасоўку машын да 15—20 мінут. У інструкцыі па арганізацыі работ пры перасоўцы элеватарнай устаноўкі, распрацаванай Укрторфаб'яднаннем, і тыповых нормах выпрацоўкі, складзеных Галоўторфам у 1933—34 г., нармальная працягласць гэтай перасоўкі таксама вызначана ў 15 мінут.

Улічваючы сказанае, мы ў праве лічыць, што час на адну перасоўку к канцу другой пяцігодкі ў сярэднім не павінен перавышаць 15, максімум 20 мінут (улічваючы, што лепшыя метады арганізацыі працы пры перасоўцы агрэгата толькі паступова будуць асвойвацца ўсімі брыгадамі).

Сярэдні лік перасовак за змену (мяркуючы дзённую выпрацоўку брыгады парадку 40.000 цэглы, як гэта разлічана намі ў канцы гэтага артыкула—гл. стар. 28) можна прыняць роўнай 2,6 (з разліку сярэдняй глыбіні кар'ера 2,5, шырыні кар'ера 7 метраў, даўжыні перасоўкі 6 метраў, уліку магчымых страт у кар'еры да 10 проц., хоць мерапрыемствы па лепшаму асушэнню балот і больш правільная распрацоўка кар'ера на працягу другой пяцігодкі змогуць даць значнае зніжэнне размеру страт).

Такім чынам, замест устаноўленых у 1933 г. планам 1 гадзіны 25 мінут за змену ці 17,7 проц. ад валавога часу работы агрэгата, мы будзем мець 52 мінуты ці 10,8 проц.

Зразумела, што гэта лічба ёсць толькі сярэдняя і будзе значна змяняцца ва ўмовах балот з рознай глыбінёю залежу. Галоўнае-ж у тым, што час, які зараз на нашых торфарапрацоўках затрачваецца на няўмелую перасоўку агрэгатаў, пры аўладанні тэхнікай гэтай справы можа і павінен быць скарочан амаль на палову.

Прастоі па механічных прычынах таксама павінны быць значна зменшаны. Гэта змяншанне будзе абумоўлена палепшаннем капітальнага рамонту, а таксама ўвядзеннем сістэмы планава-папераджальнага рамонту, які ў сучасны момант зусім не прымяняецца на торфарапрацоўках. Значна павінна павысіцца кваліфікацыя рабочых, абслугоўваючых механізмы (матарысты, рамонтныя слесары і т. д.) і агульная тэхнічная граматнасць тарфянікаў.

Вопыт лепшых у сэнсе барацьбы з тэхнічнымі прастоямі заводаў Белторфа («Закрашынскі мох», «1-е мая», «Свабода») ужо зараз паказвае, што размер прастояў па механічных прычынах можа быць скарочан больш як да 2 проц.

У выніку можна меркаваць, што на працягу 2-й пяцігодкі за лік

---

[1]) *Любасаў* „Якасць работы ў барацьбе за торф", выд. 1932 г. стар. 32 і кн. „Ударнікі ў барацьбе за торф" ЦК саюза рабочых торфсланцавай прам-ці і Саюзторф (вынікі ўсесаюзнага конкурса), выд. 1932 г. стар. 12. В. Г. Гарачкін „Эксплаатацыя тарфяных залежаў на паліва „Дзярж. н/т. Гор. выдат. 32 г. стар. 60. Інж. Зайцаў „Рэзультаты іспытаў элеватарнай на ТОС у сезоне 1930 г. час. „Тарфяная справа" № 3.

змяншэння часу перасовак машыны і прастояў па механічных прычынах (нават дапускаючы, што ўсе іншыя віды прастояў захаваюць размер, прадугледжаны планам 1933 г.)—чысты час работы элеватарных машын будзе даведзен з фактычных 70,6 проц. да 83—84 проц., ад валавога часу работы.

## Ушчыльненне рабочага дня

Даныя шматлікіх фатаграфій рабочага дня тарфянікаў, занятых на здабычы машынафармовачнага торфу, паказваюць, што на асноўнай рабоце ямшчыкі затрачваюць усяго 50—53,4 проц. рабочага часу. У сцільшчыкаў час асноўнай работы яшчэ ніжэй (41,6—51,5 проц.).

Прастоі па арганізацыйных, тэхнічных прычынах і па віне рабочых складаюць звыш 20—30 проц.

Недапушчальна вялікая колькасць часу затрачваецца на дапаможныя работы (у асноўным работы, звязаныя з перасоўкай машын), працягласць якіх за 8-мігадзінную змену ў паасобных выпадках у некваліфікаваных і няўдарных брыгад дасягае каласальнай лічбы: 2—3 гадзіны (торфазавод «Большэвік»—агрэгаты № 1, № 3, № 6 і інш.).

На працягу 2-й пяцігодкі барацьба за рацыянальнае выкарыстанне рабочага часу на торфазаводах павінна карэнным чынам палепшыць структуру рабочага дня. Час, які затрачваецца на асноўную работу, павінен быць максімальна павялічан за лік давядзення да мінімума дапаможнай работы і прастояў. Час на перасоўку агрэгата ў папярэднім раздзеле намі вызначан у сярэднім у 52 мінуты за змену; звыш таго неабходна даць рабочаму 8—10 мінут на іншую падрыхтоўча-заключную работу, у прыватнасці на падрыхтоўку да перасоўкі і выпадковую работу, і 80 мінут дадатковага часу на адпачынак [1]). Такім чынам, час асноўнай работы занятых на здабычы машынафармовачнага торфу рабочых можа быць павялічан да 70,9 проц. (ці 340 мінут з разліку: дапаможныя работы—60 мін., дадатковы час—80 мін., працягласць рабочага дня—480 мінут).

Ітак, павелічэнне працягласці асноўнай работы з 53 проц. рабочага часу да намечаных намі 70,9 проц. павінна даць павелічэнне прадукцыйнасці працы на 33,8 проц. $\left(\frac{70,9 . 100}{53,0}=133,8\right)$.

Вышэй было сказана, што чысты час работы элеватарнай машыны можа быць даведзен да 83 проц. Калі супаставіць гэтую лічбу з асноўнай работай ямшчыкаў—70,9 проц., то будзе відавочна, што агрэгат мае яшчэ далейшы рэзэрв, за лік якога ямшчыкі пры чарговым адпачынку могуць павышаць у парадку ўдарніцтва інтэнсіўнасць і прадукцыйнасць сваёй працы.

## Соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Другая пяцігодка—пяцігодка пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—«павінна прайсці пад адзнакай не толькі поўнага ахопу соцыялістычным спаборніцтвам і ўдарніцтвам усіх рабочых і калгаснікаў Совецкага саюза, але і пад адзнакай далейшага развіцця і паглыблення соцыялістычных форм працы» [2]).

---

1) Дадатковы час на адпачынак узят з разліку 10 мінут на кожную гадзіну работы. Такая норма дадатковага часу на адпачынак, пры пэўным рэжыме рабочага дня, была прызнана дастатковай і неабходнай на аснове фізіялагічных наглядавняў, праведзеных над ямшчыкамі Беларускім інстытутам працы (гл. зборнік V прац Інстытута працы ВЦСПС пры ЦСПСБ—1934 г.).

1) Молатаў, Куйбышэў „Аб другой пяцігодцы", Партвыдат. Масква, 1932 г., ст. 79.

Гэта ставіць перад намі задачу, аналізуючы крыніцы росту прадукцыйнасці працы ў торфапрамысловасці БССР, спецыяльна спыніцца на тых рэсурсах, якія крыюцца ў далейшым развіцці соцспаборніцтва і ўдарніцтва на торфараспрацоўках.

Належыць пры гэтым агаварыцца, што вытворчая эфектыўнасць соцспаборніцтва к канцу другой пяцігодкі, у сілу далейшага паглыблення, развіцця і ўзбагачэння соцыялістычных форм працы новымі якаснымі асаблівасцямі, бясспрэчна перавысіць нават тыя лепшыя ўзоры ўдарнай работы, якія мы маем на торфараспрацоўках зараз. Таму разлік магчымага прыросту прадукцыйнасці, які мы робім на аснове падананага ніжэй справаздачнага матар'ялу, трэба лічыць вельмі прыблізным і пераўменшаным.

У сучасны момант соцспаборніцтва і ўдарніцтва на торфазаводах БССР разгорнута зусім недастаткова. Па даных Белторфа, ахоп соцспаборніцтвам рабочых, занятых на здабычы машынафармовачнага торфу складае за 1933 г.—44,5 проц., а па асобных заводах справа значна горш (на торфазаводзе «Большэвік» ахоп соцспаборніцтвам 22,2 проц., на Асінторфе—32,6 проц.). Аднак, трэба мець на ўвазе, што і гэты справаздачны процант перапавялічан, бо цэлы рад брыгад, лічыўшыхся ўдарнымі, плана ні па колькасных, ні па якасных паказчыках не выканалі, г. зн. гэтыя брыгады Белторфа толькі фармальна лічыліся ўдарнымі. Лік-жа брыгад, ударна працаваўшых на працягу сезона, складае, прыкладна, 25 проц.

Даныя аб прадукцыйнасці працы лепшых брыгад, праявіўшых сапраўды ўдарныя тэмпы ў рабоце, на фоне агульнага невыканання плана па прадукцыйнасці па ўсіх астатніх брыгадах Белторфа, асабліва паказальны.

| Ударныя брыгады | Прадукцыйн. на чал.-гадз. валав. работы (у цэглах) | Сярэдн. па заводу прадукц. на чал.-гадз. валавой работы (у цэгл.) | Перавышэнне агульнага па заводу ўзроўню прадукц. працы (у проц.) |
|---|---|---|---|
| Баркоўскага (Асінторф) | 128 | 108 | 118,5 |
| Клачкова („Большэвік") | 200 | 127 | 157,5 |
| Бычкова „ | 173 | | 136,2 |
| Мардовіча (Чыр. сцяг") | 145 | 135 | 107,4 |
| Саміжонава „ | 157 | | 116,3 |
| Клыга „ | 138 | | 102,2 |
| Жура (імя Гея) | 166 | 130 | 127,6 |
| Качурына „ | 158 | | 121,5 |
| Краснадзельскага („Свабода") | 164 | 120 | 136,7 |
| Лаўшука („Закр. мох") | 178 | 166 | 107,2 |
| У сярэднім | 160,7 | 120,3 | 133,6 |

Значыць, у другой пяцігодцы, калі сапраўдным соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам будуць ахоплены ўсе брыгады, можна чакаць росту прадукцыйнасці працы за лік гэтага фактара, прыкладна, на 25 проц. $\left(\frac{33{,}6\% \times 75}{100}\right)$.

## Рэзультатыўныя сістэмы аплаты працы

Карэнны пералом у сэнсе перабудовы заработнай платы ў торфапрамысловасці БССР дала пастанова сакратарыята ЦК КП(б)Б ад 8/IV-33 г., зацверджаная ліпеньскім пленумам ЦК і ЦКК, якая патрабавала рашуча перайсці на дробна-групавую здзельшчыну ў кар'еры (2 чал.) і індывідуальную на другіх працэсах»[1].

Аднак, на большасці заводаў гэта пастанова Цэнтральнага Камітэта была рэалізавана ў зусім недастатковай меры і ў большасці выпадкаў—чыста фармальна.

Таму вопыт станоўчага ўвядзення індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны быў атрыманы ў мінулым годзе толькі на адзінкавых лепшых заводах, дзе гэта мерапрыемства праводзілася самімі нізавымі арганізацыямі, наперакор супраціўленню Белторфа; у бягучым-жа 1934 г. павінна быць перанесена на ўсе астатнія прадпрыемствы.

Дробна-групавая здзельшчына ямшчыкаў, згодна даных сезона 1933 г., дае павелічэнне прадукцыйнасці гэтай групы рабочых ад 19 проц. («Большэвік») да 25 проц. («Закрашынскі мох»): прымем у сярэднім 20 проц. Праўда, формы пераводу ямшчыкаў на дробна-групавую здзельшчыну распрацаваны пакуль што толькі для бяспністых балот і балот з малою пністасцю.

Увядзенне дробна-групавой здзельшчыны ямшчыкаў (16 чал. з нармальнай брыгады ў 27), улічваючы, што сярод торфараспрацовак Белторфа ўдзельная вага бяспністых і малапністых балот роўна 40 проц., можа даць павелічэнне агульнага ўзроўню прадукцыйнасці па здабычы машынафармовачнага торфу ў 4,7 проц. $\left(\text{г. зн. } \frac{20 \cdot 16 \cdot 40}{27 \cdot 100}\right)$

Аднак, калі ўлічыць, што механізацыя рольнага стала можа скараціць лік рабочых у брыгадзе з 27 да 23 чал. (гл. стар. 20), то ў гэтым выпадку прырост прадукцыйнасці працы за лік увядзення індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны ямшчыкаў павінен выразіцца не ў 4,7 проц., а ў 5,6 проц. $\left(\frac{26 \cdot 16 \cdot 40}{23 \cdot 100}\right)$.

Згодна даных, атрыманых на тых-жа торфазаводах, пераход сцільшчыкаў на індывідуальную здзельшчыну дае павелічэнне прадукцыйнасці працы аднаго сцільшчыка ў сярэднім на 27—28 проц.

Паколькі сцільшчыкаў у брыгадзе 6 з 27 тарфянікаў, то можна лічыць, што прадукцыйнасць аднаго рабочага брыгады, за лік пераводу сцільшчыкаў на індывідуальную здзельшчыну, узрасце ў сярэднім на 6 проц. (на падставе аналагічнага падліку), улічваючы-ж магчымае скарачэнне брыгады ў рэзультаце механізацыі рольнага стала,—на 7 проц.

Значыць, рэалізацыя пастановы ЦК КП(б)Б аб увядзенні індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны можа даць прырост прадукцыйнасці на 10,7 проц.—прымем акруглена 10 проц. З улікам-жа скарачэння брыгады пры ўмове механізацыі рольнага стала, прырост прадукцыйнасці выразіцца ў 12 проц.

[1] „Звязда" орган ЦК КП(б)Б, Менск, 9/VI-33 г.

Вельмі важна адзначыць пры гэтым, што далёка не заўсёды рост прадукцыйнасці працы пры ўвядзенні рэзультатыўных сістэм аплаты дасягаецца за лік такога-ж павелічэння шчыльнасці рабочага дня. Гэтым мерапрыемствам дасягаецца часта і павелічэнне «скорасці, інтэнсіўнасці працы, лепшай яе арганізацыі» [1]), г. зн. за тую-ж адзінку часу асноўнай работы торфарабочы дае большую прадукцыю.

У якасці прыкладу, пацвярджаючага сказанае, можна ўказаць на наступныя факты: пры росце прадукцыйнасці працы сцільшчыкаў торфазавода «Большэвік» у межах да 46,7 проц., даныя выбарачнай фатаграфіі рабочага дня паказалі павелічэнне шчыльнасці з 63,4 проц. да 81,7 проц. (г. зн. усяго на 28,7 проц.).

Былі нават такія выпадкі, калі пасля ўвядзення індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны шчыльнасць рабочага дня заставалася нязменнай, а прадукцыйнасць значна павышалася (брыгада Галузы, Хлебіна на торфзаводзе «Большэвік»).

## Павышэнне кваліфікацыі рабочых і барацьба з цякучасцю

Цікавы матар'ял аб безупынным росце прадукцыйнасці працы тарфянікаў на працягу сезона. Гэту з'яву можна тлумачыць галоўным чынам тым, што рабочы па меры разгортвання сезона паступова «ўпрацоўваецца», набываючы вытворчыя навыкі. Калі майскую прадукцыйнасць аднаго тарфяніка, па даных Белторфа за 1933 г., прыняць за 100 проц., то ў чэрвені яна складае 112 проц., а ў ліпені і ў жніўні 127 проц.

Замацаванне рабочай сілы за торфазаводамі ў парадку арганізаванага набору і стварэнне асноўнага касцяка з пастаяннага кадра торфарабочых (побач з ліквідацыяй ураўнілаўкі і палепшаннем матар'яльна-бытавых і культурных умоў)—павінны прывесці на працягу другой пяцігодкі да амаль поўнай ліквідацыі цякучасці, дасягаючай агромных размераў; каэфіцыент цякучасці, па даных планавага аддзела Белторфа за сезон 1932 г., складаў 138,2 проц. за сезон 1933 г.—103,8 проц.

Улічваючы, што к канцу сезона прадукцыйнасць торфарабочых стабілізуецца на ўзроўні, прыкладна, на 30 проц. вышэй, чым у пачатку сезона, можна думаць, што пры наяўнасці значнай колькасці пастаянных кадраў кваліфікаваных тарфянікаў, арганізацыі дасканалага вытворчага інструктажа новых рабочых, належнай арганізацыі тэхвучобы на аснове разгорнутых соцметадаў працы (соцтэхэкзамен і інш.) і ліквідацыі цякучасці, першая палова сезона не будзе так рэзка адрозніваццa па прадукцыйнасці ад наступных месяцаў.

Дакладны разлік прыросту прадукцыйнасці за лік указанага фактара вельмі цяжкі, але мы можам меркаваць на падставе прыведзеных вышэй даных, што ён складзе, прыкладна, 10 проц. (у даным канкрэтным выпадку разлікі не могуць быць зроблены дакладна).

## Уплыў аблагарожвання залежаў шляхам лепшага асушэння балот

Гаворачы аб павышэнні прадукцыйнасці працы на машынафармовачным торфе, трэба ўлічыць уплыў асноўнага торфмейстэрскага фактара—аблагарожвання залежаў шляхам правядзення дадатковых асушальных работ, у якіх вельмі адчуваюць патрэбу ўсе заводы Бел-

[1]) Ленін „Чарговыя задачы совецкай улады" т. XXII, стар. 453, выд. III.

торфа. Гэта мерапрыемства дасць значнае павышэнне выхаду паветрана-сухога торфу, за лік чаго павялічваецца і прадукцыйнасць працы рабочага.

Становішча ў сучасны момант характарызуецца наступнымі данымі:

| Назва завода | Сярэдняя вага цэглы ў паветр.-сухім стане ў 1933 г. у кгр. | | Вільготнасць у рабочым сячэнні кар'ера ў проц. |
|---|---|---|---|
| | планавы | фактычны | |
| Асінторф | 1,04 | 1,11 | 87,53 |
| „Большэвік" | 1,06 | 0,944 | 88,7 |
| „Чыр. сцяг" | 1,025 | 1,158 | 86,0 |
| Імя Гея | 1,18 | 1,28 | — |
| „Чыр. Беларусь" | 1,10 | 1,12 | 86,9 |
| Імя Даўмана | 0,77 | 0,78 | 92,1 |
| Сярэдняя ўзважаная к дабываемаму торфу | 1,01 | 1,04 | 87,0 |

Далейшае зніжэнне вільготнасці безумоўна можна лічыць магчымым на 1 проц., дзякуючы чаму выхад паветрана-сухога торфу павялічыцца на 10 проц.[1]).

Зразумела, канечная вільготнасць торфу залежыць ад тыпу тарфяніка і ўласцівасцей торфу, таму для розных торфазаводаў процант прыросту прадукцыйнасці працы за лік гэтага фактара будзе розны. Але цікавы ўказанні інж. С. В. Курдзюмава[2]), што аптымальнай для работы элеватарных і багерных машын з'яўляецца вільготнасць 83—85 проц.

Гэты фактар знойдзе сваё адлюстраванне пры падліку выпрацоўкі ў тонах паветрана-сухога торфу.

## Фактары лепшага выкарыстання сезона.

Да гэтай групы фактараў, уплываючых на рост сезоннай прадукцыйнасці працы, належыць аднесці колькасць нявыхадаў па розных прычынах, прагулы, хваробы і т. д. і працягласць самога сезона, г. зн. агульную колькасць дзён, якую тарфянік можа працаваць на здабычы машынафармовачнага торфу.

Аналіз даных Белторфа паказвае, што за лік знішчэння прагулаў па няўважлівых прычынах, зніжэння захворванняў і т. д.—выхады ў сярэднім могуць узрасці на 2 проц., што адпаведна дасць павышэнне прадукцыйнасці мінімум на 2 проц. $\left(\frac{97,8 \cdot 100}{95,8} = 102,1\right)$.

Разглядаючы далей пытанне аб магчымасці павелічэння агульнай працягласці сезона па здабычы машынафармовачнага торфу, г. зн.

[1]) В. Г. Гарачкін „Эксплаатацыя тарфяных залежаў на паліва" ст. 9 выд. 1932 г.
[2]) Час. „Торфяное дело" № 2, 1934 г. арт. „Вопросы подготовки болот", стр. 5—8.

больш ранняга пачатку і больш позняга сканчэння яго, мы найперш павінны ўлічыць фактычны вопыт першай пяцігодкі.

Практыка здабычы торфу ў БССР паказала, што нармальным пачаткам сезона трэба лічыць 3-е мая. Канчаючы сезон 15-га жніўня, мы маем 105 календарных дзён, або, прыймаючы каэфіцыент выкарыстання сезона за 93,4 проц. (згодна плана Белторфа на 1933 г.), атрымаем 98 рабочых дзён, што ў адносінах да існуючай нормы дае магчымасць прыросту сезоннай выпрацоўкі на 14,3 % $\left(\frac{93 - 85,8}{85,8} \text{ к } 100\right)$.

Указанае падоўжанне сезона ў поўнай меры рэальна і пацвярджаецца данымі аб фактычным пачатку сезона ў 1932 г. і 1933 г. па цэламу раду заводаў. У дадатак нашы распрацоўкі ў барацьбе з прымярзаемасцю залежаў амаль зусім не практыкуюць мерапрыемстваў, якія дазволілі-б падоўжыць сезон здабычы больш указанага без баязні за якасць прадукцыі (пачынаць сезон раней).

Празмернае-ж павелічэнне сезона (да 110—123 календарных дзён), як гэта мела месца ў 1932 і 1933 г., не давала магчымасці высушыць позна здабыты торф, г. зн. фактычна прыносіла нетаварную прадукцыю.

## Агульныя перспектывы росту прадукцыйнасці працы на здабычы машынафармовачнага торфу

Прааналізаваўшы магчымы размер росту прадукцыйнасці працы за лік паасобных фактараў, мы папрабуем зараз вызначыць агульны процант прыросту, магчымы пры здабычы машынафармовачнага торфу на працягу другой пяцігодкі. Гэты разлік, зразумела, трэба прарабіць асобна ў адносінах дзеннай прадукцыйнасці (пры працяглаcці змены 8 гадзін) і агульнай сезоннай выпрацоўкі торфарабочага.

Але перш за ўсё трэба зноў-такі падкрэсліць, што метадалогія планавання прыросту прадукцыйнасці па асобных фактарах складана і мала распрацавана.

**У цэлым радзе выпадкаў паасобныя крыніцы росту прадукцыйнасці не паддаюцца выражэнню ў канкрэтных лічбах. Да такіх крыніц, якія на працягу другой пяцігодкі павінны адыграць выключна буйную ролю, належыць аднесці: агульнаадукацыйны і культурны ўздым, далейшае палепшанне матар'яльна-бытавых умоў, мерапрыемствы па аздараўленню ўмоў працы, павелічэнне насычанасці тарфянай прамысловасці кваліфікаванымі інжынерна-тэхнічнымі кадрамі і т. д. Для паданага ніжэй падліку гэтыя фактары з'яўляюцца моцным дадатковым рэзервам, які выцякае з самой прыроды нашай сацыялістычнай гаспадаркі.**

Далей мы маем рад крыніц, за лік якіх рост прадукцыйнасці працы можа быць выражан у лічбах.

На павелічэнні дзённай прадукцыйнасці скажуцца наступныя фактары з ліку прааналізаваных намі вышэй: механізацыя, павелічэнне каэфіцыента выкарыстання абсталявання і палепшанне структуры рабочага дня рабочых, новы ўздым соцспаборніцтва і ўдарніцтва, перабудова заработнай платы, павышэнне кваліфікацыі тарфянікаў, аблагароджванне залежаў.

Аднак, і тут мы сустракаемся з цяжкасцю вызначыць агульны па данай групе фактараў процант прыросту прадукцыйнасці. Справа ў тым, што **вызначэнне агульнага проданта прыросту шляхам звычайнага арыфметычнага складання атрыманых па асобных фактарах велічынь носіць механістычны характар.**

Такі спосаб не ўлічвае складанага ўзаемадзеяння паасобных фактараў магчымасці перакрыцця ці, наадварот, узмацнення дзеяння аднаго фактара ўплывам другога[1]).

Мы скарыстаем спосаб складання процантаў прыросту прадукцыйнасці працы толькі ў адносінах фактараў: механізацыі, ушчыльнення рабочага дня рабочых і павелічэння чыстага часу работы агрэгатаў (беручы абодва гэтыя фактары сумесна), павышэння кваліфікацыі рабочых і аблагароджвання залежаў.

Што датычыць соцспаборніцтва і перабудовы зарплаты, то іх уплыў на прадукцыйнасць у вельмі значнай частцы супадае з ужо пералічанымі вышэй фактарамі, бо іменна на аснове разгортвання соцспаборніцтва будзе ісці барацьба за павышэнне кваліфікацыі, ушчыльненне рабочага дня і т. д. Аднак, як мы ўказалі гэта ў раздзеле «Рэзультатыўныя формы аплаты працы», перабудова зарплаты не толькі павышае шчыльнасць рабочага дня агрэгата і рабочых (процант занятага работай часу на працягу змены), але дадаткова дае яшчэ павелічэнне прадукцыйнасці, інтэнсіўнасці працы. Соцспаборніцтва—соцыялістычны метад працы, з'яўляючыся асновай для дасягнення высокага ўзроўню прадукцыйнасці за лік усіх пералічаных вышэй фактараў, арганізуючы і накіроўваючы творчую ініцыятыву мас на далейшае палепшанне вытворчасці, арганізацыі працы, высуне, безумоўна, рад яшчэ няўлічаных намі дадатковых крыніц росту прадукцыйнасці, як напрыклад: мерапрыемствы па барацьбе з бракам і стратамі, рабочыя прапановы і вынаходства і т. д. і т. п.

Такім чынам, гэтыя два апошнія фактары мы павінны ў пэўнай меры ўлічыць (не беручы іх поўнасцю) у агульным выніку магчымага прыросту прадукцыйнасці.

Робячы папраўку на перакрыццё гэтых апошніх фактараў, умоўна возьмем $^1/_3$ процента прыросту прадукцыйнасці, атрыманыя намі ў раздзелах «Соцспаборніцтва і ўдарніцтва», «Рэзультатыўныя формы аплаты працы». У рэзультаце мы атрымаем наступную арыентовачную зводку прыросту прадукцыйнасці працы ў другую пяцігодку па ўсіх улічаных намі фактарах:

| Фактары: | Проц. прыросту прадукц. працы |
|---|---|
| 1. Далейшая механізацыя і рацыяналізацыя агрэгатаў . . . . . . . . . . | 24 |
| 2. Лепшае выкарыстанне рабочага часу | 33,8 |
| 3. Перабудова зарплаты; соцспаборніцтва, ударніцтва і інш. . . . . . | 12,3 |
| 4. Павышэнне кваліфікацыі і зніжэнне цякучасці . . . . . . . . . . . . | 10 |
| 5. Павелічэнне выхаду торфу (у вагавым выражэнні) за лік паніжэння вільготнасці залежаў . . . . . . . . . | 10 |
| | 90,1 |

[1]) Адзначым, што спосаб звычайнага арыфметычнага складання без усякіх агаворак і папраўак на ўзаемадзейнасць фактараў прымяняецца радам аўтараў, гл. Н. Буханевіч „К пытанню аб крыніцах росту прадукцыйнасці ў другой пяцігодцы", час. „Пытанні працы" № 6 за 1933 г. Н. Огнёў, Гіберман, Гольдберг „Перспектывы прадукцыйнасці працы", там-жа, № 7.

Акругляючы, прыймаем прырост дзённай прадукцыйнасці на 90 проц.

Ітак, у вагавых адзінках рост прадукцыйнасці на 90 проц. дазволіць дасягнуць к 1937 г. выпрацоўкі на аднаго рабочага за 8-гадзінную змену 1,9 тоны, замест адной тоны ў 1933 г. і 0,902 тоны ў 1932 г.

Выпрацоўка-ж у цэглах павысіцца толькі на 80 проц. і замест 962 цэглы на чалавека-дзень (за 8 гадз. валавой работы) у 1933 г. узрасце на працягу другой пяцігодкі да 1.732 цэглы.

Прыймаючы пад увагу ўплыў фактараў лепшага выкарыстання і падоўжання сезона, знішчэння прагулаў і зніжэння процанта нявыхадаў, мы атрымаем разлік сезоннай выпрацоўкі на аднаго тарфяніка к канцу другой пяцігодкі. Лік адпрацаваных тарфянікам дзён (за вылікам выхадных) складаў у сярэднім у 1932 г.—85, у 1933 г.—103 (дзякуючы надзвычайнаму зацягванню сезона); мы-ж на 1937 г. лік дзён за сезон прыймаем роўным 82 (бо 16 дзён з 98-мі пойдуць на выхадныя).

| | 1932 г. | 1933 г. | 1937 г. | Проц. 1937 г. к 32 г. | Проц. 1937 г. к 33 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзённая выпрацоўка 1 тарфяніка (у цэглах) . . . . . | 912 | 962 | 1732 | 189,9 | 180,0 |
| Дзённая выпрацоўка ў тонах . . | 0,9 | 1,0 | 1,9 | 211,1 | 190,0 |
| Сезонная выпрацоўка на 1 тарфяніка ў тыс. цэглы . . . . | 77,5 | 99,1 | 144,9 | 186,9 | 146,2 |
| Сезонная выпрацоўка ў тонах. . | 76,7 | 103,1 | 159,4 | 207,8 | 154,6 |
| Колькасць чал. за сезон на тысячу тон . . . . . . . . | 13,0 | 9,7 | 6,3 | 48,5 | 64,9 |

УВАГА: 1. Рабочы дзень за 1932 і 1933 гг. ачышчан ад звыштэрміновых і прыведзен к 8-мі гадзіннай працягласці (на аснове даных планавага аддзела Белторфа).

2. Сезон за 1932 і 1933 гг. узят па яго фактычнай працягласці, а на 1937 г.—98 календарных дзён.

Трэба падкрэсліць, што **зробленая намі спроба вызначыць магчымы размер прыросту прадукцыйнасці працы па здабычы машынафармовачнага торфу на працягу другой пяцігодкі не ўскрывае ўсіх без выключэння шматлікіх крыніц росту прадукцыйнасці, якія могуць і павінны быць выкарыстаны торфапрамысловасцю.**

**Таму і атрыманы намі процант павелічэння дзённай прадукцыйнасці, так сама як і процант павелічэння сезоннай выпрацоўкі на аднаго тарфяніка, нельга лічыць гранічным.**

У заключэнне гэтага раздзелу зробім падлік магчымай сярэдняй выпрацоўкі брыгады за змену к канцу другой пяцігодкі.

Прыймаючы склад брыгады ў 23 чал. (улічваючы скарочаны лік рабочых у сувязі з механізацыяй), будзем мець выпрацоўку брыгады за змену 39 836 цэглаў, акругляючы—40 тысяч. Трэба падкрэсліць, што такая сярэдняя норма выпрацоўкі на машына-змену к канцу другой пяцігодкі ў поўнай меры рэальна, і ўжо зараз лепшыя ўдар-

ныя брыгады дасягаюць яе. Напр., брыгада т. Клачкова, Бычкова на торфазаводзе «Большэвік»; брыгада т. Лаўшука—«Закраш. мох», т. Жура—торфазавод імя Гея, якія ў сезоне 1933 г. ў радзе выпадкаў давалі па 40.000 і больш цаглін за 8-гадзінную змену. Гэтага высокага ўзроўню можна дасягнуць праз поўнае выкарыстанне ўсіх тых фактараў павышэння прадукцыйнасці працы, што былі праанялізаваны вышэй. Барацьба за дасягненне гэтай нормы павінна быць распачата ўжо ў сезоне 1934 г.

Рэзалюцыі XVII з'езда партыі па дакладах т. Молатава і Куйбышэва гавораць аб механізацыі ў другой пяцігодцы звыш 70 проц. торфаздабычы. Адсюль следуе, што галоўнейшым фактарам забяспечання росту прадукцыйнасці торфапрамысловасці БССР у другой пяцігодцы з'яўляецца карэнная тэхнічная рэканструкцыя: увядзенне новых, менш працаёмкіх і больш эканомных спосабаў торфаздабычы (гідраторфа, багера, фрэзера).

Выкарыстанне ўсіх гэтых фактараў у торфапрамысловасці БССР можа даць рост прадукцыйнасці «у такіх размерах, пры якіх прадукцыйнасць працы робіцца рашаючым фактарам выканання намечанай праграмы павелічэння прадукцыі ў другой пяцігодцы» (з пастаноў XVII з'езда ВКП(б).

I. Г. Эцін

# З вопыту палітыка-масавай работы перадавога ў БССР палітаддзела Хойніцкай МТС

Мінулы палітаддзельскі год для калгасаў зоны дзейнасці Хойніцкай МТС быў годам стварэння прадпасылак, якія забяспечылі вясною 1934 г. магчымасці далейшага магутнага разбегу ў барацьбе за большэвізацыю калгасаў, за заможнае жыццё калгаснікаў.

Мінулы сельскагаспадарчы год значна ўзняў матар'яльны ўзровень калгасаў і калгаснікаў. Усе калгасы забяспечылі сябе добраякасным насеннем. Абсалютная большасць калгасаў атрымала на працадзень калгасніка ад 2,5 да 5 кгр. зерневых, не лічачы бульбы і іншых культур.

*Калгасы маюць у сваім распараджэнні 1586 плугоў, 120 сеялак, 2500 з лішнім працаздольных коняй, у патрэбнай колькасці бараны і іншы сельгасінвентар.*

Разбуйнены і створаны моцныя брыгады, падобран у асноўным нядрэнны склад брыгадзіраў. За зімні перыяд праведзена вялікая работа па перападрыхтоўцы брыгадзіраў, старшынь калгасаў, жывёлаводаў, канюхоў, трактарыстаў і т. д. Усе гэтыя працэсы праходзілі ў жорсткай барацьбе з класава-чуждымі элементамі, у барацьбе з контррэволюцыйнай работай класавага ворага, накіраванай на разлажэнне калгасаў знутры.

25 старшынь калгасаў, 15 членаў праўлення, 22 бухгалтары, 42 конюхі, 28 кладаўшчыкоў, 29 брыгадзіраў, 143 чал. радавых калгаснікаў былі выкінуты з калгасаў зоны дзейнасці Хойніцкай МТС. Палітаддзел у барацьбе за ачыстку калгасаў шырока выкрываў кожны факт варожай дзейнасці кулацтва, накіраваны на развал калгасаў, змагаўся супроць гультаёў і рвачоў, апіраючыся ў сваёй рабоце на масы калгаснікаў, у асобе якіх меў дружнае падтрыманне.

Крок за крокам палітаддзел умацоўваў дысцыпліну ў калгасах, змагаўся з расхлябанасцю, безгаспадарнасцю, на кожным участку калгаснай вытворчасці наводзіў большэвіцкі парадак. На месца вычышчаных шкоднікаў калгаснага будаўніцтва было вылучана каля 250 чал. калгаснага актыва, які вырас у барацьбе з класавымі ворагамі, у барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў. 25 старшынь, 41 канюх, 31 брыгадзір, 22 рахункаводы, 28 кладаўшчыкоў і т. д. вылучаны ў рэзультаце ўпорнай, крапатлівай работы. Створана паўтаратысячная армія калгаснага актыва з калгаснікаў, старыкоўвопытнікаў, з соцень моладзі, жанчын-калгасніц. Гэты актыў стварайся пад няўсыпнай увагаю палітаддзела, навучан ім на ўдарнай рабоце, на практычных справах па ўмацаванню калгасных брыгад, на засыпцы і праверцы якасці насення, у барацьбе за здаровага каня, за

ўстанаўленне парадку на малочна-таварных фермах, у барацьбе за датэрміновы рамонт сельгасінвентара.

У першых лічбах красавіка 51 калгас зоны дзейнасці Хойніцкай МТС уступіў у веснавую кампанію. К сяўбе прыступілі арганізавана, па-большэвіцку.

Узброены вопытам мінулага года, калі завяршыўся рэарганізацыйны перыяд для калгасаў Хойніцкага раёна, прарабіўшы вялікую работу па выпраўленню недахопаў, перашкаджаўшых паспяховай рабоце, палітаддзел дабіўся таго, што з першых-жа дзён на калгасных палях праяўляецца найвялікшая актыўнасць калгасных мас—чэсная праца, дысцыпліна, арганізаванасць.

У першы дзень выхаду ў поле калгаса «Чырвоны араты» трое калгаснікаў брыгады комсамольца Пінчука спазніліся на 10 мінут. Неадкладна быў склікан сход. Брыгада патрабавала прыцягнуць да адказнасці спазніўшыхся, прымусіла іх даць калгаснае слова, што падобныя факты больш не паўторацца.

Хойніцкі палітаддзел дабіўся немалых поспехаў у арганізацыйным і палітычным умацаванні калгасаў.

Палітаддзельцы на чале са сваім начальнікам з першых-жа дзён здолелі павярнуць тварам да палітмасавай работы партыйцаў, комсамольцаў, камандны склад калгасаў, брыгадзіраў, старшынь, калгасны актыў. Масава-палітычная работа не здана на водкуп спецыяльна вылучаным людзям—ёю займаюцца ўсе. Моцнаю сілай, сапраўдным памочнікам палітаддзела і партыйнай арганізацыі ва ўсёй рабоце быў і ёсць комсамол—гэты атрад у 177 комсамольцаў, аб'яднаных у 24 пярвічных арганізацыях і ў 7 калгасах (адзіночкі). Яны першымі адклікаліся і былі актыўнымі праваднікамі ўсіх пачынанняў палітаддзела. Яны—ініцыятары свята калгаснай працы, культпахода, інспекцыі па якасці. Яны вылучаюць чцяцоў, арганізоўваюць рэдкалегію ў брыгадах, уручаюць сцяжкі палітаддзела лепшым сеяльшчыкам, плугарам, трактарыстам, арганізоўваюць турткі самадзейнасці, культпаходы за абсталяванне хат-чыталень, за культурны быт, праводзяць сярод калгаснікаў падпіску на газеты, арганізоўваюць дошкі тэмпаў, навін, чырвоныя і чорныя дошкі.

У калгасах комсамольцы—на рашаючых участках. Пяць старшынь калгасаў, 2 намеснікі, 27 брыгадзіраў, 16 канюхоў, 19 працуюць на СТФ і МТФ (з іх 11 загадчыкаў), 70 чал. у паляводных брыгадах (з іх 53 працуюць звенневодамі), 17 на сеялках, 19 трактарыстаў, рахункаводы, учотчыкі—такаво значэнне ў калгаснай вытворчасці комсамольскай арганізацыі зоны дзейнасці Хойніцкай МТС.

Сіла комсамола ў тым, што ён здолеў падрыхтаваць моцных кіраўнікоў пярвічных арганізацый праз месячныя курсы сакратароў ячэек, здолеў вылучыць групу арганізатараў сярод брыгаднай моладзі, здолеў уцягнуць не адну сотню беспартыйнай моладзі ў работу на рашаючых участках калгаснай вытворчасці. 106 маладых дзяўчат працуюць памочнікамі брыгадзіраў, 68 чал. конюхамі, 26 брыгадзірамі паляводных брыгад, 12 комсамольска-маладзёжнымі звенневымі на свінафермах, плугарамі, сеяльшчыкамі.

Увесь палітаддзел адчувае ў комсамоле і сярод моладзі агромную сілу. Работа комсамола—справа не аднаго памочніка начальніка па комсамолу, а ўсяго палітаддзела. «Малалікасць партыйнай арганізацыі, наяўнасць такой сеці пярвічных комсамольскіх арганізацый і комсамольцаў прымушае нас, усіх работнікаў палітаддзела, моцна працаваць з комсамолам, на іх апірацца ва ўсёй нашай рабоце».

* * *

Якія-ж формы і метады масава-палітычнай работы ўкараняе палітаддзел у кожны калгас? Зімні перыяд палітаддзел выкарыстаў для арганізацыі вучобы. Па 17 калгасах агразоатэхгурткамі ахоплена 353 калгаснікі. У парадку лекцый і на гуртках распрацаваны такія тэмы:

а) розныя віды ўгнаенняў і іх ўжыванне;

б) пасеўны матар'ял, яго падрыхтоўка, захаванасць і значэнне для павышэння ўраджаю:

Слухачы гурткоў прыцягнуты былі да складання планаў веснавой сяўбы ў калгасах.

У 18 калгасах прыведзены ў парадак хаты-чытальні, арганізавана 20 шаф з бібліятэчкамі, закуплена і прасунута ў калгасы на некалькі тысяч рублёў кніг, рэгулярна праводзіліся нарады МТС, канферэнцыі старыкоў-вопытнікаў, 2 канферэнцыі моладзі, куставыя семінары калгаснага актыва жанчын, кожны работнік палітаддзела чытаў даклады, лекцыі па гаспадарча-палітычных і агранамічных пытаннях. Да гэтай работы прыцягваліся агрономы і калгасны актыў.

Па ініцыятыве комсамольскіх ячэек, як-бы ў завяршэнне зімняй работы і намёткі практычных мерапрыемстваў падрыхтоўкі к вясне, праведзена было свята калгаснай працы. З вялікім інтарэсам і ўздымам рыхтаваліся калгаснікі да свята, выканаўшы ўсе дзяржаўныя заданні. На вечарах з удзелам аднаасобнікаў былі заслуханы даклады старшынь калгасаў аб выніках гаспадарчага года, выступленні лепшых калгаснікаў-ударнікаў, атрымаўшых высокую даходнасць. Свята закончылася культурнымі вечарамі ва ўсіх калгасах зоны дзейнасці МТС, прэміяваннем лепшых ударнікаў і абгаварэннем плана падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі.

Напярэдадні падрыхтоўкі да вясны палітаддзел вылучыў 200 жанчын калгасніц і правёў участковыя курсы па падрыхтоўцы пам. брыгадзіраў і кіраўніц санпастоў. Праведзена вялікая работа па складанню калгасных і брыгадных вытворчых планаў сяўбы.

У калгасных брыгадах на час веснавой сяўбы арганізаваны звенні, падабраны кіраўнікі. 700 звенняў створана ў калгасах зоны дзейнасці МТС. Яны паказваюць узоры работы. Звяно **Краўчэнка** ў калгасе «КІМ» перавыконвае норму ворыва, на яго сеялцы красуецца чырвоны сцяжок палітаддзела. Звяно **Кракаянчэка** ў калгасе «Комінтэрн» дае высокую якасць, раней усіх выходзіць на работу, выконвае норму.

З самага пачатку палітаддзел стаў на правільны шлях арганізацыі звенняў—па прынцыпу правядзення ўсяго цыкла сельскагаспадарчых работ на веснавы перыяд: падрыхтоўка глебы, ворыва, сяўба і баранаванне.

Па ініцыятыве комсамольскай ячэйкі ў калгасе «КІМ» арганізаваны былі інспекцыі якасці. Кожная брыгада на сваім сходзе абрала трох інспектароў, якія аформлены былі на агульным сходзе калгаса, і вылучан старшы інспектар—тав. Краўчэнка. Ячэйка звярнулася з лістам да ўсіх комсамольскіх ячэек і калгасаў зоны дзейнасці МТС. Начальнік палітаддзела ў той-жа дзень адобрыў ініцыятыву калгаса «КІМ». і ў рэзультаце ў кожным калгасе зараз-жа арганізаваліся інспекцыі па якасці, у кожнай брыгадзе—група інспектароў, выпрацавана памятка, што ім рабіць. У гэтай арміі з 800 чал. сабрана ўсё лепшае, што ёсць у калгасе. Тут і старыкі, і моладзь і жанчыны. Гэта яны—інспектары





ў калгасе «КІМ» на чале са старшым інспектарам Краўчэнка—з прыдзірлівасцю правяраюць кожную прапробленую работу. Гэта яны—інспектары ў калгасе «Чырвоны прамень» выявілі недасеў у 13 кгр. аўса. У калгасах «Зара Леніна», «Асоавіяхім», «Селянін» і ў радзе іншых яны самі паказваюць прыклад лепшай работы на калгасных палях, правяраюць кожны кавалак апрацаванай зямлі, праяўляюць гаспадарчую клапатлівасць. У іх, кіраўнікоў, на рукаве красуецца павязка з надпісам: «Калгасны інспектар па якасці».

Вартасць палітаддзела ў тым, што ён не толькі стварыў гэты рух, а штодзённа арганізоўвае і дапамагае ў рабоце. 15 красавіка нарада калгасных інспектароў якасці падагуліла работу і дала далейшую зарадку. На калгасных палях, у брыгадах вы можаце сустрэць дагэтуль нябачаны ў вёсцы санпост: калгасніца з чырвоным крыжам на рукаве, з аптэчкай гатова аказаць вам першую меддапамогу.

Некалькі соцень чырвоных чцяцоў вылучаны ў брыгадах і звеннях з калгаснага актыва. Гэта—граматныя калгаснікі, большасць з іх моладзь. Да кожнага чцяца прымацавана група калгаснікаў, сярод якіх чтец праводзіць гутарку аб прачытаным, займаецца падпіскай на газеты. У яго абавязак уваходзіць не толькі чытаць газеты на калгасным двары, на полі, але і пасля работы—на-даму. Чцяцы расклейваюць газетны матар'ял на дошках навін; яны-ж клапоцяцца аб своечасовай дастаўцы газет. Чтец, гэты агітатар з асяроддзя калгаснікаў, гаворыць з імі праз газету—самую вострую зброю нашай партыі. «Калгасная ільічоўка» пашырана ў кожнай брыгадзе па распрацаванаму палітаддзелам макету. У кожнай брыгадзе на агульным сходзе абрана рэдкалегія, у кожным звяне—карэспандэнт. У дапамогу ім прымацаваны настаўнікі, старшыя піонеры. Вакол газеты створан агромны актыў людзей. Яна мае ў сваім распараджэнні друкаваныя палітаддзелам паведамленні ўдарнікам, з партрэтам Леніна і Сталіна. Гэтыя ганаровыя певедамленні рэдкалегія пасылае на дом лепшым ударнікам калгаса, а таксама вывешвае на відным месцы. Для гультаёў і прагульшчыкаў рэдкалегія мае папераджальныя паведамленні, якія пасылаюцца на дом з напамінаннем аб дрэннай, нячэснай працы, паведамленне вывешваецца на відным месцы. У гэтым—арганізуючая сіла брыгадных газет.

На сеялках, трактарах, плугах мы сустракаем чырвоныя сцяжкі—іх заваявалі лепшыя з лепшых, якія далі добрыя тэмпы і якасць у рабоце. Сцяжок палітаддзела плугар, сеяльшчык, трактарыст заваёўвае ўпорнай работай. Вялікае значэнне ў масавай рабоце маюць дошкі тэмпаў. Чырвоныя і чорныя дошкі зроблены прыгожа клапатлівай рукою, абаронены ад ветра, дажджу.

З комсамольцаў і моладзі раённага цэнтра палітаддзел арганізаваў агітбрыгаду ў 26 чал., якая 7 раз выязджала ў калгасы. У сваіх вясёлых песнях і частушках брыгада бічуе гультаёў, прагульшчыкаў, наладжвае танцы пад аркестр. Усё гэта ажыўляе калгасную працу, робіць яе радаснай і дапамагае палітаддзелу ў рабоце. Агітбрыгады дапамагаюць агітфургону, які раз'язджае з калгаса ў калгас з літаратурай, іх папаўняюць гурткі калгаснай самадзейнасці, якія ствараюцца з калгаснікаў—плясуноў, спевакоў, музыкантаў, расказчыкаў.

Небезудзельным застаецца і трэцяе пакаленне—піонеры. У калгасах «Чырвоны араты», «Селянін», «КІМ» і інш. яны распаўсюджваюць газеты, шэфствуюць над маладняком, выпускаюць сямейныя газеты, дапамагаюць брыгадзірам весці ўлік працадзён і работы.

Правільнай пастаноўкі і добрай якасці ў масавай рабоце можна дабіцца толькі тады, калі да справы падыходзіць не шаблонна. Поспех у масавай рабоце палітаддзел забяспечыў тым, што ён ведае людзей, іх работу і недахопы, знаходзіць у іх рабоце галоўнае, выхоўвае масы, дабра арганізуе праверку выканання. Палітаддзельцы ідуць у калгасы, ведаючы слабыя бакі кожнага, ведаючы людзей, на якіх апіраюцца, ведаючы дзе і што трэба выправіць, каму даручыць і на каго арыентавацца ў рабоце. У гэтым сіла іх стылю ў рабоце, у гэтым сакрэт поспехаў.

* * *

Няправільна было-б думаць, што ў пастаноўцы масава-палітычнай работы Хойніцкага палітаддзела, у рабоце на ўсіх участках калгаснага будаўніцтва няма недахопаў. Адзначаны вопыт маюць многія калгасы—адны больш, другія менш,—накоплены формы і метады работы, але патрэбна далейшая ўпорная работа палітаддзела, каб зрабіць іх набыткам кожнага калгаса, кожнай брыгады. Калгасы «Баявік», «Хваля рэвалюцыі», «Чырвоная зорка», «XVII з'езд партыі» (новы калгас), «Чырвоная змена», «Ланцуцкага» з'яўляюцца слабым звяном на агульным фоне гаспадарча-палітычнага становішча калгасаў зоны МТС. Узняць іх на ўзровень лепшых калгасаў раёна—баявая задача палітаддзела. Над гэтым трэба мацней папрацаваць.

Проста-такі недапушчальна пастаўлена агразоатэхнічная прапаганда. За зіму яна разгарнулася, а з наступленнем вясны самаліквідавалася. Работа гурткоў не стала арганічнаю, жывою справай кожнага калгаса. Аўладанне-ж агразоатэхнікай з'яўляецца па сутнасці тою галоўнаю зброяй, вядучай воссю, якая дае магчымасць паставіць калгасы на новую, вышэйшую ступень будаўніцтва буйнай гаспадаркі. Аўладаць агратэхнікай—гэта значыць закрыць яшчэ адну шчыліну для пранікнення класавага ворага на гэты ўчастак для падрыву калгаснай вытворчасці.

Трэба дабіцца, каб кожны калгаснік аўладаў пытаннямі арганізацыі працы, нормамі выпрацоўкі, вытворчым планам брыгады, арганізацыяй звенняў і іх работы.

Наяўнасць моцнай тэхнічнай базы ў Хойніцкай МТС дае поўную магчымасць калгасам гэтай зоны аўладаць машыннаю тэхнікай трактарамі, сеялкамі, жняяркамі, малатарнямі.

Калі-б трактарны парк і прыцэпны інвентар працавалі з поўнай магутнасцю, то пасеўкампанія праходзіла-б лепш. Таму падабраць на машыны лепшых людзей, моцна працаваць з імі, дабіцца, каб яны поўнасцю аўладалі машынамі—справа чэсці МТС, кожнага калгаса, палітаддзела.

Створаную работай Хойніцкага палітаддзела вялікую армію актыва трэба зрабіць поўнацэннай, баявою арміяй, паставіўшы агразоатэхпрапаганду ў цэнтр увагі.

У калгаснай масы вяліка жаданне вучыцца. Малады калгаснік, заг. МТФ калгаса «КІМ» т. Бельскі, які многа працаваў над сабой; тав. Качура з калгаса «Чырвоны араты», тав. Кулыпенка з калгаса «Чырвоная паляна»—гэта энтузіясты, якіх можна і трэба выкарыстаць для пастаноўкі агразоатэхпрапаганды ў калгасах. Такіх можна знайсці ў кожным калгасе. Трэба толькі мець пэўную арганізатар-

скую здольнасць, каб паставіць справу на належную вышыню. Хойніцкія партыйцы, комсамольцы і калгасны актыў павінны першымі ў Беларусі здаць агратэхэкзамен на «вельмі добра». Таму, не робячы летніх перапынкаў, трэба тэрмінова і шырокім фронтам разгарнуць справу агразоатэхвучобы ў калгасах.

Хойніцкі палітаддзел першым дабіўся поспехаў у справе жывёлагадоўлі, у доглядзе каня. У калгасах зоны МТС наведзен неабходны элементарны парадак, у МТФ, СТФ і стайнях падабраны ў асноўным чэсныя людзі, здольныя да жывёлагадоўлі. Час ісці далей. Ад прымітыўнага парадку ў стайнях і фермах перайсці на ўзорную пастаноўку справы па ўсіх правілах зоатэхнікі, укараніць прагрэсіўную аплату працы для работнікаў жывёлагадоўлі, дабіцца, каб на стайні для кожнага каня заведзена была таблічка з яго клічкай, пародай, узростам, каб коні расстаўлены былі паводле іх укормленасці, уведзен правільны рацыён кармлення. Гэта-ж адносіцца да МТФ і да СТФ. У першую галаву трэба дабіцца, каб людзі, якім калгас даверыў важнейшы ўчастак—жывёлагадоўлю, аўладалі сваёй прафесіяй.

Неадкладная задача палітаддзела—узняць цэлай сістэмаю мер арганізацыйнага і палітычнага парадку нававылучаных кіраўнікоў калгаснай вытворчасці на такі ўзровень, каб яны не застылі на адным месцы, а безупынна рухаліся ўперад. Трэба ўцягваць іх у грамадска-палітычнае жыццё, стварыць участковыя школы актыва, сачыць, каб яны працавалі над газетай, прасунуць ім бібліятэчкі.

З большай рашучасцю трэба ўзяцца за культурную работу ў вёсцы, бо пачаты зімою культурны паход не набыў належнага размаху, не стаў арганічнаю справай калгаса.

Ад хаты перайсці на барацьбу за чысты калгасны двор, азялёненую вуліцу, добра абсталяваную чытальню, бібліятэку. Дабіцца, каб у кожным калгасе была летняя пляцоўка для культурнага адпачынку, каб кожны калгаснік меў радыё. Усё гэта—неадкладныя задачы з усёй сумы работ па барацьбе за заможнае жыццё калгаснікаў.

Узняць масава-палітычную работу на вышэйшую ступень можна толькі тады, калі з усёй сілай будзе пастаўлена пытанне аб павышэнні ролі партарганізатара ў калгасе і ў брыгадзе. Гэта вялікая задача для палітаддзела, бо партарганізацыя немалаліка, і складаецца галоўным чынам з партарганізатараў і кіраўнікоў калгасаў. Малалікасць партарганізацыі павінна быць пакрыта павышэннем якасці кожнага члена партыі і кандыдата. Комсамольскія арганізацыі—лепшы памочнік палітаддзела ў правядзенні ўсіх мерапрыемстваў—дабіліся ў гэтай справе бясспрэчных поспехаў.

Створаны ўсе ўмовы для таго, каб кожная комсамольская пярвічная арганізацыя ў бліжэйшы час магла стаць сапраўды арганізуючай сілай у калгаснай вытворчасці. Для гэтага трэба вучыць і яшчэ раз вучыць кожнага комсамольца, дапамагчы піонерскім атрадам стаць моцна на ногі, даць ім добрых кіраўнікоў. Умацаваўшы партыйную арганізацыю і яе прыводныя рэмені—комсамол і піонераў—зрабіць іх здольнымі стаць на ўзровень арганізатара вялікай арміі калгаснага актыва. Хойніцкі палітаддзел здолее ў бліжэйшы час дабіцца такіх тэмпаў у рабоце, каб забяспечыць выкананне гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі.

* * *

4 мая калгасы зоны дзейнасці Хойніцкай МТС перавыканалі план другой большэвіцкай вясны 2-й пяцігодкі значна раней і якасна лепш, чым у мінулым годзе; па большасці калгасаў праведзена радковая сяўба.

Вясенне-пасеўнай кампаніяй палітаддзел як-бы падвёў вынікі сваёй гадавой рабоце, упартай большэвіцкай барацьбе на калгасных палях, у стайні, на малочна-таварных фермах, на свіна-фермах.

На сяўбе правяралася армія лепшых людзей калгаснай вёскі, высунутых палітаддзелам для кіраўніцтва калгасамі, правяраліся і метады работы самога палітаддзела.

Выхаваныя палітаддзелам кадры—партыйцы, комсамольцы, калгасны актыў, а разам з імі маса калгаснікаў—перашлі ў вышэйшы клас.

Роля комсамола і калгаснай моладзі зоны дзейнасці Хойніцкай МТС у завяршэнні пасеўнай кампаніі—агромна.

Паводле звестак з 21 калгаса, дзе працуюць пярвічныя арганізацыі ЛКСМБ, усе 69 паляводчых брыгад былі ахоплены міжбрыгадным і ўнутрыбрыгадным соцспаборніцтвам. З 235 звенняў спаборнічала 168. Індывідуальным спаборніцтвам па сяўбе былі ахоплены 556 чал., з іх моладзі—438 чал.

Па гэтых калгасах быў праведзен заклік маладых ударнікаў сяўбы. З закліканых 269 чал.—257 паказалі сябе сапраўднымі ўдарнікамі.

З пасланых лепшым ударнікам 293 «чырвоных вестак» моладзь атрымала 169.

З разасланых 136 «папярэджанняў» за недахопы ў палявой рабоце (спазненні, дрэнная якасць) на моладзь прыпадае 37.

З занесеных 364 чал. на чырвоныя дошкі гонару, моладзі—187 чал. З 217 чал. інспектароў па якасці—46 чал. моладзі.

На пасеўнай кампаніі працавала 39 комсамольска-маладзёжных звенняў, якія паказвалі лепшыя ўзоры работы.

За час сяўбы выпушчана 354 брыгадныя газеты-штодзёнкі.

У 16 калгасах сіламі комсамола праведзена пашпартызацыя коняй. Арганізавана 8 ячэек «Прыяцель каня», якімі ахоплена 74 чал. моладзі.

За час сяўбы праведзена 5 грамадска-комсамольскіх судоў над бракаробамі.

Гэтыя даныя гавораць аб той вялікай сіле, якую прадстаўляе сабой на вытворчасці калгасная моладзь, кіруемая партыяй.

Хойніцкі палітаддзел канкрэтна ўзяўся за выкананне ўказанняў тав. Сталіна аб рабоце сярод моладзі, і гэта мела безумоўна агромнае значэнне ў забяспечанні поспеху на пасеўным фронце.

* * *

Праз 7 дзён пасля сканчэння веснавой сяўбы, калі калгасы Хойніцкай МТС рыхтаваліся падвесці вынікі, маланкаю пранеслася вестка, што ў ліку 110 лепшых начальнікаў палітаддзелаў МТС, якіх урад Саюза ССР узнагародзіў за самаадданую работу ў кіраўніцтве калгасным будаўніцтвам, значыцца і начальнік палітаддзела Хойніцкай МТС тав. **КАМЕНШТЭЙН.**

Кожны калгас, кожны калгаснік адчуваў у гэтай узнагародзе сваю частку, свой вытворча-палітычны гонар. Кожнаму калгасніку

жыва ўспамінаўся пройдзены год, бяссонныя ночы начальніка палітаддзела, калі трэба было арганізаваць уборку ўраджаю 1933 г., асабліва ў калгасах, дзе быў прарыў; успаміналіся праведзеныя палітаддзельцамі сходы ў калгасах, калі трэба было вырваць з карэннем кулацкія элементы; успомніўся паход калгаснікаў пад кіраўніцтвам палітаддзела за культурную калгасную хату, гутаркі палітаддзельцаў з калгаснікамі аб задачах партыі. Успомнілі пра гэта і тыя, хто ў свой час нядобрасумленна адносіўся да калгаснай працы (зараз ужо ўдарнікі)—з якой справядлівай жорсткасцю «адчытвалі» іх палітаддзельцы і начальнік палітаддзела ў асаблівасці.

Наш начальнік палітаддзела ўзнагароджан ордэнам Леніна. А гэта абавязвае працаваць яшчэ лепш—на **выдатна**.

Сяўба скончана. Пачынаецца другі, рашаючы этап барацьбы за высокі ўраджай.

Ордэн Леніна абавязвае працаваць па-ленінску. Палітаддзел і калгасы Хойніцкай МТС павінны паслужыць прыкладам для астатніх палітаддзелаў, райкомаў, калгасаў Беларусі.

Палітаддзел Хойніцкай МТС—перадавы палітаддзел, перадавы барацьбіт за большэвіцкія калгасы, за заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў.

---

Кіселёў

# Па-большэвіцку арганізаваць вывучэнне рашэнняў XVII з'езда партыі

У партыйных арганізацыях КП(б)Б разгарнулася агромная работа па прапагандзе гістарычных рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) сярод комуністаў, комсамольцаў, самых шырокіх мас рабочых і калгаснікаў.

Цэлы рад партарганізацый (Менск, Барысаў, Слуцк) ужо сёння, на аснове паглыбленага вывучэння рашэнняў з'езда партыі і даклада правадыра партыі т. Сталіна, маюць вялікія дасягненні ў галіне разгортвання партасветы, выканання гаспадарча-палітычных задач на прадпрыемствах, у калгасах.

Менская партарганізацыя з пачатку лютага месяца шырока арганізавала вывучэнне рашэнняў XVII партз'езда ў сеці партасветы.

Менскі ГК прапрацоўку рашэнняў з'езда здолеў увязаць з палепшаннем работы партыйнай асветы. Наведванне школ і гурткоў дасягае 85—90 проц. Арганізавана сістэматычная вучоба заводскага партактыва, рэгулярна працуюць семінары: групарторгаў на 105 чал., сакратароў парткомаў—50 чал., інструктароў гаркома—12 чал.

Шырока разгорнута работа сярод беспартыйных рабочых. Прапрацоўка даклада т. Сталіна на даму праводзілася ў 300 рабочых. Арганізаваны для вывучэння рашэнняў з'езда спецыяльныя палітшколы рабочых: на фабрыцы «Усход»—4, друкарні імя Сталіна—2, заводзе «Большэвік»—2 і т. д.

Дом партактыва прыступіў да арганізацыі сістэматычнай работы з прапагандыстамі, наладжвае лекцыі для партактыва па пытаннях XVII з'езда.

У выніку паглыбленай прапаганды гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі мы маем агромны рост палітычнай, вытворчай актыўнасці комуністаў і самых шырокіх мас беспартыйных рабочых і калгаснікаў. Менская партарганізацыя на аснове перабудовы партработы, палепшання канкрэтнага кіраўніцтва арганізацыі, шырокай прапаганды рашэнняў XVII з'езда партыі ўжо зараз мае рад дасягненняў у галіне выканання гаспадарча-палітычных задач: пазыка другога года другой пяцігодкі размешчана паспяхова, Менскі раён ідзе ў ліку перадавых па веснавой сяўбе.

Значна палепшылася работа прадпрыемстваў: завод імя Молатава ў снежні выконваў план на 90 проц., за апошнія тры месяцы—перавыконвае. Завод «Ударнік» выконваў план на 77 проц., зараз—на 101 проц.; завод «Большэвік», «Варашылава» таксама перавыконваюць план.

Па-большэвіцку разгарнула прапрацоўку рашэнняў з'езда партыі Барысаўская партарганізацыя. Побач з вывучэннем матар'ялаў з'езда

ў гарадской сеці партасветы, Барысаўскі РК КП(б)Б шырока разгарнуў новыя формы вучобы на вёсцы: прапрацоўка даклада т. Сталіна на кватэрах калгаснікаў (ахоплена 188 кватэр); работа кароткатэрміновых 2—5 дзённых курсаў для партыйнага калгаснага і савецкага актыва, праз якія ў лютым і сакавіку прашло 2300 чал. У выніку прапрацоўкі матар'ялаў з'езда 500 гаспадарак уступілі ў калгасы, паспяхова праводзіцца веснавая сяўба. Барысаўскі раён займае зараз першае месца па ходу сяўбы ў БССР.

Заслугоўвае ўвагі вопыт Барысава ў арганізацыі тэарэтычных канферэнцый па матар'ялах з'езда. Такая канферэнцыя. арганізаваная барысаўскім райкомам пры вячэрнім комвузе, дала выдатныя рэзультаты.

У Слуцкай партарганізацыі рашэнні з'езда вывучаюць 425 чал., па сеці партыйнай асветы працуе 40 палітгурткоў. Праведзены спецыяльныя курсы: прапагандыстаў, парторгаў, старшынь сельсаветаў, калгасаў, якімі ахоплена 380 чал. У працэсе прапрацоўкі 7000 калгаснікаў узялі канкрэтныя абавязацельствы па рэалізацыі рашэнняў з'езда і даклада правадыра—т. Сталіна. Слуцкі раён ідзе ў радах перадавых у правядзенні веснавой сяўбы.

Гістарычныя рашэнні XVII з'езда партыі і асабліва пастаўленая т. Сталіным задача—«узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню, узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі, весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі»—унеслі агромныя змены ва ўсю сістэму пастаноўкі партыйнай прапаганды. Рашэнні з'езда і асабліва даклад т. Сталіна вывучаюць зараз не толькі члены і кандыдаты партыі, але і самыя шырокія слаі рабочага класа і калгаснікаў. Сець партыйнай асветы вышла далёка за свае звычайныя рамкі. На многіх прадпрыемствах і ў калгасах да вывучэння даклада т. Сталіна, апрача членаў і кандыдатаў партыі, прыцягнуты амаль усе рабочыя і калгаснікі.

Менская, Барысаўская, Слуцкая партарганізацыі здолелі па-большэвіцку арганізаваць у масах прапаганду рашэнняў партз'езда, увязаўшы яе з выкананнем канкрэтных гаспадарча-палітычных задач, і таму дабіліся агромных поспехаў.

* * *

Многія партарганізацыі не зразумелі аднак таго выключнага значэння, якое мае прапаганда рашэнняў з'езда для перабудовы ўсёй работы, для паспяховага выканання гаспадарча-палітычных задач і, не гледзячы на неаднакротныя папярэджанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, не здолелі па-бальшэвіцку арганізаваць глыбокае вывучэнне рашэнняў партз'езда сярод комуністаў і шырокіх мас рабочых і калгаснікаў.

Што-ж мы маем у гэтых партарганізацыях?

**Клічэўскі раён.** Паглыбленая прапрацоўка рашэнняў з'езда ў сеці партасветы не арганізавана. Большасць школ распалася. З трох школ па ленінізму распаліся дзве, з 13 кандыдацкіх распалася сем. Соўпартшколы ў Клічаве і соўгасе «Астравы» спынілі работу.

**Талачынскі раён.** Працаваўшыя ў зімні перыяд 14 кандыдацкіх школ, 1 ВСПШ, 1 пачатковая школа па ленінізму спынілі работу, не скончыўшы праграм і не пераключыўшыся на прапрацоўку рашэн-

няў з'езда партыі. Рашэнні з'езда заслуханы былі толькі на партсходах.

**Лёзненскі раён.** З 675 чал. рабочых фабрыкі імя К. Маркса вучобай ахоплена толькі 5—7 чал. Прафоргі Стах, Левін, Скрабаў, Шылаў, Чэрнышова нічога не зрабілі для паглыбленага вывучэння рашэнняў у цэхах і брыгадах сярод рабочых.

**Жлобінскі раён.** На вінакурным заводзе «Пярэвічы» рашэнні з'езда зусім не прапрацоўваліся; на працягу двух месяцаў не было ні аднаго схода. Не арганізавана вывучэнне рашэнняў з'езда і ў саматужных арцелях.

З прыведзеных фактаў трэба заключыць, што паасобныя партыйныя камітэты, сакратары парткомаў не перабудаваліся для непасрэднага аператыўнага кіраўніцтва прапрацоўкаю рашэнняў партз'езда; паасобныя райкомы ўсё яшчэ самаадстараняюцца ад гэтай работы. У Магілеве, напр., райком партыі ўсклаў агульнае кіраўніцтва і праверку ходу прапаганды рашэнняў з'езда партыі па раёну на аднаго з інструктароў РК—быўшага заг. культпропаддзелам. Такім чынам сакратар РК, яго намеснік гэтай справай непасрэдна не займаюцца.

У Рэчыцы справа прапаганды ўсё яшчэ застаецца манаполіяй партгабінета. Кіруючыя ўказанні аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б з рэзалюцыямі накіроўваюцца загадчыку партгабінетам.

ЦК КП(б)Б у сваіх рашэннях ўжо неаднокраць асуджаў гэтыя зусім няправільныя тэндэнцыі. Аднак, партыйныя камітэты раду арганізацый не выконваюць дырэктыў ЦК КП(б)Б, не перабудоўваюць сваё кіраўніцтва партыйнай прапагандай адпаведна з рашэннямі партз'езда.

У рашэннях XVII з'езда вельмі востра пастаўлена пытанне аб перабудове партыйнай работы па-новаму. У цэнтры ўвагі павінны стаць клопаты аб члене партыі, аб павышэнні яго ідэйна-палітычнага ўзроўню, дзелавой вытворчай кваліфікацыі. Комуніст, які не ўладаў гэтымі якасцямі, не можа быць палітычным і вытворчым важаком мас, не можа быць прапагандыстам ідэй марксізма-ленінізма, рашэнняў партыі.

Аднак, многія гэтага не зразумелі і мала займаюцца пытаннямі ідэйна-палітычнага ўзбраення комуністаў. На бюро гаркомаў і райкомаў рэдка абгаварваюцца пытанні партвучобы, работы паасобных школ, прапагандыстаў.

Гэта няправільная тэндэнцыя знаходзіць сваё адлюстраванне і ў рабоце інструктароў горрайкомаў. З Віцебска, напр., сігналізуюць аб тым, што інструктары ідэйна-палітычным выхаваннем, работай сеці партасветы не займаюцца. Зусім зразумела, што такія раёны недапушчальна адстаюць і ў выкананні гаспадарча-палітычных задач (веснавая сяўба, рэалізацыя пазыкі і інш.). Адстаюць перш за ўсё таму, што не перабудаваліся ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі, не паставілі ў цэнтры ўвагі работу з жывым членам і кандыдатам партыі, не павышаюць іх ідэйнай узброенасці, а таму комуністы вельмі часта не могуць выкрыць манеўраў класавага ворага, накіраваных на зрыў веснавой сяўбы, рэалізацыі пазыкі другой пяцігодкі і іншых гаспадарча-палітычных кампаній.

Гэтыя раёны не здолелі арганізаваць паглыбленай прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда партыі сярод рабочых і калгаснікаў, не здолелі

давесці рашэнні з'езда партыі і даклад т. Сталіна да свядомасці кожнага рабочага, калгасніка.

ЦК КП(б)Б у рашэнні ад 21-IV пастанавіў:

«Прызнаць прапрацоўку рашэнняў з'езда партыі і прамовы т. Сталіна з боку РК—Клічаў, Жлобін, Рэчыца, Лёзна, Талачын—нездавальняючай.

За зусім нездавальняючую работу па прапагандзе рашэнняў з'езда, адсутнасць кіраўніцтва работай сеці партасветы сакратарам Клічаўскага, Рэчыцкага, Талачынскага РК КП(б)Б паставіць на від...

Папярэдзіць усе партарганізацыі аб недапушчальнасці згортвання работы сеці партасветы ў сувязі з наступленнем летняга перыяду».

Гэта рашэнне Цэнтральнага Камітэта з'яўляецца перасцярогай для ўсіх партарганізацый супроць недаацэнкі прапаганды рашэнняў XVII з'езда партыі, супроць згортвання работы па партасвеце на летні перыяд.

Памылкі мінулых год, калі партыйная вучоба ў летні перыяд зрывалася, школы і гурткі згортвалі работу, не павінны быць дапушчаны ў гэтым годзе, ідэйна-палітычнае выхаванне радоў партыі і шырокіх беспартыйных мас—не сезонная справа, а штодзенная задача кожнай партарганізацыі. Сець партыйнай асветы павінна працаваць бесперапынна круглы год як у горадзе, так і ў вёсцы.

ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні ад 23-V—32 г. падкрэсліваў:

«У сувязі з наступленнем лета некаторыя партарганізацыі, наперакор рашэнню ЦК аб бесперапыннай вучобе на працягу ўсяго года, ліквідуюць сець партасветы, згортваюць работу па марксісцка-ленінскай вучобе да восені. ЦК прапануе забяспечыць бесперабойную работу сеці марксісцка-ленінскай вучобы на працягу ўсяго лета».

Перад КП(б)Б стаяць агромныя задачы па рэалізацыі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва—паспяховае правядзенне веснавой сяўбы, уборкі, пастаўкі сельгаспрадуктаў дзяржаве, выкананне промфінплана і іншых гаспадарча-палітычных кампаній. Таму патрэбна сістэматычная работа па ідэйна-палітычнаму выхаванню, і ўсякія спробы згарнуць яе ў летні перыяд павінны знайсці самы рашучы адпор.

Школы і гурткі ў летні час павінны поўнасцю закончыць праграмы і адначасова прадаўжаць далейшае вывучэнне рашэнняў XVII з'езда партыі, не здавальняючыся ўжо прарobленым. Тым больш, што рад партарганізацый абмежаваўся толькі дакладамі аб выніках з'езда на партсходах, сходах рабочых і калгаснікаў. Для паглыбленай прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда партыі трэба шырока арганізаваць вывучэнне паасобных твораў класікаў марксізма-ленінізма як у школах і гуртках, так і індывідуальна. Прыкладаў такой работы ў партарганізацыях КП(б)Б пакуль не маем.

Чаму не арганізаваць вывучэння такіх работ Маркса, як «Крытыка Гоцкай праграмы», Леніна—«Дзяржава і рэволюцыя», «Эканоміка і палітыка ў эпоху дыктатуры пролетарыята», Сталіна—«Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле», «Аб нацыянальным пытанні» і т. д. Вопыт гэтай работы ў іншых арганізацыях (Масква, Ленінград) дае

выдатныя рэзультаты, і мы гэты вопыт павінны сёлета шырока развіць у партарганізацыях БССР.

У летні перыяд работу па прапагандзе ленінізма і рашэнняў XVII з'езда партыі мы не можам абмежаваць толькі работай школ і гурткоў. Побач з нармальнай работай сеці партасветы, трэба шырока арганізаваць лекцыі і даклады як для комуністаў, так і шырокіх мас рабочых і калгаснікаў па асобных пытаннях марксізма-ленінізма, рашэннях XVII з'езда партыі. Мы павінны арганізаваць сістэматычнае правядзенне з рабочымі, калгаснікамі гутарак, чытку газет. Менскі вопыт арганізацыі палітдзён, культурнага адпачынку на прадпрыемствах трэба шырока выкарыстаць. Палітдні пажадана праводзіць на адкрытым паветры—у парку, садзе, лесе, на лузе і т. д.

На вёсцы асноўныя работы канцэнтруюцца ў брыгадзе калгаса, соўгаса. Таму ўвесь цяжар прапаганды трэба перанесці сюды. Тут павінны працаваць брыгадныя палітшколы, праводзіцца гутаркі, даклады. Тут неабходна мець літаратуру, газеты і т. д.

Барацьба за высокую якасць партыйнай прапаганды, барацьба за падбор прапагандыстаў, за арганізацыю работы з імі павінна стаяць у цэнтры ўвагі. Для прапагандысцкай работы трэба шырока выкарыстаць партактыў, забяспечыць прапагандыстаў неабходнай літаратурай, газетамі «Звязда», «Правда», часопісамі «Большэвік», «Прапагандыст». Партыйныя камітэты абавязаны сістэматычна правяраць якасць прапаганды, бязлітасна змагаючыся са спробамі зганьбіць партыйную прапаганду, падмяніць глыбокую вучобу парадкай шуміхай, балбатнёй.

* * *

У аснову нашай далейшай работы па прапагандзе ленінізма і вывучэнню рашэнняў XVII з'езда партыі павінна быць пакладзена апошняе рашэнне ЦК ВКП(б). Яно чотка і ясна гаворыць аб тым, як партыя разумее марксісцка-ленінскае выхаванне, якой павінна быць ідэйная ўзброенасць большэвіка. ЦК ВКП(б) у гэтым рашэнні асудзіў неўласцівыя, чуждыя духу большэвізма і традыцыям партыі формы прапаганды:

> «У некаторых краях і абласцях глыбокае вывучэнне рашэнняў XVII партз'езда падмяняецца паказною шуміхай і фармальным зазубрываннем паасобных палажэнняў. Сур'ёзная вучоба падмяняецца спартыўным азартам, арганізацыяй «палітбаёў», «палітаблаў», «палітвіктарын», «палітлатарэй», «палітвудачак». Распаўсюджваюцца стандартныя пытанні для правядзення «палітбаёў», часта абсалютна няграматныя, выпускаемыя «парткабінетамі» без прагляду і зацверджання культпропамі і парткомамі. Партыйцаў прывучаюць даваць шаблонныя адказы на загадзя распаўсюджваемыя шаблонныя пытанні, а культпропы, абавязаныя кантраляваць гэтую справу, стаяць у баку».

Гэта рашэнне цалкам адносіцца і да партарганізацый КП(б)Б.

У радзе партарганізацый (Гомель, Полацк, Талачын, Сянно і інш.) глыбокае вывучэнне рашэнняў XVII з'езда і даклада т. Сталіна ў сеці партасветы падмянілі паказною шуміхай—правядзеннем палітбаёў. У Гомелі, напр., быў праведзен адзіны дзень палітбаёў ва ўсіх пярвічных партарганізацыях. У Талачыне рашэнні з'езда ў сеці партасветы не прапрацоўваліся, бо школы і гурткі распаліся, а палітбой

правялі. У Сянне комуністаў на палітбой выклікалі, а вывучэння матар'ялаў з'езда ў секі партасветы не арганізавалі, таму таварышы паказалі сваё незнаёмства з рашэннямі з'езда.

У Крычаве на цэментным заводзе практыкавалі «палітвудачку». Удзельнікі гэтай гульні, якая ганьбіць прапрацоўку рашэнняў з'езда, закідвалі вудачку і цягнулі ёю пытанні. У залежнасці ад адказу на пытанне атрымлівалі ўзнагароду: папіросы, мыла, цукеркі; за няправільны адказ—лапаць.

Паасобныя эпізоды гэтай гульні на цэментным заводзе апісаны ў прысланай нам карэспандэнцыі:

> «На сцэне рабочы Абрамовіч. Кручок ляціць у паветра і пагружаецца за перагародку. Брагім сочыць за паплаўком. У зале шэпчуць—клюе, клюе. Брагім хутка падхапляе вуду, знімае з кручка паперку і чытае: колькі трэба рэкамендацый для ўступлення рабочаму ў партыю? «Не ведаю»—мнецца на месцы Брагім. Закідвае вуду другі раз... Падхапляе вуду, і ў паветры на кручку павіс вялікі стаптаны мокры лапаць».

Вось да якіх вульгарных метадаў прапаганды рашэнняў з'езда партыі дакаціліся партработнікі Крычаўскага цэментнага завода. Крычаўскі РК КП(б)Б яшчэ да гэтага часу на дапушчаныя скажэнні не рэагаваў.

У Сенненскім раёне мела месца зусім недапушчальная, зневажаючая ўсё агромнае значэнне рашэнняў з'езда практыка грашовага прэміявання. За ўсваенне рашэнняў з'езда калгасніка Мусіловіча прэміявалі 20-цю рублямі, Стрыжнёва і Мурашку—па 10 руб.

ЦК КП(б)Б у рашэнні ад 21-IV асудзіў такія метады прапаганды і пастанавіў:

> «Указаць сакратару Сенненскага РК т. Ленцнеру, Крычаўскага РК т. Куліковічу аб нерэагаванні на зусім недапушчальныя формы прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда».

Стандартныя апытальнікі прымяняліся ў вельмі многіх партарганізацыях. Менскі Дом Комасветы выдаў такі апытальнік і разаслаў большасці раёнаў. У Полацку, Віцебску, Барысаве, Магілеве былі распрацаваны свае апытальнікі. Па гэтых апытальніках прывучалі комуністаў зазубрываць паасобныя пытанні і адказваць на іх. У Бабруйску (Лесакамбінат) пры здачы залікаў умудраліся нават не аглашаць сутнасці пытання, а проста прапаноўвалі адказаць на 10, 12, 13 пытанне.

Неабходна тэрмінова знішчыць гэтыя скажэнні. Неабходна арганізаваць вывучэнне рашэнняў з'езда партыі па сутнасці, у цеснай сувязі з практыкай работы на кожным канкрэтным участку соцыялістычнага будаўніцтва.

Умацаванне партыйных школ, як асноўнай формы прапаганды ленінізма, удумчывы, уважлівы падыход да кожнага слухача, снабжэнне школ літаратурай, глыбокае веданне прапагандысцкіх кадраў і ўмелы падбор іх, сапраўдная штодзенная праверка выканання—вось адзнакі сапраўднай перабудовы партыйнага кіраўніцтва справай прапаганды.

Не гнацца за паказным эфектам, а ўдзяляць сур'ёзную ўвагу якасці большэвіцкай прапаганды. Узорна арганізаваць марксісцкаленінскае выхаванне—такава задача.

Ільюшын

# Ленін у барацьбе за пралетарскі інтэрнацыяналізм[1])

*„Мы праціўнікі нацыянальнай варожасці, нацыянальнай розні, нацыянальнай адасобленасці... Мы міжнароднікі, інтэрнацыяналісты. Мы імкнемся к цеснаму аб'яднанню і поўнаму зліянню рабочых і сялян усіх нацый свету ў адзіную сусветную Совецкую Рэспубліку" (ЛЕНІН)*

Прайшло 10 год са дня смерці найвялікшага мысліцеля, арганізатара і правадыра нашай партыі і сусветнай пролетарскай рэволюцыі—Владзіміра Ільіча Леніна. Пад сцягам ленінізма комуністычная партыя павяла пролетарыят і працоўных сялян к далейшым заваёвам сусветнага Кастрычніка. Гады без Леніна—гэта гады новых трыумфаў марксізма-ленінізма, таржэства комуністычных ідэй вялікіх настаўнікаў і правадыроў сусветнага пролетарыята—Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

Ачышчаючы шлях рэволюцыйнай барацьбы ад ныцікаў, малавераў, апартуністаў, перараджэнцаў, рознага роду і масцей нацыяналістаў, нацыянал-апартуністаў, ад усяго чуждага марксізму-ленінізму і пролетарскай рэволюцыйнасці, наша партыя на справе даказала сваю вернасць ленінскаму завету інтэрнацыяналізма: «Правесці максімум ажыццявімага ў адной краіне для развіцця, падтрымання, абуджэння рэволюцый ва ўсіх краінах» **(Ленін).**

Гэтым максімумам з'явілася пабудова ўжо на працягу першай пяцігодкі фундамента соцыялістычнай эканомікі, разгром апошняга капіталістычнага класа—кулацтва, ператварэнне асноўных мас сялянства ў калгаснікаў, у моцную апору совецкай улады на вёсцы, канчатковае ўмацаванне СССР на соцыялістычным шляху. З поспехам пройдзен першы год 2-й пяцігодкі, асноўнай палітычнай задачай якой з'яўляецца: «Канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавую рознь і эксплаатацыю і перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насель-

[1]) Артыкул прызначаўся к 10-годдзю смерці Леніна.

ніцтва ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства».

І гэтым партыя ўмацавала СССР як базу сусветнай пролетарскай рэволюцыі, ушчэнт разграміла контррэволюцыйную трацкісцкую тэорыю аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, дала для рабочых усіх краін свету найвялікшы ўзор пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Бліжэйшы саратнік Леніна і яго далейшы прадаўжальнік тав. Сталін, высока трымаючы сцяг ленінізма, сцяг пролетарскага інтэрнацыяналізма, верна і цвёрда вядзе нашу партыю і ўвесь сусветны пролетарыят па шляху, намечанаму Марксам, Энгельсам, Леніным, ператвараючы ў жыццё іх заветы.

Адной з найвялікшых перамог, з якой партыя прышла к 10 гадавіне са дня смерці Леніна і к XVII з'езду, з'яўляецца перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі.

* * *

Ленін і Сталін, як правадыры і тэарэтыкі пролетарскай рэволюцыі, заўсёды выступалі непрымірымымі барацьбітамі за пролетарскі інтэрнацыяналізм, як палітыку і светапогляд пролетарыята ў нацыянальным пытанні. У новай гістарычнай абстаноўцы, прыстасоўна к апошняму этапу развіцця капіталізма, к фазе імперыялізма Ленін і ў гэтай галіне—у галіне нацыянальнага пытання—з'явіўся геніяльным прадаўжальнікам вучэння Маркса—Энгельса. І ў пытанні аб рэволюцыйным інтэрнацыяналізме пролетарыята Ленін не толькі «адрадзіў рэволюцыйны змест марксізма, замураўлены апартуністамі ІІ-га інтэрнацыянала» (**Сталін**), але, выкрываючы нацыяналістаў і соцыял-шавіністаў рознага толку і масцей, іх спробы ідэйна і палітычна раззброіць пролетарыят, ператварыць Маркса ў буржуазнага дэмакрата, Ленін унёс у скарбніцу марксізма новыя ідэйныя і навуковыя заваёвы рэволюцыйнай тэорыі і практыкі пролетарыята. Леніну належыць выключная роля ў пастаноўцы нацыянальнага пытання ў эпоху імперыялізма, у глыбокім і ўсебаковым тэарэтычным абгрунтаванні паслядоўна рэволюцыйнай лініі пролетарыята ў гэтай галіне, лініі, якая строга ўлічвае ўсю разнастайнасць канкрэтна-гістарычных умоў і ставіць вырашэнне нацыянальнага пытання ў непарыўную сувязь з карэннымі задачамі пролетарскай рэволюцыі. У ленінізме поўнасцю раскрываецца ўсё навуковае багацце і рэволюцыйны змест марксава вучэння аб пролетарскім інтэрнацыяналізме. Вострая магутная зброя пролетарыята—пролетарскі інтэрнацыяналізм, выкаваная Марксам—Энгельсам, знайшла сваё поўнае ўсебаковае абгрунтаванне і развіццё, і ў руках Леніна—Сталіна (большэвікоў) ператварылася ў найвялікшую баявую сілу пролетарскай барацьбы з сусветным капіталізмам за сусветны комунізм.

Тое новае. што дана Леніным па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню, тав. Сталін сцісла фармуляваў у наступных словах:

> «Маркс і Энгельс, аналізуючы ў свой час падзеі ў Ірландыі, у Індыі, у Кітаі, у краінах Цэнтральнай Еўропы, у Польшчы, у Венгрыі,—далі асноўныя, адпраўныя ідэі па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню. Ленін у сваіх працах базаваўся на гэтых ідэях. Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што:
>
> а) ён сабраў у адзінае тэтыя ідэі ў стройную сістэму поглядаў

аб нацыянальна-каланіяльных рэвалюцыях у эпоху імперыялізма; б) звязаў нацыянальна-каланіяльнае пытанне з пытаннем аб звяржэнні імперыялізма; в) абвясціў нацыянальна-каланіяльнае пытанне састаўною часткай агульнага пытання аб міжнароднай пролетарскай рэвалюцыі». **Сталін,** «Пытанні ленінізма», стар. 266.

Марксісцка-ленінская лінія ў галіне нацыянальнага пытання адметна паслядоўным правядзеннем прынцыпа партыйнасці, разглядам нацыянальна-каланіяльнага пытання з пункту погляду класавых інтарэсаў пролетарыята, яго канцовых рашаючых задач. Для ленінізма нацыянальнае пытанне не існуе як асобнае самастойнае самадаўлеючае пытанне. Ленінізм разглядае нацыянальнае пытанне канкрэтна, гістарычна—так, як яно выступае перад пролетарыятам—як частку агульна-дэмакратычнага руху ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі і як частку агульна-соцыялістычнага руху ў рэволюцыі пролетарскай.

«Асноўная сутнасць большэвіцкага падыходу к нацыянальнаму пытанню,—па словах т. Сталіна,—заключаецца ў тым, што большэвікі заўсёды разглядалі нацыянальнае пытанне ў непарыўнай сувязі з рэволюцыйнай перспектывай». Ленін заўсёды падкрэсліваў падпарадкаванне значэння нацыянальнай палітыкі агульна-дэмакратычным і соцыялістычным задачам пролетарыята. У інтарэсах класавай барацьбы пролетарыята ён рашуча і да канца адстойваў пролетарскі інтэрнацыяналізм, абсалютную салідарнасць інтарэсаў пролетарыята ўсіх краін і нацыянальнасцей у іх сумеснай барацьбе з міжнародным імперыялізмам. І ў гэтым—істотны змест пролетарскай лініі ў галіне нацыянальнай палітыкі.

«... Прызнаючы раўнапраўе і роўнае права на нацыянальную дзяржаву, ён (пролетарыят—І. І.) **вышэй за ўсё цэніць і ставіць саюз пролетарыяў усіх** нацый, ацэньваючы пад кутом погляду **класавай барацьбы** рабочых усякае нацыянальнае патрабаванне, усякае нацыянальнае аддзяленне» **(Ленін).**

Поўная салідарнасць і цяснейшае адзінства рабочых усіх нацый дыктуецца класавым прыгнечаным палажэннем пролетарыята ў капіталістычным грамадстве і адзінствам сусветна-гістарычных яго задач. Незалежна ад сваёй нацыянальнай прыналежнасці, пролетары ўсіх краін маюць адзіны рашаючы інтарэс, гэта—зруйнаванне ўлады капітала, заваяванне палітычнай улады, як першай умовы вызвалення пролетарыята, знішчэнне ўсякай эксплаатацыі і прыгнечання праз устанаўленне бясакласавага комуністычнага грамадства ва ўсім свеце. Перад тварам гэтых найвялікшых задач Маркс—Энгельс абвясцілі інтэрнацыянальны заклік: «Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!», які стаў сцягам рэволюцыйнай барацьбы найшырэйшых мас свету, баявым заклікам іх аб'яднання ў адзіную сусветную сілу.

Кіруючыся класавымі інтарэсамі пролетарыята, комуністычная партыя дабіваецца саюза пролетарыяў і поўпролетарыяў усіх краін. У гэтых-жа інтарэсах яна выступае самым непрымірымым і паслядоўным барацьбітом з нацыянальна-каланіяльным прыгнечаннем, далучаючы да сябе мільённыя масы працоўных прыгнечаных, залежных і поўзалежных, нароўнапраўных нацый. Для гэтых задач яна бязлітасна змагаецца з нацыяналістычнымі перажыткамі і забабонамі, і ў першую чаргу з буржуазным нацыяналізмам, які ўсяляк намагаецца раз'яднаць рабочых, узмацніць нацыянальную рознь і няна-

віць і такім чынам абясссіліць пролетарыят і ўмацаваць дыктатуру буржуазіі. З няменшаю сілай партыя змагаецца з нацыянал-апартунізмам унутры сваіх радоў, як найбольш тонкім відам нацыяналізма, які азначае спаўзанне з пазіцый інтэрнацыяналісцкай палітыкі пролетарыята на пазіцыі нацыяналісцкай палітыкі буржуазіі.

Ленін нястомна падкрэсліваў:

> «Інтарэсы рабочага класа і яго барацьба супроць капіталізма патрабуюць поўнай салідарнасці і цяснейшага адзінства рабочых усіх нацый, патрабуюць адпору нацыяналістычнай палітыцы буржуазіі, якой-бы там ні было нацыянальнасці».

Прынцып нацыяналізма—буржуазны прынцып, пры дапамозе якога буржуазія прыкрывае эксплаататарскую сутнасць свайго класавага панавання. З гэтым прынцыпам няўхільна звязана нацыянальная грызня і нацыянальнае прыгнечанне. Соцыялістычны прынцып—прынцып пролетарскага інтэрнацыяналізма, які да канца агаляе ўсю фальш і ліцамер'е, буржуазнай пропаведзі аб «адзінстве нацыянальных інтарэсаў», «народнай цывілізацыі», нацыянальнай выключнасці, адасобленасці і адстойвае абсалютную салідарнасць класавых інтарэсаў пролетарыята ўсіх краін і нацый, іх поўную непрымірымую процілегласць інтарэсам буржуазіі «сваёй» і «чужой».

Свае класавыя інтарэсы буржуазія імкнецца прадставіць у якасці агульных інтарэсаў усяго грамадства, надаць ім агульнанародны надкласавы характар. «Законам буржуа павінны ўмець надаваць усеагульны выраз імення таму, што яны пануюць, як клас» **(Маркс).** Зрываючы нацыяналістычную маску буржуазіі і яе ідэолагаў, Ленін з усёй сілай выпячваў палажэнне, што «пры ўсякім сапраўды сур'ёзным і глыбокім палітычным пытанні групоўка ідзе па класах, а не па нацыях». Ленін бязлітасна бічаваў усякія спробы прымірэння са «сваёй» буржуазіяй і раз'яднання пролетарыяў розных краін. Лозунг «абароны бацькаўшчыны», высунуты соцыял-шавіністамі ў час імперыялістычнай бойні 1914 г. для Леніна знаменаваў поўнае адмаўленне ад пункту погляду пролетарыята і пераход на пункт погляду імперыялістычнай буржуазіі.

У адказ на імперыялістычную вайну Ленін, кіруючыся класавымі інтарэсамі пролетарыята, высунуў соцыялістычны лозунг ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. Гэта быў адзіна правільны лозунг, які заклікаў пролетарыят на барацьбу з буржуазіяй, на скарыстанне вайны ў сваіх класавых інтарэсах «штурма капіталізма», аб'ектыўныя прадпасылкі для чаго былі створаны самім характарам імперыялістычнай эпохі. Толькі ў такой форме пролетарыят мог адстаяць сваю класавую лінію, не паддацца патрыятычнаму чаду і забяспечыць інтэрнацыянальную салідарнасць.

З пазіцый пролетарскага інтэрнацыяналізма Ленін да канца выкрыў рэакцыйную сутнасць лозунга «нацыянальна-культурнай аўтаноміі», які прапаведваўся «ўсімі буржуазнымі партыямі яўрэйства» і цэлым радам дробна-буржуазных нацыяналістычных плыней. Ленін паказаў, што гэты лозунг культывіруе фальшывую здань ілюзій «нацыянальнага» адзінства пролетарыята і буржуазіі». «... Соцыялісты не абмяжоўваюцца агульна-дэмакратычнымі патрабаваннямі. Соцыялісты змагаюцца з усімі і ўсякімі, грубымі і тонкімі праявамі буржуазнага нацыяналізма. Іменна такою праявай і з'яўляецца лозунг «нацыянальна-культурнай аўтаноміі», які злучае пролетарыят і бур-

жуазію **адной** нацыі і **раз'яднае** пролетарыят **розных** нацый». Выкрываючы нацыяналістычную фальш бундыстаў і украінскіх нацыяналістаў аб надкласавасці культуры. Ленін развіў тэзіс аб двух нацыях і двух культурах у кожнай нацыі. «Калі справа ідзе аб пролетарыяце, гэта проціпастаўленне украінскай культуры ў цэлым вялікарускай культуры, таксама ў цэлым, азначае самае бессаромнае здрадніцтва інтарэсаў пролетарыята на карысць буржуазнага нацыяналізма. Ёсць дзве нацыі ў кожнай сучаснай нацыі. Ёсць дзве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсць вялікаруская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струве,—але таксама ёсць вялікаруская культура, характарызуемая імёнамі Чэрнышэўскага і Плеханава. Ёсць такія-ж дзве культуры ва украінстве, як і ў Германіі, Францыі, Англіі, у яўрэяў і т. д.». Тут-жа Ленін падкрэсліваў, што пролетарская партыя стаіць «за інтэрнацыянальную культуру дэмакратычнага да канца і соцыялістычнага пролетарыята».

Вядомыя «тэорыі» контррэволюцыйных нацдэмаў аб бяскласавасці беларускай нацыі, аб барацьбе беларускай і рускай культуры з'яўляюцца новым выданнем буржуазнага нацыяналізма, запазычаны з арсенала рэакцыйнага нацыяналізма. Гэтыя тэорыі былі прызваны абгрунтаваць «нацыянальнае адзінства» беларускага народу і служылі агульнай мэце нацдэмакратаў—адрыву Совецкай Беларусі ад СССР і рэстаўрацыі капіталістычных парадкаў. Кіруючыся ленінскімі ўзорамі барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, партыя разграміла новыя манеўры беларускіх, украінскіх і інш. нацыяналістаў.

У міжнародным характары пролетарскага руху, у інтэрнацыянальным адзінстве яго барацьбы, у свядомасці і арганізаванасці гэтай барацьбы ў сусветным маштабе пад кіраўніцтвам Комінтэрна—сіла і магутнасць пролетарыята. Міжнародная салідарнасць рабочых усіх краін, адзінства палітычных і тактычных планаў іх барацьбы з'яўляецца важнейшай прадпасылкай перамогі сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Перамога ў такой рэволюцыі, як у рамках адной асобна ўзятай краіны, так і ў сусветным маштабе, патрабуе стварэння адзінага рэволюцыйнага фронта пролетарскай барацьбы.

Гэты бок соцыялістычнага руху Ленін з усёй сілай выпячваў перад партыяй пролетарыята. Ён пісаў:

> «Капітал ёсць сіла міжнародная. Каб яе перамагчы, патрэбен міжнародны саюз рабочых, міжнароднае брацтва іх».
>
> «Канчаткова перамагчы можна толькі ў сусветным маштабе і толькі намаганнямі рабочых усіх краін».

І далей:

> «толькі адкідваючы ўсе дзікія і глупыя нацыянальныя забабоны, толькі зліваючы ў адзін саюз рабочых усіх нацый, можа рабочы клас стаць сілай, даць адпор капіталу і дабіцца сур'ёзнага палепшання жыцця».

Ленін з выключнай увагай адносіўся да пытанняў аб'яднання рабочых у адзінай інтэрнацыянальнай арміі пролетарыяў усіх краін, незалежна ад дзяржаўных меж, нацыянальных або расавых адзнак, полу або прафесіі. Ленін з'явіўся ідэйным натхніцелем і арганізатарам баявога міжнароднага таварыства рабочых—III Комуністычнага Інтэрнацыянала, пад сцягам якога змагаецца сусветны пролетарыят, разгортваюцца і нарастаюць нацыянальна-каланіяльныя рэволюцыі ў

Кітаі, Індыі і інш. Ім была выкрыта апартуністычнае здрадніцкае нутро II Інтэрнацыянала. Ленін паказаў, што с.-д. партыі II Інтэрнацыянала перасталі існаваць як рабочыя партыі, ператварыліся ў прамых здраднікаў усім прынцыпам комунізма і інтэрнацыяналізма, поўнасцю перайшлі на пазіцыі буржуазнага нацыяналізма, сталі прадажнымі лакеямі імперыялізма.

Ён нястомна папярэджваў ад славеснага дэкларацыйнага прызнання інтэрнацыяналізма і збавення інтэрнацыянальных абавязкаў на справе.

Вядома, што социял-шавіністы, цэнтрысты на Захадзе (Каўцкі), у Расіі (Троцкі), асабліва «праславіліся» жангліраваннем сцягам інтэрнацыяналізма, сваім ліцамерным, крывадушным прызнаннем раўнапраўя нацый і інтэрнацыянальнай салідарнасці рабочых. Ленін да канца выкрыў ілжывыя манеўры социял-імперыялістаў тыпу Каўцкага, Гайндмана, Шэйдэмана, Троцкага і інш., якія на справе дапамагалі разбойніцкай палітыцы імперыялістычнай буржуазіі.

> «Каўцкіянцы,—пісаў Ленін,—крывадушна прызнаюць самавызначэнне. У нас, у Расіі, Троцкі і Мартаў на словах абодва за самавызначэнне, як і Каўцкі, а на справе?... якімі-б ні былі іх суб'ектыўныя намеры, яны сваімі ўхіленнямі падтрымліваюць рускі социял-імперыялізм».

Няўхільная барацьба з машэнніцкімі шавіністычнымі прадзелкамі «сваёй» буржуазіі ў інтарэсах інтэрнацыянальнай барацьбы сусветнага пролетарыята—вось чаго перш за ўсё патрабаваў Ленін ад социялістаў прыгнечаных нацый і на гэтым аснову правяраў іх інтэрнацыяналізм і социялізм.

> «Не той інтэрнацыяналіст, хто клянецца і божыцца, што ён інтэрнацыяналіст, а толькі той, хто сапраўды па-інтэрнацыяналісцку змагаецца са **сваёй** буржуазіяй, са **сваімі** социял-шавіністамі, са сваімі каўцкіянцамі» **(Ленін).**

Ленінская тактыка барацьбы з буржуазным нацыяналізмам вялікадзяржаўных нацый і нацый прыгнечаных базавалася на глыбокім навуковым аналізе эпохі імперыялізма, для якой характэрны карэнны падзел нацый на пануючыя і прыгнечаныя. Ленін зрабіў поўныя метадалагічныя і палітычныя вывады з марксава палажэння—«не можа быць свабодным народ, які прыгнятае іншыя народы». Толькі на аснове паслядоўнай большэвіцкай барацьбы з буржуазіяй і з усімі формамі яе панавання, у тым ліку і нацыянальна-каланіяльным прыгнечаннем, з яе ўнутранай і знадворнай палітыкай, можна адстаяць адзіны міжнародны фронт пролетарскай рэволюцыі. Усякі, хто ў той ці іншай форме адмаўляецца ад класавай барацьбы са «сваёй» буржуазіяй, тым самым парывае узы салідарнасці з сусветным пролетарыятам, той здраджвае справе інтэрнацыяналізма і социялізма.

Ленін высоўваў такія шляхі і метады барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, ідучы па якіх пролетарыят паасобных краін забяспечвае сябе ад нацыянальнай абмежаванасці, нацыянальнага эгаізма.

> «Дробна-буржуазны нацыяналізм,—пісаў Ленін,—абвяшчае інтэрнацыяналізмам прызнанне раўнапраўя нацый і толькі, захоўваючы (не кажучы ўжо аб чыста славесным характары такога прызнання) недатыкальным нацыянальны эгаізм, тым ча-

сам як пролетарскі інтэрнацыяналізм патрабуе, па-першае, падпарадкаванння інтарэсаў пролетарскай барацьбы ў адной краіне інтарэсам гэтай барацьбы ў сусветным маштабе; па-другое, патрабуе здольнасці і гатоўнасці з боку нацыі, якая ажыццяўляе перамогу над буржуазіяй, ісці на найвялікшыя нацыянальныя афяры для звяржэння міжнароднага капітала» **(Ленін**, т. XXV, стар. 288—289).

Прыклад такога паслядоўнага і да канца рэволюцыйнага інтэрнацыяналізма—інтэрнацыяналізм рускіх большэвікоў, які «з'яўляецца узорам пролетарскага інтэрнацыяналізма для рабочых усіх краін» **(Сталін).** Вядомы спробы ворагаў пролетарыята—трацкістаў—гэтага перадавога атрада контррэволюцыйнай буржуазіі і іх кантрабандыстаў—абвінавацiць рускіх большэвікоў і іх правадыроў, Леніна і т. Сталіна, у прымірэнцтве да міжнароднага апартунізма з «фракцыйных» меркаванняў, у «нацыянальнай абмежаванасці» і забыцці інтарэсаў сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Ленінскую ідэю магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, бліскуча распрацаваную т. Сталіным, трацкісты таксама не задумаліся абвясціць адмаўленнем ад задач міжнароднай пролетарскай рэволюцыі. Усе гэтыя паклёпы на ленінізм і на нашу партыю т. Сталіным выкрыты і разгромлены дашчэнту ў яго шматлікіх працах, і ў прыватнасці ў лісце ў часопіс «Пролетарская революция».

Інтэрнацыяналізм рускіх большэвікоў добра вядомы пролетарыям усяго свету, працоўным масам усіх краін, і яны не дадуць абмануць сябе прафесіянальным паклёпнікам і фальсіфікатарам. Яны добра ведаюць, што, па-першае, рускія большэвікі заўсёды сябе разглядалі, як атрад сусветнай арміі комунізма, сазнаючы сваю адказнасць і ролю і добра разумеючы, што «руская рэволюцыя была і застаецца вузлавым пунктам сусветнай рэволюцыі, што карэнныя пытанні рускай рэволюцыі з'яўляліся разам з тым (і з'яўляюцца зараз) карэннымі пытаннямі сусветнай рэволюцыі» **(Сталін).**

Па-другое, інтэрнацыяналізм рускіх большэвікоў заключаецца ў тым, што яны паставілі перад сабой задачу ажыццяўлення пролетарскай дыктатуры ў надзвычай цяжкіх умовах, свядома ідучы на найвялікшыя афяры і перамагаючы гіганцкія труднасці, і вывелі рускі пролетарыят на пазіцыі авангарда міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыята.

Па-трэцяе, перамогу соцыялізма ў нашай краіне большэвікі заўсёды разглядалі «не як самамэту, не як нешта самадаўлеючае, а як дапамогу, як сродак, як шлях да перамогі пролетарскай рэволюцыі ў іншых краінах» **(Сталін).** Інтарэсы рэволюцыі ў Расіі яны заўсёды падпарадкоўвалі задачам развіцця пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце.

Нарэшце, рускія большэвікі з'яўляюцца непрымірымымі і паслядоўнымі барацьбітамі супроць міжнароднага апартунізма і соцыялфашызма, праваднікоў буржуазнага нацыяналізма сярод працоўных мас, праводзілі лінію на разрыў, на раскол з апартунізмам і ў Расійскай соцыял-дэмакратычнай партыі і ў II Інтэрнацыянале.

У гэтым—найвялікшы гераізм і інтэрнацыяналізм рускага пролетарыята, яго ленінскага большэвіцкага авангарда. Гэтай рэволюцыйнай здольнасцю і гатоўнасцю «ісці на найвялікшыя нацыянальныя афяры для звяржэння міжнароднага капітала» заражаюцца пролетарыі і поўпролетарыі ўсіх краін у сваёй барацьбе.

Буржуазны нацыяналізм і пролетарскі інтэрнацыяналізм—два непрымірымыя прынцыпы ў нацыянальным пытанні. Барацьба гэтых прынцыпаў з'яўляецца выражэннем агульнай барацьбы капіталізма і соцыялізма, буржуазіі і пролетарыята.

> «Буржуазны нацыяналізм і пролетарскі інтэрнацыяналізм—вось два непрымірыма варожыя лозунгі, якія адпавядаюць двум класавым лагерам усяго капіталістычнага свету і выяўляюць дзве палітыкі, больш таго—два светапогляды ў нацыянальным пытанні» **(Ленін).**

З асаблівай напружанасцю і вострасцю разгараецца барацьба гэтых прынцыпаў у перыяд імперыялізма. У сувязі з гэтым Ленін з такой сур'ёзнасцю і ўвагай адносіўся да пытанняў нацыянальнай палітыкі пролетарыята, ахоўваючы пролетарскі рух ад буржуазна-нацыяналістычнай атруты. Без сістэматычнага і ўпорнага выхавання працоўных мас у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, без непрымірымай барацьбы з малейшымі праявамі рознага віду нацыяналізма і шавінізма, без большэвіцкай работы па стварэнню адзінай маналітнай, дысцыплінаванай спаянай інтэрнацыянальнай салідарнасці класавых інтарэсаў арміі сусветнага пролетарыята,—без ўсяго гэтага немагчыма міжнародная соцыялістычная рэволюцыя. Каб перамагчы, пролетарыят павінен буржуазнай палітыцы распальвання нацыянальнай нянавісці, шавіністычнай траўлі і грызні проціпаставіць палітыку салідарнасці працоўных усіх нацыянальнасцей пад кіраўніцтвам сусветнага пролетарыята і яго комуністычнай партыі, пад лозунгам барацьбы з сусветным імперыялізмам і ўсімі формамі яго рэакцыі.

Трэба памятаць, што паміраючы капіталістычны лад аказвае шалёнае супраціўленне пролетарскай рэволюцыі. І гэту сутнасць справы Ленін з асаблівою сілай падкрэсліваў. Ленінская тэорыя краху імперыялізма, як неба ад зямлі далёка ад антымарксісцкай тэорыі аўтаматычнага краху капіталізма, абаранямай Розай Люксембург. Ленін вучыў, што ні адзін пануючы эксплаататарскі клас добраахвотна не выходзіць з гістарычнай арэны, што капіталізм сам сабою, у парадку самацёчнага, аўтаматычнага краху не памірае, а знішчаецца ў жорсткай класавай барацьбе. Буржуазія ўсякімі шляхамі і метадамі стараецца адстойваць сваё панаванне, затармазіць пролетарскую рэволюцыю, адтэрмінаваць сваю пагібель. Пры гэтым яна, перш за ўсё, імкнецца разбурыць пролетарскі фронт барацьбы, збіць пролетарыят з рэволюцыйна-класавых пазіцый і накіраваць яго нянавісць супроць эксплаататараў у рэчышча нацыянальных сутычак і варожасці. У нацыяналістычных перажытках мас буржуазія імкнецца знайсці апору сваёй нацыяналісцкай палітыцы. Буржуазны нацыяналізм выступае, як адзін з важнейшых сродкаў раз'яднання працоўных мас розных краін і нацыянальнасцей у іх сумеснай барацьбе супроць імперыялізма, як метад расколу сусветнага руху пролетарыята.

Імперыялізм нямыслім без нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання, без імперыялістычных войн за перадзел свету, за прывілеі пануючых вялікадзяржаўных нацый, за манапольнае панаванне над малымі, адсталымі і слабымі народамі.

У інтарэсах апраўдання свайго ўладарніцтва ў калоніях і залежных краінах і падрыхтоўкі новых захватніцкіх імперыялістычных войн, буржуазія культывіруе ідэю нацыяналізма і патрыятызма, як магутны рычаг свайго панавання.

«Палітыка прыгнечання нацыянальнасцей,—указваў т. Ленін перад вайной 1914 г.,—ёсць палітыка **раздзялення** нацый. Яна разам з тым ёсць палітыка сістэматычнага **разбэшчвання** народнай свядомасці. На процістаўленні інтарэсаў розных нацый, на атручванні свядомасці цёмных і забітых мас пабудаваны ўсе разлікі чорнасоценцаў» (**Ленін,** т. XVII, стар. 321).

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі бліскуча ўскрыў «крайні нацыяналізм у эканамічнай палітыцы» буржуазіі, які ставіць у парадак дня новую імперыялістычную вайну, як сродак новага перадзелу свету і сфер уплыву на карысць буйнейшых імперыялістычных акул. Яркімі паказчыкамі гэтага нацыяналізма з'яўляюцца: ліхаманкавая барацьба за знешнія рынкі, знішчэнне апошніх рэштак свабоднага гандлю, забаронныя і мытныя пошліны, гандлёвая вайна, вайна валют, дэмпінг і інш. Акупацыя Манчжурыі і далейшыя захватніцкія планы Японіі з новаю сілай абвастрылі барацьбу за Вялікі акіян і паслужылі новым штуршком к росту ваенна-морскіх узбраенняў імперыялістычных магнатаў—ЗША, Японіі, Англіі, Францыі. Каланіяльныя прэтэнзіі Германіі, яе выхад з Лігі нацый і культывіраванне ідэі рэванша яшчэ больш падліваюць масла ў агонь бушуючых супярэчнасцей імперыялізма, які задыхаецца ў цісках сусветнага эканамічнага крызіса.

У сувязі з гэтым т. Сталін падкрэсліў: «зноў, як і ў 1914 г., на першы план высоўваюцца партыі ваяўнічага імперыялізма, партыі вайны і рэванша».

Аднačасова ва ўнутранай палітыцы пануючыя класы капіталістычных краін знішчаюць апошнія рэшткі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі і пераходзяць к метадам адкрытага тэрору захавання сваёй дыктатуры і падрыхтоўкі тылу будучай вайны.

«Шавінізм і падрыхтоўка вайны,—указваў тут-жа т. Сталін,—як асноўныя элементы знешняй палітыкі, абузданне рабочага класа і тэрор у галіне ўнутранай палітыкі, як неабходны сродак для ўмацавання тылу будучых ваенных фронтаў,—вось што асабліва займае сучасных імперыялісцкіх палітыкаў».

У агульных рысах «паварот ад дэмакратыі к палітычнай рэакцыі», характэрны для паміраючага загніваючага капіталізма, быў ускрыт Леніным ужо пры аналізе эпохі імперыялізма, калі ён ўказваў, што «свабоднай канкурэнцыі адпавядае дэмакратыя. Манаполіі адпавядае палітычная рэакцыя». «Асабліва абвастраецца таксама,—тут-жа падкрэсліваў Ленін,—нацыянальнае прыгнечанне і імкненне к анексіям, г. зн. к парушэнню нацыянальнай незалежнасці». Зараз перад тварам нарастаючага рэволюцыйнага крызіса, калі ў масах спее «ідэя штурма» капіталізма, гэта рэакцыя прымае такія агалцелыя формы як фашызм, які злучае соцыяльную дэмагогію і крывавы тэрор ва ўнутранай палітыцы з крайняй імперыялістычнай агрэсіўнасцю і шавінізмам у сферы знешняй палітыкі.

У гэтай сувязі т. Сталін указаў, што

«Перамогу фашызма ў Германіі трэба разглядаць не толькі як адзнаку слабасці рабочага класа і рэзультат здрад соцыялдэмакратыі рабочаму класу, расчысціўшай дарогу фашызму. Яе трэба разглядаць таксама як адзнаку слабасці буржуазіі, як адзнаку таго, што буржуазія ўжо не ў сілах уладарыць ста-

рымі метадамі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца ва ўнутранай палітыцы да тэрарыстычных метадаў кіравання, як адзнаку таго, што яна не ў сілах больш знайсці выхад з цяперашняга становішча на базе мірнай знешняй палітыкі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца да палітыкі вайны».

Імперыялістычныя войны, безумоўна, маюць патрэбу ў нацыяналістычным асляпленні і патрыятычным чадзе мас, у прапаведзі «нацыянальнага адзінства» і «месіянізма», ў арганізацыі міжнароднай нянавісці і розні. Зараз гэты механізм шавіністычнай прапаганды і гвалтоўнасці разбэшчана дэманструецца перад усім светам фашыстамі—гэтымі найбольш рэакцыйнымі, найбольш шавіністычнымі і найбольш імперыялістычнымі элементамі фінансавага капітала.

Сучасныя фашысцкія «тэарэтыкі» з дубінкаю ў руках, тыпу Розенберга, Шпенглера і інш., для абгрунтавання сваіх імперыялістычных замыслаў не грэбаюць ніякім тэарэтычным хламам. У сваёй крывавай расправе з соцыялістычным рухам германскага пролетарыята яны аднолькава аргументуюць і ад «арыйскай расы» і ад «нямецкага духу». Чыстата «нямецкай крыві» і прагнасць «нямецкага духу» (чытай фашысцкага духу) абвяшчаюцца жывіцельнымі крыніцамі яднання «нацыянальнай Германіі» і яе культуртрэгерскай ролі на міжнароднай арэне. Фашысцкая сістэма шавіністычнай прапаганды ва многім пераўышае чорнасоценную палітыку рускага царызма з яго яўрэйскімі пагромамі і нацыянальнай разнёй.

Жывёльны заалагічны нацыяналіз дапаўняецца кульціваваннем містычнага нацыяналізма, які набывае самыя дзікія, агідныя формы шавіністычнага фанатызма.

Для гэтага шырока скарыстоўваецца гегельскі «абсалютны дух», мадэрнізаваны адпаведна рэакцыйным імперыялістычным важдзеленням. Мадэрнізацыя немінуча, паколькі «нямецкі дух» фашысцкага тыпу мала падобен да гегелеўскага «абсалютнага духу». Падобна гегелеўскаму, ён не намеран замкнуцца ў вузкіх рамках прускай манархіі і вечна самалюбавацца і назіраць свае ўласныя пякноты ў аблачэнні прускай манархіі. Яму сняцца кашмарныя ідэалы каланіяльнага прыгнечання на прасторах Усходняй Еўропы.

Акрамя таго, «нямецкі дух» ужо не з'яўляецца абстрактным **духоўным** выражэннем земных інтарэсаў, а прадстаўляе сабой ваяўнічае **мілітарысцкае** выражэнне згаладалых апетытаў імперыялістычных акул, якія са злопыханнем адціснуты Версалем на задні план, спяшаюцца абгрунтаваць фашысцкую дыктатуру, распаліць нацыянальную нянавісць і разню з тым, каб падрыхтаваць новую імперыялістычную вайну і ў першую чаргу інтэрвенцыю супроць СССР.

Расісцкая тэорыя Гітлера, згодна якой «народнасць ляжыць... у крыві» прапаведвае выключную «чыстату» і «перавагу» «нямецкай паўночнай галіны» «арыйскай расы» перад астатнімі ніжэйшымі» расамі, асабліва «славянамі».

Пры тэтым фашысты разлічваюць забіць двух зайцаў: па-першае, расколоць салідарнасць пролетарыята з яго ідэяй класавай барацьбы і комунізма, устанавіць соцыяльны мір у рамках «адзінай расы», уцягнуць у крывавую справу манапалістычнага капітала дробную буржуазію і нават рабочых, а, па-другое, аб'яднаць пад згодай нямецкага фашызма ўсе нямецкія народы, а таксама падпарадкаваць у якасці

сваіх калоній «ніжэйшыя расы», і ў першую чаргу «славянскія народы».

Затым зусім зразумела імперыялістычнае сваяцтва душ «нямецкай расы» з панмангольскай ідэяй «расавай агульнасці», якая таксама заклікана абгрунтаваць агрэсіўную палітыку японскага імперыялізма ў Кітаі, Манчжурыі, Манголіі і т. д.

XIII пленум ІККІ даў вычарпальную характарыстыку фашысцкай рэакцыі, ускрыў яе карэнні і задачы. Пленум мабілізаваў секцыі Комінтэрна на рашучую, непрымірымую барацьбу з фашызмам. Адначасова пленум яшчэ раз заклеймаваў доўгалетняе здрадніцтва соцыял-фашыстаў, якія расчысцілі шлях для фашызма. На працягу доўгіх гадоў яны атручвалі класавую свядомасць пролетарыяў перадавых краін нацыяналістычнай атрутай, тапілі рабочы рух у крыві. У пасляваенны час, калі ім капіталістамі былі ўручаны партфелі міністраў, яны верна неслі сваю службу «вучоных халопаў» і паліцэйскіх грамілаў эксплаататарскіх класаў. І зараз, калі буржуазія адмаўляецца ад метадаў буржуазнай дэмакратыі і ўжывае метад адкрытага тэрору, яны прадаўжаюць лакействаваць.

І каб да канца давесці вернасць свайму гаспадару, яны ў перыяд апошніх схватак капіталізма з соцыялізмам імкнуцца адшукаць нейкую функцыю, карысную для буржуазіі.

Вуснамі сваіх главароў Вельсаў, Кауцкіх і інш. яны абвясцілі: «прыспасабляйцеся».—Прыспасобіцца к фашысцкаму рэжыму—у гэтым сэнс жыцця соцыял-фашыстаў. Апошнія падзеі ў Германіі, у Аўстрыі паказалі, які смурод можа яшчэ пускаць гэты труп соцыял-фашызма.

Для распальвання звярынага нацыяналізма і лютай расправы з рэволюцыйным соцыялістычным інтэрнацыянальным рухам пролетарыята буржуазія мабілізуе ўвесь апарат свайго духоўнага і матар'яльнага панавання: дзяржаўныя органы класавага гвалту, прэсу, школу, царкву, буржуазныя і дробна-буржуазныя партыі, у тым ліку і соцыял-фашыстаў. І тут буржуазія, як і ўсе прыгнятаючыя класы, як гэта неаднакраць указваў Ленін, для аховы свайго панавання адчувае патрэбу ў двух соцыяльных функцыях: функцыі ката і функцыі папа. Калі кат павінен падаўляць пратэст і абурэнне прыгнечаных, то поп прызван маляваць перспектывы зжывання жахаў і пакут пры капіталізме, сеяць ілюзіі аб «мірным саюзе роўнапраўных нацый» пры капіталізме, заклікаць да класавага прымірэння і супрацоўніцтва пролетарыята са «сваёй» буржуазіяй, паралізоўваць баявы настрой і рэволюцыйную рашучасць пролетарыята, дэзарганізоўваць, раскалваць адзінства радоў сусветнага пролетарыята.

Ленін з усёй сілай класавай нянавісці і палкасцю пролетарскага рэволюцыянера ўказваў, што Кауцкі—гэты «першакласны ліцамер і віртуоз у справе прастытуявання марксізма»—«ператварыў марксізм у самую агідную і тупавумную контррэволюцыйную тэорыю, у самую брудную папоўшчыну».

Кроўныя інтарэсы пролетарыята патрабуюць найвялікшай згуртаванасці і арганізаванасці яго барацьбы з сусветным імперыялізмам. Іменна зараз, больш чым калі-б там ні было, набывае выключнае значэнне пытанне аб сумесных арганізаваных выступленнях пролетарыята па ўсіх пытаннях класавай барацьбы, пытанне аб кіраўніцтве Комуністычнага Інтэрнацыянала—гэтай адзінай цэнтралізаванай

міжнароднай партыі пролетарыята, баявога штаба і арганізатара міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыі—сусветным рухам пролетарыята. Задача сусветнага пролетарыята і яго авангарда—Комуністычнага Інтэрнацыянала: проціпаставіць палітыцы нацыянальнай нянавісці і варожасці, палітыцы прымірэння пролетарыята са «сваёй» буржуазіяй і раз'яднання пролетарыята розных краін—палітыку згуртавання класавых сіл пролетарыята. Ад комуністычных партый патрабуецца ўменне ўвязаць барацьбу за соцыялізм з паслядоўна рэволюцыйнай праграмай у нацыянальным і каланіяльным пытаннях.

(*Канец будзе*)

# РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Узняць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва[1])

Арганізацыйнае пытанне ў большэвіцкай партыі заўсёды іграла выключную ролю. Наша партыя, партыя **новага тыпу,** рэзка адрозніваецца ад партый буржуазнага толку.

Самая пастаноўка ў нас арганізацыйнага пытання непасрэдна выцякае са зместу дыктатуры пролетарыята, са зместу задач соцыялістычнага будаўніцтва, неабходнасці ўцягнуць у гэта будаўніцтва мільённыя масы працоўных. Ленін і Сталін у сваіх творах неаднократна падкрэслівалі, што пасля перамогі над буржуазіяй, пасля заваявання ўлады галоўная і самая цяжкая задача—гэта задача арганізацыі новых адносін паміж людзьмі.

Ленін гаварыў:

> «Для паспяховага кіраўніцтва неабходна, **акрамя** ўмення пераканаць, акрамя ўмення перамагчы ў грамадзянскай вайне, уменне практычна **арганізаваць.** Гэта—самая цяжкая задача, бо справа ідзе аб арганізацыі па-новаму самых глыбокіх, эканамічных, асноў жыцця дзесяткаў і дзесяткаў мільёнаў людзей. І гэта—самая ўдзячная задача, бо толькі **пасля яе вырашэння (у** галоўных і асноўных рысах) можна будзе сказаць, што Расія **стала** не толькі совецкай, але і соцыялістычнай рэспублікай» (т. XXII стар. 442).

Якавы-ж асноўныя арганізацыйныя прынцыпы нашай партыі?

Гэта—дэмакратычны цэнтралізм, адзінства на прынцыповай партыйнай аснове, жалезная свядомая дысцыпліна, апора ў правядзенні ўсіх мерапрыемстваў на масы.

У межах гэтых асноўных прынцыпаў наша партыя заўсёды ўмела гібка манеўраваць, падпарадкваючы арганізацыйнае будаўніцтва, формы і метады практычнай работы палітычным задачам, інакш кажучы арганізацыйнае будаўніцтва заўсёды было на службе ў палітыкі. Усюды мы бачым цяснейшую сувязь паміж правільнай лініяй партыі і арганізацыйнымі мерапрыемствамі па яе ажыццяўленню.

Гэта спалучэнне **палітыкі і арганізацыі** работы бліскуча выражаны ў дакладзе тав. Сталіна на XVII з'ездзе партыі. Тав. Сталін з выдатным геніяльным майстэрствам спалучыў пытанні глыбокай тэорыі, мудрай палітыкі і пытанні арганізацыйнай практыкі. Гэта адзінства тэорыі і практыкі, адзінства палітыкі і канкрэтных арганізацыйных мер для вырашэння новых задач і ёсць той стыль работы, які нам патрабуецца.

[1]) перапрацаваная радыёлекцыя.

У перыяд грамадзянскай вайны партыя патрабавала ад сваіх членаў беспракаслоўнага выканання ваенных загадаў, беззаветнай барацьбы на фронтах супроць белагвардзейцаў і інтэрвентаў. Арганізацыйная работа ў гэты перыяд была накіравана на фармаванне сцэментаваных жалезнай пролетарскай дысцыплінай баявых атрадаў і армій і хуткую перакідку іх для разгрому ворагаў на шматлікіх ваенных фронтах.

У першы перыяд нэпа Ленін вучыў партыю ўменню так адступаць, каб лягчэй было разбегчыся для скачка ўперад для далейшага наступлення. Партыя заклікала вучыцца «культурна гандляваць», змагацца з усякага роду ўхіламі, ачышчацца ад прахадзімцаў і мазурыкаў, змагацца з бюракратызмам і комчванствам.

Далей, краіна перайшла ад перыяду аднаўлення да перыяду соцыялістычнай рэканструкцыі, ад палітыкі выцяснення кулака да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.

І тут правільныя арганізацыйныя прынцыпы забяспечылі разгром усякіх ухілаў і фракцый, забяспечылі адзінства і маналітнасць радоў партыі, стойкасць яе ў баях за праграму першай пяцігодкі. Арганізаваць работу ў перыяд першай пяцігодкі, калі шырокім фронтам разгарнулася соцыялістычная рэканструкцыя, аказалася не менш цяжкім, чым арганізаваць перамогу ў Кастрычніку або ў перыяд грамадзянскай вайны.

Сутнасць арганізацыйнай перабудовы ў рэканструкцыйны перыяд вызначыў на XVI з'ездзе партыі тав. Сталін. Ён указаў на неабходнасць

> «арганізаваць перабудову ўсёй практычнай работы прафсаюзных, каапераціыйных, совецкіх і ўсякіх іншых масавых арганізацый, прыстасоўна да запатрабаванняў рэканструкцыйнага перыяду; стварыць у іх ядро з найбольш актыўных і рэволюцыйных работнікаў, адцясніўшы і ізаляваўшы апартуністычныя, трэд'юніяніскія, бюракратычныя элементы; выгнаць вон з іх чуждыя і перарадзіўшыяся элементы і высунуць новых работнікаў знізу... Мабілізаваць самую партыю для арганізацыі ўсёй справы наступлення; умацаваць і адтачыць партыйныя арганізацыі».

Кіруючыся гэтымі ўказаннямі, партыя правяла сур'ёзныя меры па палепшанню работы ўсіх арганізацый. Напомнім найбольш буйныя з гэтых арганізацыйных мерапрыемстваў—гэта:

Ліквідацыя акруг, стварэнне новых раёнаў і арганізацыя палітаддзелаў МТС і соўгасаў, наблізіўшых кіраўніцтва да вёскі і калгаса. Арганізацыя новых абласцей і разбуйненне некаторых абласцей і краёў;

Разбуйненне наркаматаў, галоўных кіраўніцтваў і трэстаў, наблізіўшае кіраўніцтва да нізавых вытворчых звенняў;

Правядзенне чысткі совецкіх, гаспадарчых органаў і скарачэнне іх штатаў; ліквідацыя, у мэтах барацьбы з канцэлярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва і абязлічкай, функцыяналкі ў вугальнай прамысловасці і чыгуначным транспарце;

Перасоўка лепшых інжынерна-тэхнічных работнікаў з апаратаў і канцэлярый непасрэдна на вытворчасць;

Разбуйненне профсаюзаў, узмацненне ролі ЦК вытворчых саюзаў, перабудова сістэмы снабжэння.

Адным з апошніх важнейшых мерапрыемстваў партыі з'яўляецца стварэнне палітаддзелаў на чыгунках і на водным транспарце і ўвядзенне парторгаў у вугальнай і іншых галінах прамысловасці.

Зусім выключнае значэнне ва ўмацаванні партыі і палепшанні арганізацыйнай работы мелі і маюць чыстка партыі і разгортванне самакрытыкі.

Самакрытыка пераўзброіла многія нашы арганізацыі. Яна з'явілася тым інструментам, які дапамог ускрыць недахопы і арганізаваць работу лепш.

Іменна ўсімі гэтымі бальшэвіцкімі арганізацыйнымі мерамі, а не самацёкам, была забяспечана перамога партыі ў перыяд першай пяцігодкі.

Агромнае, рашаючае значэнне мае арганізацыйнае пытанне на сучасным этапе будаўніцтва соцыялізма, калі соцыялістычны ўклад «з'яўляецца непадзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы» **(Сталін).**

Было-б глыбокай памылкаю думаць, што перамога ў выкананні той вялікай праграмы соцыялістычных работ, якую прыняў XVII з'езд, прыдзе сама па сабе, самацёкам. Так могуць думаць толькі бюракраты, канцэлярысты. Барацьбу за выкананне рашэнняў з'езда партыі трэба арганізаваць. Тав. Сталін вучыў нас таму, што партыя не можа абмежавацца выпрацоўкай генеральнай лініі. Яна павінна яшчэ **правяраць** з дня ў дзень правядзенне генеральнай лініі на практыцы. Яна павінна **кіраваць** правядзеннем генеральнай лініі, паляпшаючы і ўдасканальваючы ў ходзе работы прынятыя планы гаспадарчага будаўніцтва, выпраўляючы і **папярэджваючы** памылкі.

Асабліва павучальны ў гэтых адносінах урокі перабудовы кіраўніцтва вугальнай прамысловасці. На гэтым прыкладзе мы наглядна можам павучыцца ў ЦК партыі, як трэба праводзіць генеральную лінію партыі на практыцы.

Тав. Сталін высунуў 6 гістарычных умоў: пытанні рабочай сілы, знішчэнне ўраўнілаўкі ў зарплаце, абязлічкі ў рабоце, стварэнне новай вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі, правільнае выкарыстанне старой, умацаванне соцыялістычнага гаспразліку. А праз некаторы час ЦК партыі прыняў пастанову аб перабудове вугальнай прамысловасці. ЦК нанёс удар перш за ўсё па канцэлярска-бюракратычнаму метаду кіраўніцтва. Ён дабіўся перакідкі кваліфікаваных інжынерна-тэхнічных сіл непасрэдна на вытворчасць—у шахты, у забой. Бязлітасная вайна была абвешчана функцыяналцы і абязлічцы ў кіраўніцтве вугальнай прамысловасцю, ураўнілаўцы — у заработнай плаце шахцёрам. ЦК партыі накіраваў групы вопытных і аўтарытэтных бальшэвікоў для непасрэднай дапамогі ў перабудове работы арганізацый вугальнага Данбаса. з выключнай рашучасцю і хуткасцю ЦК партыі перасек усе спробы сабатаваць указанні партыі аб перабудове работы па вуглю і дабіўся, нарэшце, зруху к лепшаму ў вугальнай прамысловасці.

Або вазьміце арганізацыйныя мерапрыемствы па лініі перабудовы сельскай гаспадаркі. Тав. Сталін высунуў генеральны лозунг зрабіць калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Рычагом правядзення гэтага лозунга ў жыццё з'явіліся **палітаддзелы МТС і соўгасаў,**

вопыт якіх быў пазней перанесен на чыгуначны транспарт. Партыя адабрала ў палітаддзелы лепшых большэвікоў. Тав. Кагановіч асабіста знаёміўся з работнікамі, пасылаемымі ў палітаддзелы. І тут, як і ва ўсёй сваёй рабоце, ЦК кіраваўся геніяльнай думкай Леніна аб тым, што галоўнае ў арганізацыйнай рабоце—**гэта падбор людзей і праверка выканання**.

На новых асновах у ЦК партыі быў пабудован сельскагаспадарчы аддзел. Ён пабудован на аснове поўнага выгнання функцыянальнасці па вытворча-тэрытарыяльнаму прынцыпу. У ім сканцэнтраваліся падбор і падрыхтоўка кадраў для сельскай гаспадаркі і палітыка-масавая работа.

Усім зараз вядомы гіганцкі поспех палітаддзелаў.

Сакрэты іх поспехаў—у правільнай арганізацыі калгасных мас, у апоры на актыў калгаснікаў, у жывым, канкрэтным і аператыўным кіраўніцтве сельскай гаспадаркай, ва ўменні ўнікаць у дэталі вытворчасці, ва ўменні вылучыць выдатных, чэсных калгаснікаў і ва ўменні разгарнуць сапраўднае соцспаборніцтва паміж калгасамі, унутры калгасаў і між паасобнымі людзьмі.

І ўсё-ж, не гледзячы на гэтыя бясспрэчныя поспехі ў правядзенні перабудовы работы па-новаму, арганізацыйна-практычная работа ўсё яшчэ адстае ад патрабаванняў новых гіганцкіх задач, высоўваемых партыяй.

Адставанне арганізацыйна-практычнай работы ад патрабаванняў палітычнай лініі партыі востра і ярка ўскрыта ў дакладзе тав. Кагановіча на XVII з'ездзе партыі.

Паглядзім, якія-ж гэта асноўныя недахопы арганізацыйнай работы?

Галоўнейшымі з іх з'яўляюцца:

Канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва і няўважлівасць да нізавых савецка-гаспадарчых і партыйных органаў; дача «агульных», абстрактных дырэктыў і шматлікіх загадаў замест канкрэтнага кіраўніцтва і вывучэння дэталей работы;

Перакладванне абавязку праверкі выканання і падбору кадраў на малакваліфікаваных работнікаў;

Разбуханне штатаў цэнтральных і сярэдніх звенняў савецкага і гаспадарчага апарата, адцягваючае з вытворчасці ў канцэлярыі значную колькасць інжынерна-тэхнічных работнікаў;

Функцыянальная пабудова апарата, расканцэнтраванне справы кіраўніцтва ў дзесятках аддзелаў і сектароў і, як вынік гэтага,— адсутнасць аператыўнага кіраўніцтва;

Крайняя слабасць адзінаначалля, адсутнасць асабістай адказнасці і абязлічка кіравання пад прыкрыццём «калегіяльнасці» кіраўніцтва;

Адкрытыя і скрытыя парушэнні жалезнай дысцыпліны партыі.

Небяспека ўсіх гэтых канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва заключаецца, між іншым, у тым, што яны распаўсюджаны. І ў Наркамземе, і ў Наркамсаўгасе, і на транспарце і ў органах тавараправодзячай сеці ўгняздзіліся гэтыя канцэлярска-бюракратычныя прыёмы кіраўніцтва.

Адкуль у нас у Савецкім саюзе гэтая хвароба?

Яна з'яўляецца адной з найбольш цяжкіх форм спадчыны ад старой царскай Расіі.

У царскай Расіі бюракратызм наогул лічыўся не хваробай, а нармальнаю з'явай, з якой і барацьбы не вялося. І сапраўды ён быў неад'емнаю часткай буржуазна-прыгонніцкага дзяржаўнага апарата.

Кастрычніцкая рэволюцыя разбіла бюракратычную машыну, але жывыя носьбіты бюракратызма—бюракраты засталіся. Засталася і драбнейшая сялянская гаспадарка, якая жывіць бюракратызм. Старыя бюракраты, засеўшыя ў новым совецкім апараце, прымянялі сабатаж і шкодніцтва. Партыя і ўрад уцягвалі ў кіраванне дзяржавай мільёны працоўных.

Аднак, барацьба з бюракратызмам, з векавымі навыкамі мінулага яшчэ далёка не закончана. Бюракратызм застаецца яшчэ, як перажытак мінулага ў свядомасці людзей.

У чым-жа канкрэтна выражаецца канцэлярска-бюракратычны метад кіраўніцтва?

У агульнасці, абстрактнасці, у падмене жывой справы пісанінай, у забвенні насушчных патрэб і інтарэсаў рабочага класа і калгаснага сялянства.

Людзі, заражаныя бюракратызмам, не змагаюцца за соцыялізм, а толькі «служаць», адбываюць «павіннасць».

Ударнікі, сапраўдныя барацьбіты за справу рабочага класа, энтузіясты соцыялістычнага будаўніцтва, твораць вялікую справу комунізма, а бюракрат, чалавек, адбываючы павіннасць, не жадае ісці на вытворчасць, ён чапляецца за канцэлярыю, не хварэе душою за вытворчасць, не гарыць на рабоце. Інакш кажучы, праяўляе чыноўніцкія адносіны да работы.

Бюракратызм асабліва небяспечны таму, што ён прадстаўляе найбольш зручную форму для маскіроўкі дзейнняў класавага ворага. У бюракратычныя вопраткі апранаецца апартуніст, не веруючы ў тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва. Носьбіт канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва праяўляе знешне згоду з генеральнай лініяй партыі, а ў той-жа час валакітай, папяровай паводкай тармозіць правядзенне гэтай лініі ў жыццё.

Акрамя непапраўных бюракратаў, канцэлярыстаў ёсць у нас яшчэ два тыпы работнікаў, якія таксама тармозяць справу, скоўваюць жывую работу, не даюць актыўнасці мас рухацца уперад. Пра гэтыя тыпы нягодных работнікаў вобразна гаварыў у сваім дакладзе т. Сталін.

Тав. Сталін заявіў з поваду «вяльмож», што «іх трэба без хістання знімаць з кіруючых пастоў, не гледзечы на іх заслугі у мінулым». Што-ж датычыць балбатуноў, то ў адносінах іх тав. Сталін сказаў: «Балбатунам не месца на апэратыўнай рабоце».

Сурёзнейшым тормазам выканання програмы соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца такое параджэнне бюракратызма, як **функцыяналка.** Яна выражаецца ў награмаджэнні шматлікіх сектароў і аддзелаў, ва ўстанаўленні бясконцай колькасці інстанцый, у якіх не разбярэш, хто за што адказвае. Пры функцыяналцы змазваецца роля адзінаначальніка, ствараецца атмасфера безадказнасці. Яркім узорам такой нягоднай сістэмы функцыянальнай пабудовы работы з'явіўся Наркамзем, дзе існавала 29 кіраўніцтваў і 202 сектары, прычым «кожны сектар ведаў усім СССР. Для таго, каб вырашыць якое-небудзь пытанне, трэба было прайсці праз дзесятак сектароў».

Функцыяналка, канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва, падмена канкрэтнай аператыўнай работы балбатнёю існуе не толькі ў цэнтральных апаратах. Гэтыя хваробы гняздзяцца і ў нізавых партыйных, масавых арганізацыях.

Якім чынам ліквідаваць усе гэтыя хваробы і падняць арганізацыйную практычную работу так, каб яна задавальняла гіганцкі ўзросшым запросам сучаснага перыяду— перыяду другой пяцігодкі?

Рашэнні XVII з'езда яшчэ больш глыбока развіваюць і канкрэтызуюць у новых умовах ленінскія арганізацыйныя прынцыпы большэвіцкай партыі. Для выкарчавання канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва, знішчэння функцыяналкі і забяспечання канкрэтнага і аператыўнага кіраўніцтва XVII з'езд партыі прапанаваў кіравацца наступнымі палажэннямі:

**Першае**—парайсці ад «агульнага» і абстрактнага кіраўніцтва да канкрэтнага кіраўніцтва, ад «агульных» рэзалюцый да аператыўных рашэнняў, аснаваных на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы, да цеснай жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва (цэх, участак, прадпрыемства, калгас, вёска, МТС, соўгас і т. п.);

**Другое**—узмацніць асабістую адказнасць кіраўнікоў за даручаную ім справу як па партыйнай, так і па совецкай лініі ліквідаваць функцыяналку і абязлічку ў рабоце, устанавіўшы строгае адзінаначалле;

**Трэцяе**—устанавіць сістэматычную дакладную праверку выканання дырэктыў партыі і ўрада з тым, каб праверкай выканання займаўся асабіста кіраўнік арганізацыі, установы, прадпрыемства і каб праверка выканання забяспечвала ўмацаванне партыйнай і совецкай дысцыпліны;

**Чацвертае**—забяспечыць перасоўку кваліфікаваных работнікаў з апарата і канцэлярыі непасрэдна на вытворчасць, скарацiўшы апараты кіраўніцтва, і палепшыць пастаноўку размеркавання работнікаў, абавязаўшы кіраўніка ўстановы і прадпрыемства асабіста кіраваць гэтай справай.

XVII з'езд партыі ў сваіх рашэннях падкрэсліў, што прынцып вытворчых ячэек, аб'яднаных па тэрытарыяльнаму прызнаку (раён, вобласць, нацрэспубліка) аказаўся недастатковым у новых умовах. Патрабавалася аб'яднанне пярвічнай партыйнай арганізацыі **па вытворчаму** прынцыпу. Адсюль—стварэнне палітаддзелаў МТС, соўгасаў і транспарта, адсюль—парторгі на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва, адсюль-жа знішчэнне функцыянальных аддзелаў у абкомах, крайкомах і ЦК ВКП(б) і стварэнне замест іх цэласных вытворча-галінных аддзелаў.

Асобая ўвага ў рашэннях з'езда ўдзелена перабудове нізавых партыйных арганізацый. У буйным прадпрыемстве або ўстанове, калгасе партарганізацыя будуецца так: партарганізацыя прадпрыемства— партарганізацыя цэха (або ўчастка аддзела). Партыйныя ячэйкі ператвораны ў партыйныя арганізацыі з парткомам на чале, а ў цэхах, зменах, аддзяленнях—цэхавыя арганізацыі з партыйным арганізатарам на чале. «У сваю чаргу ўнутры цэхавых участкаў і т. п. арганізацыях могуць ствара́цца партыйныя групы па брыгадах, агрэгатах, прадпрыемствах» і т. п. Гэта значыць, што партыйныя групы не абавязкова ствараць на кожным агрэгаце, на кожным участку, іх трэба ствараць на тых агрэгатах і ўчастках, дзе ёсць у гэтым неабходнасць. Набліжэнне партыйнага кіраўніцтва да паасобных рабочых, калгаснікаў, да непасрэднага вытворчага звяна, дзе фактычна вырашаецца поспех справы і дзе знаходзіцца канцовае выражэнне праграмы вялікіх соцыялістычных работ, веданне даручанай справы, уніканне ў

дэталі вытворчасці,—у гэтым уся соль перабудовы работы. Новы парадак арганізацыі работы ўстаноўлен і ў савецкіх арганізацыях. Яны таксама, пачынаючы ад нізавых звенняў да народных камісарыятаў уключна, перабудоўваюцца на вытворча-тэрытарыяльнай аснове. Ліквідуюцца распыленае кіраўніцтва, абязлічка і безадказнасць.

Чоткасць работы апарата патрабуе ў першую чаргу поўнапраўнага кіраўніка ў кожным даным звяне, будзь-то брыгада, цэх, трэст ці наркамат. Гэтай поўнапраўнасці, поўнага **адзінаначалля** не было дагэтуль. І партыя патрабуе, каб адгэтуль кожны кіраўнік **сам** кіраваў падборам кадраў свайго апарата, **сам** вызначаў мінімум тых ведаў, якімі той ці іншы работнік павінен аўладаць, **сам** правяраў якасць работы сваіх падначаленых, выкананне імі дырэктыў партыі і ўрада, нарэшце, **сам** без перашкод і тармазоў «калегіяльнасці», аператыўна, як адзінаначальнік, кіраваў і апаратам і падначаленымі вытворчымі звеннямі.

Далейшае палепшанне работы савецкага апарата мяркуе прыцягненне ўсё новых і новых мас да кіравання апаратам. Неабходна мабілізаваць творчую ініцыятыву і самадзейнасць мас супроць бюракратызма нашых устаноў і арганізацый. Шляхі ўцягнення мас у кіраўніцтва дзяржавай вядомы. Першы шлях—гэта **советы** рабоча-сялянскіх дэпутатаў і іх **секцыі.** Партыйны з'езд патрабаваў пашырыць сець секцый советаў і дэлегацкіх груп на прадпрыемствах, у вёсках, а ў вялікіх гарадах арганізаваць параённыя ўчастковыя групы дэпутатаў советаў, пры гэтым асобую ўвагу звярнуць на ўцягненне ў работу советаў і іх секцый жанчын-актывістак работніц і калгасніц.

Агромная задача ўскладзена на **профсаюзы**, як найбольш масавую, услед за советамі, арганізацыю пралетарыята. Профсаюзам перадаюцца ўсе правы нізавых органаў РСІ на прадпрыемстве і кіраўніцтва кантрольнымі органамі пры орс'ах, ЗРК, гарпо, райпо. Гэта азначае агромнае ўзрастанне ролі профсаюзаў, выцякаючае з асноўнай іх задачы, пастаўленай Леніным: «Профсаюзы—школа комунізма».

Для палепшання работы апарата ў рашэннях па арганізацыйных пытаннях з'езд прапанаваў таксама:

> «аднавіць апраўдаўшую сябе практыку арганізацыі «лёгкай кавалерыі» комсамола, паспяхова ўскрываўшай бюракратычныя недахопы апарата. Узняць якасць работы ячэек комсамола ў дзяржустановах па палепшанню дзяржапарата».

Асобая ўвага ў дакладзе т. Сталіна і ў рэзалюцыі партз'езда па дакладу т. Кагановіча ўдзелена пытанням кантроля, праверкі выканання дырэктыў партыі і ўрада.

РСІ па сваёй арганізацыі ўжо не можа задаволіць патрабаванняў добра пастаўленай праверкі выканання. РСІ была на месцы, калі некалькі год назад можна было разлічваць на магчымасць **інспектавання** работы ўсіх наркаматаў і гаспадарчых арганізацый. Зараз гаспадарчая работа разраслася, стала складанай і няма магчымасці інспектаваць яе з аднаго цэнтра. Зараз трэба **не інспектаваць, а кантраляваць выкананне рашэнняў з'езда.** Патрэбна такая арганізацыя, якая магла-б сканцэнтраваць сваю ўвагу на праверцы выканання рашэнняў цэнтральных устаноў.

У мэтах узмацнення кантроля над выкананнем рашэнняў з'езд партыі прыняў палажэнне аб арганізацыі Партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б) і аб Камісіі савецкага кантроля пры СНК СССР, створаных замест ЦКК і Наркамата РСІ.

Асноўнай задачай Камісіі партыйнага кантроля з'яўляецца кантроль за выкананнем рашэнняў з'ездаў партыі і пастаноў ЦК ВКП(б) па ўсіх пытаннях партыйнай, совецкай і гаспадарчай работы, праверка выканання кожнай пастановы паасобку.

Асноўнай задачай Камісіі совецкага кантроля, па палажэнню, з'яўляецца сістэматычная, канкрэтная і аператыўная праверка фактычнага выканання важнейшых рашэнняў урада ўсімі звеннямі совецкага і гаспадарчага апарата зверху данізу.

На месцах ствараюцца абласныя ўпаўнаважаныя партыйнага і совецкага кантроля, якія працуюць **незалежна** ад мясцовых арганізацый і падначальваюцца непасрэдна Цэнтральнай камісіі партыйнага або совецкага кантроля. Камісіям даны вялікія правы. Яны маюць права ў выпадку парушэння пастаноў партыі і ўрада даваць абавязковыя ўказанні ўсім совецкім і гаспадарчым органам у межах адпаведных саюзных або аўтаномных рэспублік края і абласці.

Перабудову арганізацыйнай работы нельга адарваць ад ідэйнага ўзбраення членаў партыі. Наадварот. Трэба непарыўна звязаць рэвалюцыйную тэорыю і практыку.

Павышаючы яшчэ больш патрабаванні да кожнага партыйца, да кожнага новапаступаючага ў партыю таварыша, партыя выконвае вядомае ўказанне Леніна, данае ім яшчэ на другім з'ездзе партыі: «**Мы павінны старацца ўзняць веды і значэнне члена партыі вышэй, вышэй і вышэй».**

**Ідэйна ўзброіцца, лепш арганізаваць працу**—такава задача.

XVII з'езд даў канкрэтную праграму перабудовы ўсёй работы пановаму, работы сталінскім стылем. Гэта неабходна для паспяховага выканання задач соцыялістычнага будаўніцтва ў другую пяцігодку.

ЦК партыі ўжо заслухаў некаторыя даклады партарганізацый аб выкананні імі пастаноў XVII з'езда ў галіне партыйнага будаўніцтва. ЦК партыі адзначаў, што перабудова партыйных арганізацый, асабліва пярвічных, фактычна яшчэ не разгарнулася, а ў паасобных выпадках нават нездавальняюча.

Чым выклікана такая ацэнка? Тым, што ў радзе месц перабудоўваюцца механічна, перабудову па сутнасці часта падмяняюць шуміхай, мяняецца шыльда, форма, а змест застаецца ранейшы. Скарачаюць, скажам, паседжанні парткома пад знакам барацьбы з пасяджэнчай мітуснёю, а замест гэтага склікаюць яшчэ ў большай колькасці ўсякага роду іншыя нарады толькі пад living рознымі назвамі. Змяншаюць колькасць пратаколаў, а замест гэтага прыдумваюць розныя спісы, нарады, рапарты і т. п. пісаніну.

Некаторыя партарганізацыі, праводзячы перабудову, забываюць пра жывых людзей. Тым часам, дух рашэнняў XVII з'езда мяркуе перш за ўсё **клопаты аб членах партыі,** клопаты аб кожным паасобку комуністце, аб павышэнні яго ідэйнага культурна-палітычнага ўзроўню, аб веданні яго інтарэсаў, настрояў.

Перабудова мяркуе павышэнне авангарднай ролі кожнага комуніста ў брыгадзе, павышэнне яго ролі ў безумоўным выкананні вытворчага **плана.**

А для гэтага патрабуецца, каб людзі былі правільна падабраны, правільна расстаўлены, каб яны добраахвотна выконвалі ўскладзеную на іх работу, каб яны павышалі свае тэарэтычныя і тэхнічныя веды, каб перадавікі перадавалі свой вопыт адстаючым.

Сутнасць перабудовы заключаецца ў тым, каб зрабіць усю работу больш аператыўнай, каб лепш была пастаўлена выхаваўчая работа,

каб былі рашуча выкінуты з практыкі штамп, схематызм, усякая канцэляршчына, засланяючая жывога чалавека, і каб былі створаны ўсе ўмовы для павышэння **арганізатарскай** ролі на вытворчасці кожнага камуніста.

Перабудоўвацца трэба сур'ёзна, **па сутнасці**. Толькі тады мы сапраўды па-бальшэвіцку выканаем гістарычныя рашэнні XVII з'езда нашай партыі.

Рэкамендуецца прачытаць наступную літаратуру па гэтых пытаннях:

СТАЛІН—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б), глава III, раздзел «Пытанні арганізацыйнага кіраўніцтва».

КАГАНОВІЧ—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б). Главы першая і другая цалкам і ў трэцяй главе раздзелы 1, 2, 3 і 4.

Рэзалюцыя XVII з'езда ВКП(б)—«Арганізацыйныя пытанні» (партыйнае і совецкае будаўніцтва).

**Пастанова ЦВК і СНК СССР** «Аб арганізацыйных мерапрыемствах у галіне совецкага і гаспадарчага будаўніцтва» (надрукавана ў «Правде» і «Известиях ЦИК» 16 сакавіка гэтага года).

Перадавыя «Правды»: ад 1/III—«За оперативный действенный контроль», ад 17/III—«По настоящему взяться за перестройку аппарата», ад 31/III—«Вдумчиво, серьезно перестроить партийную работу», артыкул тав. Зайдэль —«Организационный вопрос на нынешнем этапе, змешчаны ў «Правде» 9 красавіка артыкул т. Фейгіна—«О новом человеке и типе большевика» «Правда» ад 17 мая 34 г., № 134 і артыкул Б. Панамарова «Устав партии», змешчаны ў «Правде» ад 26 мая 34 г.

---

## Кніжная паліца

**МАРКС К. Наёмная праца і капітал.** 2-е белар. выданне, выпраўленае і дапоўненне паводле рускага выдання 1933 г. Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б).

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 62, ц. 65 к.

**«Наёмная праца і капітал»** прадстаўляе сабою лекцыі, чытаныя Марксам у 1847 г. у Нямецкім рабочым саюзе ў Бруселі. Яны былі ўпершыню надрукаваны ў 1849 г. у «Новай рэйнскай газеце». Кніга з'яўляецца самай даступнай з работ Маркса, якія перадаюць сутнасць яго эканамічнага вучэння.

Побач з брашурай «Заработная плата, цана і прыбытак» гэта работа **служыць незамянімым дапаможнікам для вывучэння** «Капітала» Маркса.

Маркс надзвычай ясна паказвае тут, што капіталістычнае грамадства прадстаўляе сабою «грандыёзную ўстанову для эксплаатацыі агромнай большасці народу мізэрнай і безупынна змяншаючайся меншасцю». Сваім аналізам капіталізма Маркс наглядна паказвае, што няма і не можа быць іншага шляху для вызвалення пролетарыята ад капіталістычнага рабства, акрамя шляху пролетарскай рэволюцыі, якая ўстанаўляе дыктатуру пролетарыята.

Усё выкладанне Маркса, яго аналіз немінучасці абсалютнага і адноснага збяднення пролетарыята пры капіталізме, яго даследванне самых глыбокіх супярэчнасцей, раздзіраючых капіталістычнае грамадства з'яўляецца найлепшаю зброяй у барацьбе супроць усякіх скажэнняў, супроць усякага апашлення і вульгарызацыі марксізма з боку ўсіх фальсіфікатараў марксізма, апартуністаў усіх масцей. Кнізе прадпасланы ўводзіны Энгельса да «Наёмнай працы і капітала», напісаныя ім у красавіку 1891 г.

У дадатку змешчана работа Маркса «Заработная плата». Гэты рукапіс прадстаўляе сабою заметкі, паслужыўшыя матар'ялам для часткі лекцый Маркса, якія ляглі ў аснову «Наёмнай працы і капітала». У кнізе ёсць прадметны ўказальнік і ўказальнік імён.

**ЛЕНІН В. І. Аснаванне Комуністычнага інтэрнацыянала.** Прамовы, тэзісы, артыкулы.

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 43, ц. 35 к.

У брашуры змешчан рад прамоў і артыкулаў Владзіміра Ільіча, якія адносяцца да перыяду першага кангрэса Комінтэрна. Змешчаны тут артыкул «Трэці інтэрнацыянал і яго месца ў гісторыі» і тэзісы Леніна аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пролетарыята, увайшоўшыя ў арсенал сусветнага бальшэвізма, як адзін з асноўных пра-

грамных дакументаў,—падагульняюць цэлую эпоху барацьбы Леніна і большэвікоў супроць міжнароднага апартунізма.

У тэзісах і дакладзе аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пролетарыята і артыкуле «III Інтэрнацыянал і яго месца ў гісторыі» Ленін да канца ўскрывае сапраўдны твар буржуазнай дэмакратыі і паказвае, як «упершыню ў свеце совецкая, ці пролетарская дэмакратыя стварыла дэмакратыю для мас, для працоўных, для рабочых і дробных сялян, падавіўшы «свабоду» эксплаататараў, адняўшы ў іх «свабоду» эксплаатаваць.

Гэта—бліскучыя дакументы трыумфа Кастрычніцкай рэволюцыі, якая была рашаючай перамогай ленінізма, перамогай Комуністычнага інтэрнацыянала.

**21 умова прыёму ў Комуністычны інтэрнацыянал.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 36, ц. 35 к.

Умовы прыёму ў Комуністычны Інтэрнацыянал», выпрацаваныя II кангрэсам Комінтэрна ў 1920 г. пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна, з'яўляюцца адным з важнейшых праграмных дакументаў міжнароднай большэвіцкай партыі. У барацьбе за дыктатуру пролетарыята, якую вядуць нашы брацкія компартыі, «21 умова» застаецца і на гэты дзень рашаючай і непарушнай дырэктывай.

Уступны артыкул О. Пятніцкага падае гісторыю ўзнікнення «21 умовы» і барацьбы Комінтэрна за іх ажыццяўленне. У дадатку змешчан урывак з тэзісаў В. І. Леніна «Аб асноўных задачах II кангрэса Комуністычнага інтэрнацыянала».

**Ленін В. І. Спрэчныя пытанні. Адкрытая партыя і марксісты.** Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 20, ц. 15 к.

Брашура з'яўляецца зборнікам артыкулаў Уладзіміра Ільіча, надрукаваных у «Правде» у 1913 г. супроць ліквідатараў, якія адмаўляліся ад падполля, ад нелегальнай рэволюцыйнай партыі пролетарыята і прапагандавалі замяніць яе бясформеным аб'яднаннем, стварэннем шырокай і адкрытай партыі ў рамках легальнай законнасці.

Разбіраючы рашэнні партыі аб ліквідатарстве, якое кваліфікуецца, як буржуазны ўплыў на пролетарыят, небяспечнае ўхіленне ад марксізма, Ленін устанаўляе, што інтарэсы буржуазнай контррэволюцыі патрабуюць разбурэння і роспуску нелегальнай рэволюцыйнай партыі рабочага класа. Ленін падкрэслівае, што ліквідатары—здраднікі марксізма, дробна-буржуазныя інтэлігенты, пасланыя буржуазіяй несці ліберальную распусту ў рабочае асяроддзе.

**Ленін В. І. Што рабіць?**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 150, ц. 75 к.

Брашура «Што рабіць»?—адна з тых работ Леніна, без якіх немагчыма вывучэнне ленінізма і гісторыі партыі. У ёй з выключнай поўнатой і чоткасцю ізложана ленінскае вучэнне аб партыі. Напісаная ў перыяд абвостранай барацьбы іскраўцаў з эканамістамі, яна застаецца і па сёння злободзенным і актуальным дакументам.

Гэта работа Леніна адыграла вялікую ролю ў справе разгрому эканамістаў, стварэння адзінай, згуртаванай, цэнтралізаванай партыі. Адстойваючы ад апартуністаў ідэю цэнтралізаванай пролетарскай арганізацыі, Уладзімір Ільіч змагаецца за партыю новага тыпу, партыю—авангард рабочага класа, узброеную рэволюцыйнай тэорыяй.

Брашура крытыкуе погляды апартуніста Бернштэйна, і яго рускіх паслядоўнікаў—«легальных марксістаў» і «эканамістаў», выкрывае тэорыю «стыхійнасці» ў рабочым руху, паказвае, што рабочая маса не можа самастойна без партыі-авангарда, узброенай рэволюцыйнай тэорыяй, аўладаць ідэямі навуковага соцыялізма, што комуністычная ідэалогія не вырастае **стыхійна.**

Разам з тым, Ільіч распрацоўвае план стварэння агульна-рускай палітычнай газеты, які па сутнасці з'яўляўся часткай плана стварэння партыі новага тыпу.

**ЦЭТКИН КЛАРА. Заветы Ленина женщинам всего мира.**

Москва, Партиздат, 1934 г., ст. 80, ц. 6 р. 25 к.

Гэта кніга раз'ясняе ленінскія палажэнні аб карэннях зняволення жанчыны і аб шляхах яе вызвалення.

Аўтар падкрэслівае, што прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці—асноўная прычына жаночай няроўнасці і прыгнечання, што з падзелам грамадства на класы жанчына стала ўдвая прыгнечанай: капіталам і бытавымі ўмовамі. Цэлым радам канкрэтных прыкладаў і фактаў К. Цэткін ілюструе палажэнне Леніна аб тым, што пролетарская рэволюцыя можа перамагчы толькі пры ўмове ўдзелу ў ёй жанчын.

Кніга змяшчае масу фактычнага матар'ялу аб велізарных поспехах жаночага руху ў Совецкім саюзе, а побач паказаны—галеча, рабства, цяжкое становішча працоўнай жанчыны ў краінах капітала. У кнізе многа добра зробленых здымкаў жанчын—удзельніц рэволюцыйных падзей і жанчын-ўдарніц соцбудаўніцтва, а таксама здымкі з пакутнага жыцця жанчыны ў краінах фашызма.

Гэту кнігу Клара Цэткін прызначыла для жанчын Германіі, але прыход да ўлады фашыстаў перашкодзіў выхаду кнігі ў свет. Там спальваюць на плящах кнігі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. У нас гэту выдатную кнігу неабходна выкарыстаць для галосных чытак у шырокіх масах, а таксама як прэмію лепшым работніцам і калгасніцам.

**ОКАНО. Рэволюцыйная барацьба працоўных мас Японіі.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 34, ц. 20 к.

Прамова на XIII пленуме ВККІ. Аналізуючы расстаноўку класавых сіл у Японіі, тав. Окано паказвае, што кіруючы клас пры падтрыманні соцыял-дэмакратыі, якая фашызуецца, мабілізуе ўсе свае сілы для вайны супроць СССР, супроць рэволюцыйнага руху.

Окано спыняецца на росце ўплыву і сіл японскай компартыі, на яе антываеннай барацьбе, рабоце на прадпрыемствах, у вёсцы, арміі і сярод рэволюцыйнай інтэлігенцыі. Не глядзячы на шалёны тэрор, рэпрэсіі, компартыя Японіі ўпарта, настойліва і цвёрда рыхтуецца да рашаючых класавых баёў, няўхільна пашыраючы свой уплыў у масах.

**КИРОВ С. Ленинградские большевики между XVI и XVII с'ездами ВКП(б).**

Доклады и речи 1930—33 гг. Ленпартиздат, 1934 г., ст. 413, ц. 2 р. 60 к., пер. 1 р.

Кніга прысвечана выступленням т. Кірава—кіраўніка ленінградскіх большэвікоў і аднаго з лепшых аратараў і трыбунаў нашай пар-

тыі—па розных пытаннях за перыяд з 1930 па 1933 гг.: на XVI з'ездзе партыі, на ленінградскім партактыве аб выніках XVI з'езда, аб выніках снежаньскага (1930 г.), ліпеньскага (1931 г.), верасьнёўскага (1932 г.) і студзеньскага (1933 г.) пленумаў ЦК ВКП(б). Дзве прамовы прысвечаны рабоце ў вёсцы. Заканчваецца зборнік выступленнем на ленінградскім актыве комсамола аб задачах комсамола. Гэтыя прамовы т. Кірава—члена палітбюро ЦК ВКП(б)—трэба ведаць партактыву.

Брыгада Бібліяграфічнага інстытута
БССР імя ЛЕНІНА [1]).

---

[1]) У папярэднім № 8 час. „Б.Б" пад раздз. „Кніжная паліца" гэты подпіс выпаў.

## Аб пастанове ЦВК СССР пра ўзнагароду ордэнам Леніна работнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў БССР

### Пастанова ЦК КП(б)Б

1. ЦК КП(б)Б вітае начальнікаў і работнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў—т. т. ВАЙМАНА (Рагачоўская МТС), БАНГАЙЦІСА (Слуцкая МТС), КАМЕНШТЭЙНА (Хойніцкая МТС) і БУРАВУ (нач. палітаддзела соўгаса імя Свярдлова), узнагароджаных ЦВК СССР ордэнам Леніна.

2. Работнікі палітаддзелаў, атрымаўшыя гэту высокую ўзнагароду, заслужылі яе за ўзорную арганізацыю справы соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі на даручаных ім участках. Асноўныя ўмовы поспехаў гэтых таварышоў заключаюцца ў тым, што яны здолелі па-большэвіцку мабілізаваць і ўзначаліць масы, згуртаваць іх на выкананне задач партыі ў справе соцыялістычнай рэканструкцыі вёскі, паказалі на справе высокія ўзоры канкрэтнай, аператыўнай работы. Сваёй работай гэтыя работнікі дабіліся вялікага аўтарытэту сярод працоўных мас калгаснай вёскі. Яны цалкам апраўдалі тую велізарнейшую палітычнага значэння задачу, якую паставіла партыя перад палітаддзеламі—быць партыйным вокам у вёсцы, быць арганізатарам новага жыцця ў вёсцы.

3. ЦК КП(б)Б у асаблівасці падкрэслівае неабходнасць глыбокага вывучэння станоўчага вопыту арганізацыйнай і палітыка-масавай работы ўзнагароджаных работнікаў з тым, каб гэты вопыт палажыць у аснову штодзеннай работы ўсіх палітаддзелаў МТС, соўгасаў і партыйных арганізацый.

Сакратар ЦК КП(б)Б ГІКАЛО.

# Аб структуры пачатковай і сярэдняй школы ў СССР

## (Пастанова СНК Саюза ССР і ЦК ВКП(б))

1. У мэтах забяспечання чоткай арганізацыйнай структуры і парадку ў школе ўстанавіць агульныя для ўсяго СССР тыпы агульна-асветнай школы: пачатковая школа, няпоўная сярэдняя і сярэдняя школа.

2. У пачатковай школе мець 4 класы (з 1-га па 4-ты ўключна), у няпоўнай сярэдняй—7 класаў (з 1-га па 7-ы ўключна), у сярэдняй—10 класаў (з 1-га па 10-ты ўключна).

3. Існуючыя ў школах групы перайменаваць у класы, устанавіўшы парадкавы лік ад 1-га класа да 10-га.

4. Існуючую ў радзе школ для дзяцей 7-гадавога ўзросту так званую нулявую групу перайменаваць у падрыхтоўчы клас.

5. Прапанаваць Дзяржплану СССР прадставіць у СНК СССР план паскоранага развіцця сеткі сярэдніх школ.

6. Устанавіць, што скончыўшыя няпоўную сярэднюю школу маюць права пераважнага паступлення ў тэхнікумы, а скончыўшыя сярэднюю школу маюць права пераважнага паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

7. Загадчыкамі пачатковых школ назначаць у далейшым толькі тых педагогаў, якія паспяхова скончылі педагагічны тэхнікум, маюць 3-х гадовы стаж педагагічнай работы і атрымалі належную атэстацыю з боку адпаведных мясцовых органаў народнай асветы.

8. Загадчыкаў пачатковымі школамі назначаць наркомасветы саюзных і аўтаномных рэспублік па прадстаўленню мясцовых органаў народнай асветы.

9. Загадчыкаў няпоўнымі сярэднімі і сярэднімі школамі іменаваць дырэктарамі.

10. Дырэктарамі няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ назначаць у далейшым толькі тых педагогаў, якія паспяхова скончылі вышэйшую педагагічную навучальную ўстанову і маюць 3-гадовы стаж педагагічнай работы.

11. Дырэктароў няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ назначаць наркомасветы саюзных і аўтаномных рэспублік.

12. Забараніць асоб, якія маюць спецыяльную педагагічную асвету, назначаць на іншую, не па спецыяльнасці, работу.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.

# Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі у школах СССР

## (Пастанова СНК Саюза ССР і ЦК ВКП(б))

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) канстатуюць, што выкладанне гісторыі ў школах СССР пастаўлена нездавальняюча. Падручнікі і само выкладанне носяць адцягнены, схематычны характар. Замест выкладання ГРАМАДЗЯНСКАЙ ГІСТОРЫІ ў жывой, цікавай форме з выкладаннем важнейшых падзей і фактаў у іх храналагічнай паслядоўнасці, з характарыстыкай гістарычных дзеячоў,—вучням падносяць абстрактныя азначэнні грамадска-эканамічных фармацый, падмяняючы такім чынам звязнае выкладанне грамадзянскай гісторыі адцягненымі соцыялагічнымі схемамі.

Рашаючай умовай грунтоўнага засваення вучнямі курса гісторыі з'яўляецца захаванне гісторыка-храналагічнай паслядоўнасці ў выкладанні гістарычных падзей з абавязковым замацаваннем у памяці вучняў важных гістарычных з'яў, гістарычных дзеячоў, храналагічных дат. Толькі такі курс гісторыі можа забяспечыць неабходную для вучняў даступнасць, нагляднасць і канкрэтнасць гістарычнага матэрыялу, на аснове чаго толькі і магчымы правільны разбор і правільнае абагульненне гістарычных падзей, якія падводзяць вучня к марксісцкаму разуменню гісторыі.

У адпаведнасці з гэтым **Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) пастанаўляюць:**

1. Падрыхтаваць к чэрвеню 1935 г. наступныя новыя падручнікі па гісторыі:

а) гісторыя старажытнага свету;

б) гісторыя сярэдніх вякоў;

в) новая гісторыя;

г) гісторыя СССР;

д) новая гісторыя залежных і каланіяльных краін.

2. Зацвердзіць наступны спіс членаў груп па складанню новых падручнікаў па гісторыі:

Гісторыя старажытнага свету: праф. КАВАЛЁЎ С. І.(кіраўнік), акад. НІКОЛЬСКІ Н. М., СВАНІДЗЕ А. С. і праф. МІНУЛІН А. В.

Гісторыя сярэдніх вякоў: праф. КОСМІНСКІ Е. А. (кіраўнік), праф. ГУКОЎСКІ А. І., ТРАХТЭНБЕРГ О. В., МАЛЫШЭЎ А. І.

Новая гісторыя: акад. ЛУКІН Н. М. (кіраўнік), праф. ФРЫДЛЯНД Г. С. праф. ДАЛІН В. М., праф. ЗАЙДЭЛЬ Г. С. і дацэнт ЕФІМАЎ А. В.

Гісторыя СССР: проф. ВАНАГ Н. Н. (кіраўнік), праф. ГРЭКАЎ Б. Д., праф. ПАНКРАТАВА А. М., праф. ПІАНТКОЎСКІ С. А.

Новая гісторыя залежных і каланіяльных краін: РАДЭК К. Б. (кіраўнік), ГАБІДУЛІН Х. З., праф. КОНРАД Н. І., МУХАРДЖЫ А. С., ГОДЭС М. С., КОКІН М. Д., МАД'ЯР Л. І., МІФ П. А. і РОТШТЭЙН Ф. А.

3. У мэтах падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў па гісторыі аднавіць з 1 верасня 1934 г. гістарычныя факультэты ў складзе Маскоўскага і Ленінградскага універсітэтаў з кантынгентам асенняга прыёму на кожным з факультэтаў па 150 чалавек, устанавіўшы тэрмін навучання 5 год.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.

# Аб выкладанні геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе СССР

## (Пастанова СНК Саюза ССР і ЦК ВКП(б))

Совет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) устанаўляюць, што выкладанне геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе страдае істотнымі недахопамі, буйнейшымі з якіх з'яўляюцца адцягненасць і сухасць выкладання, недастатковасць фізіка-геаграфічнага матэрыялу, слабая арыентыроўка па карце, перагрузка выкладання і падручнікаў па геаграфіі статыстыка-эканамічным матэрыялам і агульнымі схемамі, з прычыны чаго вучні выходзяць з школы, не маючы часта элементарных геаграфічных ведаў.

Для ўстранення ўказаных недахопаў СНК СССР і ЦК ВКП(б) лічаць неабходным пераглядзець праграмы і падручнікі па геаграфіі для пачатковай і сярэдняй школы, прапанаваўшы наркомасветы саюзных рэспублік кіравацца наступнымі палажэннямі:

1. У выкладанні геаграфіі ў пачатковай школе (3-ці і 4-ты класы) забяспечыць замацаванне ў памяці вучняў асноўных геаграфічных назваў (краін, рэк, марэй, гор, гарадоў і т. п.) і грунтоўнае веданне геаграфічнай карты ў межах, устаноўленых праграмай, дабіўшыся большай нагляднасці, даступнасці, папулярнасці і цікавасці выкладання.

2. У выкладанне геаграфіі ў сярэдняй школе ўнесці наступныя змены:

а) у праграме 5-га класа абмежавацца фізічнай геаграфіяй і захаваць устаноўлены аб'ём праграмы, але спрацаваць змест, прыстасаваўшы яго да ўзросту вучняў 5-га класа;

б) у праграме 6-га класа сканцэнтравацца на фізіка-геаграфічным аглядзе частак свету (Еўропа, Азія, Амерыка, Афрыка, Аўстралія) з дадаткам асноўных вестак аб важнейшых дзяржавах па кожнай частцы свету (палітычны лад, народная гаспадарка і т. д.), скараціўшы і спрацаваўшы вучэбны матэрыял прыстасоўна да ўзросту вучняў гэтага класа;

в) у праграме 7-га класа аставіць агульны фізіка-геаграфічны агляд СССР, значна павялічыўшы яго аб'ём, а таксама агляд СССР па рэспубліках, краях і абласцях, з тым, каб рашуча спрацаваць і разгрузіць вучэбны матэрыял праграмы ад эканамічных і статыстычных падрабязнасцей і адначасова пашырыць у гэтых аглядах геаграфічную характарыстыку кожнай з рэспублік, краёў і абласцей (апісанне рэк, азёр, марэй, клімату, флоры і фауны, характарыстыкі насельніцтва, буйнейшых гарадоў, чыгуначных і шасейных дарог і т. д.);

г) па праграме 8-га класа эканамічную геаграфію СССР выкладаць такім чынам, каб, прадпаслаўшы ў пачатку агляд размяшчэння прадукцыйных сіл СССР і становішча народнай гаспадаркі, даць за-

тым падрабязную эканоміка-геаграфічную характарыстыку кожнага раёна;

д) у праграму 9-га класа ўвесці эканамічную геаграфію капіталістычных краін.

3. Падрыхтаваць новыя падручнікі па геаграфіі к чэрвеню 1935 г., для чаго зацвердзіць наступных аўтароў:

а) ТЕРЭХАЎ П. Г. і ЭРДЭЛІ В. Г.—ПАДРУЧНІК ПА ЭЛЕМЕНТАРНАЙ ГЕАГРАФІІ ДЛЯ 3-га і 4-га КЛАСАЎ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ (у 2-х частках);

б) Праф. БАРКОЎ А.С. і праф. ПАЛАВІНКІН А.А.—ПАДРУЧНІК ПА ФІЗІЧНАЙ ГЕАГРАФІІ ДЛЯ 5-га КЛАСА;

в) ВАРЖАНСКІ С. Л.—ПАДРУЧНІК ПА ГЕАГРАФІІ ЧАСТАК СВЕТУ І ВАЖНЕЙШЫХ КРАІН (без СССР) для 6-га класа;

г) праф. БАРАНСКІ Н. Н.—ПАДРУЧНІК ПА ФІЗІЧНАЙ ГЕАГРАФІІ СССР ДЛЯ 7-га КЛАСА;

д) праф. БАРАНСКІ Н. Н.—ПАДРУЧНІК ПА ЭКАНАМІЧНАЙ ГЕАГРАФІІ СССР ДЛЯ 8-га КЛАСА;

е) ВІТВЕР І. А.—ПАДРУЧНІК ПА ЭКАНАМІЧНАЙ ГЕАГРАФІІ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН ДЛЯ 9 КЛАСА.

4. Прапанаваць Наркамасветы РСФСР і Дзяржвыдавецтву выдаць у дапамогу настаўнікам геаграфіі хрэстаматыю па геаграфіі, методыку выкладання геаграфіі, бібліяграфічны ўказальнік кніг і геаграфічны журнал для настаўнікаў.

5. Прапанаваць наркамасветы саюзных рэспублік, пачынаючы з 1934 г., выдаць невялікую серыю кніг для занятнага чытання вучняў па геаграфіі (біяграфіі вялікіх вандроўнікаў, расказы аб жыцці асобных краін і народаў, папулярныя апісанні важнейшых вандраванняў і т. п.).

6. Прапанаваць Дзяржвыдавецтву і Картатрэсту забяспечыць выданне па заяўках Наркамасветы геаграфічных карт, атласаў, карцін, табліц і іншых вучэбных дапаможнікаў па геаграфіі.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.

# Аб партыйна-масавай рабоце на торфараспрацоўках

ЦК ВКП(б), абмеркаваўшы пытанне аб становішчы партыйна-масавай работы на торфараспрацоўках, пастанавіў увесці на ўсіх буйных торфараспрацоўках са здабычай звыш 100 тыс. тон торфу інстытут парторгаў, непасрэдна падпарадкаваных адпаведным крайкомам, абкомам і ЦК нацкампартый.

Маскоўскаму, Ленінградскаму, Свярдлоўскаму, Іванаўскаму і Заходняму абкомам, ЦК КП(б)У, ЦК КП(б)Б і Горкаўскаму крайкому прапанавана падабраць і назначыць на работу ў якасці парторгаў работнікаў з вопытам работы не ніжэй сакратара буйнага райкома.

Асноўнымі задачамі парторгаў ЦК лічыць:

а) Забяспечанне вядучай ролі комуністаў і комсамольцаў на вытворчасці. Парторг павінен дабіцца, каб члены партыі і ВЛКСМ сапраўды ўзначальвалі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, давалі ўзоры соцыялістычных адносін да працы, згуртоўваючы на гэтай аснове кадры сезонных рабочых.

б) Забяспечанне гатоўнасці торфапрадпрыемстваў к прыёму рабочых (рамонт і абсталяванне інтэрнатаў, сталовых, лазняў, чырвоных куткоў і т.д.) і арганізацыі сустрэчы прыбываючых рабочых.

в) Умацаванне партыйнымі і комсамольскімі кадрамі ўчасткаў і агрэгатаў і правільная расстаноўка ўсіх членаў і кандыдатаў ВКП(б) і ВЛКСМ, якія ёсць на торфапрадпрыемстве, і перакідка большасці з іх непасрэдна на вытворчасць.

г) Разгортванне масавай палітычнай работы сярод рабочых і ІТР, мабілізацыя іх на выкананне плана здабычы, сушкі і ўборкі торфу, сканцэнтраваўшы асноўную ўвагу на рабоце ў брыгадзе, арганізуючы праз актыў соцспаборніцтва і ўдарніцтва як унутры брыгад, так і паміж брыгадамі, паасобнымі агрэгатамі і ўчасткамі.

д) Вядзенне масавай палітычнай работы ў бараках, арганізацыя чырвоных куткоў, тэхвучобы і грамадска-тэхнічных экзаменаў, паліт-гурткоў, школ лікбеза, насценгазет і т. д.

е) Удзел у падборы начальнікаў машын і агрэгатаў, начальнікаў палёў і ўчасткаў, дзесятнікаў, камендантаў пасёлкаў і брыгадзіраў і работа па замацаванню іх на ўвесь сезон.

Улічваючы, што на торфараспрацоўках працуе вялікая колькасць жанчын, ЦК прапанаваў райкомам, абкомам і ЦК нацкомпартый на тых торфараспрацоўках, дзе будуць назначаны парторгі, выдзеліць у дапамогу ім жаноргаў для вядзення масавай палітычнай работы сярод тарфяніц.

# Аб мерапрыемствах па масавай рабоце сярод калгасніц, работніц соўгасаў і аднаасобніц у перыяд праполачнай і ўборачнай кампаній

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Маючы на ўвазе, што ў праполачнай і ўборачнай кампаніях ва ўмовах Беларусі жаночая праца мае велізарнае прымяненне, а ў такіх раёнах, як Веткаўскі, Тэрахаўскі, Лоеўскі і інш.—рашаючае значэнне, неабходна цяпер-жа пачаць палітычную і арганізацыйную работу сярод жанчын-калгасніц, работніц соўгасаў і аднаасобніц.

**ЦК КП(б)Б прапануе:**

1. ГК, РК і палітаддзелам павесці неадкладна шырокую работу па падрыхтоўцы да праполкі калгасніц і аднаасобніц, у прыватнасці арганізаваць па калгасах і дзесяцідворках шырокія вытворчыя нарады, на якіх абгаварыць усе пытанні, звязаныя з праполкай.

2. З 1 па 10 чэрвеня правесці раённыя злёты ўдарніц-калгасніц і работніц соўгасаў па пытаннях вынікаў сяўбы, ходу праполкі і задач уборачнай работы, абавязаўшы РК і палітаддзелы спачатку дакладна падрыхтаваць гэтыя злёты.

15-га чэрвеня склікаць агульнабеларускі злёт лепшых ударніц-калгасніц і работніц соўгасаў, паказаўшых ударную работу па праполцы, шырока прапагандуючы падрыхтоўку к гэтаму злёту сярод жанчын-калгасніц і работніц соўгасаў.

Арганізацыю злёту даручыць сельгасаддзелу ЦК КП(б)Б, Палітсектару і Наркамзему.

3. Сельгасаддзелу ЦК, палітсектару МТС, НКЗ і ЦВК арганізаваць 25 мая радыёпераклічку па пытаннях ўдзелу калгасніц і работніц соўгасаў у праполачнай і ўборачнай кампаніях. Прыцягнуць да выступленняў па пераклічцы жанчын—памочнікаў брыгадзіраў звенневых, старшынь калгасаў, работнікаў райкомаў, палітаддзелаў і райвыканкомаў, рэдактароў раённых і палітаддзельскіх газет.

4. Тт. Баскіну, Балціну і Гурэвічу ўзяць пад свой асабісты нагляд пытанні снабжэння калгасных ясляў, дзіцячых пляцовак неабходнымі промтаварамі, начыннем і прадуктамі харчавання з боку харчовай, гандлёвай і кааператыўнай сеткі ў перыяд праполачнай і ўборачнай кампаній.

5. Цэнтральным газетам на чале з газетай «Звязда», раённым і палітаддзельскім, а таксама ГК і РК КП(б)Б з 20 мая па 1 чэрвеня арганізаваць масавы агляд падрыхтоўкі і стану ясляў і дзіцячых пляцовак, уцягваючы ў агляд і ўзаемаправерку масы калгасніц і аднаасобніц.

6. ЦСПСБ, гар-і райпрофсаветам арганізаваць у перыяд падрыхтоўкі да нарад выезды шэфскіх арганізацый у калгасы і сустрэчы іх

з калгасніцамі і работніцамі соўгасаў. Побач з тэтым узмацніць шэфства над яслямі, пляцоўкамі і калгаснымі сталоўкамі.

7. Наркаматам асветы і аховы здароўя арганізаваць конкурс на лепшую работу калгасных ясляў і дзіцячых пляцовак у перыяд сельскагаспадарчых работ. Не пазней 25 мая апублікаваць умовы конкурса.

8. Цэнтральным, раённым і палітаддзельскім газетам устанавіць спецыяльныя паласы паказу работы калгасніц, соўгасніц і перадавых сялянак-аднаасобніц у перыяд праполачных і ўборачных работ. Раённым і палітаддзельскім газетам, а таксама калгасным і брыгадным насценгазетам забяспечыць асвятленне работы жанчын—памочнікаў брыгадзіраў, звеннявых і калгасніц—на старонках калгаснага друку.

# Аб рабоце вячэрніх комвузаў

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

**ЦК КП(б)Б канстатуе:**

Што ў рабоце вячэрніх комвузаў ёсць буйнейшыя недахопы: надзвычай вялікі адсеў слухачоў, нездавальняючае наведванне заняткаў, частыя зрывы заняткаў, нізкая якасць вучобы і слабая паспяховасць, у выніку чаго яшчэ да гэтага часу паасобныя комвузы (Гомель), не гледзячы на трохгадовы перыяд існавання, не зрабілі ніводнага выпуску.

Гарадскія і раённыя камітэты партыі нездавальняюча кіруюць работай ВКУ. Жлобінскі РК замест таго, каб замацаваць работу комвуза, ставіць пытанне аб яго ліквідацыі.

Сакратары парткомаў пярвічных партарганізацый, парторгі не правяраюць, як наведваюць і як вучацца іх комуністы ў ВКУ, не кіруюць вучобай таварышоў.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б, асабліва гомельскаму і жлобінскаму, прыняць неадкладныя меры да знішчэння адзначаных недахопаў у рабоце ВКУ, звярнуўшы асаблівую ўвагу на якасць вучобы.

2. Лічыць неабходным арганізацыю для выпускных курсаў комвузаў месячных канферэнцый з вызваленнем ад работы для поўнага скончэння праграмы і паглыбленай прапрацоўкі асобных раздзелаў вучэбнага плана.

Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б—Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Барысаў, Бабруйск, Полацк, Жлобін—з 1 чэрвеня арганізаваць такія канферэнцыі і правесці ў гэтым годзе арганізаваны выпуск слухачоў другога курса ВКУ.

3. Абавязаць ГК і РК КП(б)Б устанавіць сістэматычны кантроль і праверку работы вячэрніх комвузаў, перыядычна заслухоўваючы загадчыкаў ВКУ на бюро ГК і РК аб рабоце.

4. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б ужо зараз заняцца падрыхтоўкай і камплектаваннем асенняга набору ВКУ за лік заводскага і раённага актыва, звярнуўшы асаблівую ўвагу на палепшанне якасці слухачоў.

Сакратар ЦК КП(б)Б **ГІКАЛО.**

Галоўлітбел №А 3644.
Тыраж 6.560.
264.000 друк. зн. (5 арк.)
Здана ў набор 20/VI—34 г.
Падпісана да друку 5/VI—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. { *А. Мацкевіч* / *З. Варатынская* }

*Рэдкалегія* { Мінкін (адк. рэдактар) / Конік / Злоткін }

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 753.





ЦАНА 25 КАП.

*Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!*

# Інстытут масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК КП(б)Б

„У нашай праграме кожны параграф ёсць тое, што павінен ведаць, усвоіць і разумець усякі працоўны" (ЛЕНІН).

„2. Член партыі абавязан:

... б) безупынна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам" (з статута Усесаюзнай Камуністычнай Партыі (большэвікоў).

**Інстытут у чэрвені—жніўні 1934 г. перадае для членаў і кандыдатаў КП(б)Б і шырокага беспартыйнага актыва**

## ЦЫКЛ РАДЫЁЛЕКЦЫЙ

## па пытаннях праграмы і статута Комінтэрна і ВКП(б)

**11-га чэрвеня** — У барацьбе з якімі ворагамі вырас, акрэп і загартаваўся большэвізм (1-я лекцыя).
**17-га чэрвеня** — У барацьбе з якімі ворагамі вырас, акрэп і загартаваўся большэвізм (2-я лекцыя).
**23-га чэрвеня** — Арганізацыйныя асновы большэвізма.
**29-га чэрвеня** — Аб пярвічнай партыйнай арганізацыі.
**5-га ліпеня** — Сусветная сістэма капіталізма і яе немінучая пагібель.
**11-га ліпеня** — Вучэнне Леніна—Сталіна аб перамозе соцыялізма ў адной краіне.
**17-га ліпеня** — Аграрная праграма ВКП(б).
**23-га ліпеня** — Асновы эканамічнай палітыкі пролетарскай дыктатуры (1-я лекцыя).
**29-га ліпеня** — Асновы эканамічнай палітыкі пролетарскай дыктатуры (2-я лекцыя).
**5-га жніўня** — Нацыянальнае пытанне ў праграмах ВКП(б) і Комінтэрна.
**11-га жніўня** — Роля партыі на сучасным этапе.
**17-га жніўня** — Задачы ідэйна-палітычнай работы партыі.
**23-га жніўня** — Правы і абавязкі членаў партыі (Статут ВКП(б)).
**29-га жніўня** — Кантроль выканання на даным этапе.

**Працягласць кожнай радыёлекцыі 55 мінут.**
**Радыёлекцыі гэтага цыкла перадаюцца праз Менскую радыёстанцыю з 19 г. 45 м. да 20 г. 45 м.**

Перадачу лекцый слухайце калектыўна ў спецыяльна абсталяваных радыёаўдыторыях, якія знаходзяцца ў партгабінетах райкомаў, у палітаддзелах МТС і соўгасаў, у калгасах, на буйных прадпрыемствах і т. п. У гэтых радыёаўдыторыях арганізуецца кансультацыя прапагандыстаў па пытаннях, звязаных з праслуханай лекцыяй.

**Пытанні, заўвагі і водзывы аб праслуханых радыёлекцыях накіроўвайце па адрасу:**

**Менск, вул. К. Маркса, 47-30, Інстытут масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК КП(б)Б.**